***VERITAS № 1(4)***
***2006***

Бюлетэнь БГА “ Ветэраны Адраджэньня”



тэл. (017) 296-43-15
e-mail: vieterany@tut.by



**ЗЬМЕСТ**

## З жыцьця аб'яднаньня

*Часоваму Паверанаму ў справах Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь Яну Канторчыку*

У часы больш як стогадовай акупацыі Беларусі царскай Расеяй было забаронена ўжыванне беларускай мовы і праводзілася жорсткая русіфікацыя. У гады Першай сусветнай вайны акупацыйныя ўлады кайзераўскай Германіі надалі беларускай мове статус афіцыйнай, дазволілі адукацыю на беларускай мове і нават спрыялі развіццю беларускай культуры. Наступіўшы затым акупацыйны камуністычны рэжым зноў вярнуўся да палітыкі русіфікацыі беларускага народу.

Намі атрымана інфармацыя, што радыёстанцыя "Deutsche Welle" плануе распачаць на Беларусь расейскамоўнае вяшчанне. Ні кайзэраўская, ні нават фашыстоўская Германія ніколі не спрыялі русіфікацыі беларусаў. Выклікае наша бязмежнае здзіўленне і абурэнне, што да гэтага хоча спрычыніцца Германія дэмакратычная.

Не – русіфікацыі Беларусі!

Жыве Беларусь!

*Па даручэнні Управы Беларускага грамадскага Аб'яднання "Ветэраны Адраджэння" старшыня аб'яднання М. М. Чарняўскі*

*21 ліпеня 2005 г.*

*Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Мінску*
*Мінск, 10 жніўня 2005 г.*

*Сп. М. М. Чарняўскаму.*

У сувязі з паступаючымі на імя Пасла Германіі лістамі, у якіх выказваецца пратэст супраць арганізацыі перадач радыёстанцыі "Нямецкая хваля" па беларускай тэматыцы на рускай мове, Пасольства займае наступную пазіцыю:

1. Для "Нямецкай хвалі" пытанне заключаецца ў тым, ці трансліраваць абмежаваны па часу інфармацыйны блок на рускай мове, матэрыялы якога мелі б асаблівую цікавасць для слухачоў у Рэспубліцы Беларусь, або захаваць усё ў ранейшым выглядзе, г. зн. без спецыяльных перадач па беларускай тэматыцы.

Такім чынам, аб стварэнні на радыёстанцыі "Нямецкая хваля" праграмы на беларускай мове гаворка не ідзе.

На думку Пасольства, імкненне "Нямецкай хвалі" садзейнічаць устараненню інфармацыйнага дэфіцыту ў Беларусі заслугоўвае прызнання.

2. Беларускія грамадзяне патрабуюць у сваіх лістах на імя Пасла Германіі стварэння праграмы "Нямецкай хвалі" на беларускай мове. Пры гэтым складваецца ўражанне, што яны аддалі б перавагу таму, каб існуючая зараз сітуацыя, пры якой на "Нямецкай хвалі" не будзе асобнага праграмнага элемента для Беларусі, захавалася б і надалей.

Пасольства спадзяецца, што гэтыя лісты з выказваннем пратэсту не стануць для "Нямецкай хвалі" падставай для адмовы ад плануемага радыёстанцыяй беларускага праграмнага элемента.

3. Радыёстанцыя "Нямецкая хваля" ажыццяўляе сваё вяшчанне на мовах, колькасць якіх абмежавана. Яна імкнецца заўсёды арыентавацца на актуальныя тэмы. Пры гэтым яна не мае фінансавых сродкаў для стварэння праграмы на беларускай мове.

Апытанні грамадскай думкі, якія праводзяцца незалежнымі інстытутамі, пацвярджаюць важную ролю рускай мовы, як адной з дзьвюх афіцыйных моваў, асабліва ў палітычнай сферы.

### Выпіска з пратакола паседжаньня Управы Беларускага грамадзкага аб'яднаньня "Ветэраны Адраджэньня"

1 кастрычніка 2005 г. г. Менск

Прысутнічалі: М. Чарняўскі – старшыня, У. Крукоўскі, У. Арлоў, З. Санько, З. Тарасевіч, В. Мазынскі, А. Марачкін, С. Ёрш, Т. Кабанчук.

Парадак дня:

1. Аб правядзеньні пікету пратэсту супраць расейскамоўных перадач на Беларусь нямецкай радыёстанцыі "Deutsche Welle".
2. Аб працы над зборам матэрыялаў па беларускай гістарычнай геральдыцы.
3. Рознае.

**1. СЛУХАЛІ**: М. Чарняўскі напомніў, што Управа БГА "Ветэраны Адраджэньня" ўжо выступала з пратэстам супраць рашэньня "Deutsche Welle" і што ў адказе з амбасады Федэратыўнай Рэспублікі Германія выказана падтрымка рашэньня радыёстанцыі. У сувязі з гэтым аб'яднаньню варта ўжыць іншую форму пратэсту, а менавіта – зладзіць пікет.

**Выступілі**: В. Мазынскі, А. Марачкін, З. Санько, У. Крукоўскі, С. Ёрш, якія падтрымалі намер правесьці пікет.

**Вырашылі**:

1) прасіць Менгарвыканкам дазволіць Управе БГА "Ветэраны Адраджэньня" правесьці пікет у знак пратэсту супраць распачатых расейскамоўных перадач на Беларусь нямецкай радыёстанцыі "Deutsche Welle" 28 кастрычніка (у сераду) з 13 гадз. 15 хв. да 13 гадз. 45 хв. (усяго 30 хвілін) каля амбасады Федэратыўнай Рэспублікі Германія (на рагу пл. Перамогі і вул. Захарава, размешчаным больш за 50 мэтраў ад будынка амбасады);

2) прызначыць адказным за арганізацыю і правядзеньне пікету М. Чарняўскага;

3) ускласьці падрыхтоўку плякатаў і транспарантаў для пікету на У. Крукоўскага;

4) пагадзіцца з магчымай зьменай Менгарвыканкамам месца правядзеньня пікету.

**Галасавалі**: "за" – 8, "супраць" – 0, "устрымаліся" – 0.

**2. СЛУХАЛІ**: У. Крукоўскі паінфармаваў аб працягу працы над зборам матэрыялаў па беларускай гістарычнай геральдыцы.

**Вырашылі**: Актывізаваць збор матэрыялаў па беларускай гістарычнай геральдыцы.

**Галасавалі**: "за" – 8, "супраць" – 0, "устрымаліся" – 0.

**3. У "Розным"** абмеркавалі ход падрыхтоўкі да выпуску чарговага нумару бюлетэня аб'яднаньня.

Старшыня пасяджэньня
*М. Чарняўскі*
Сакратар пасяджэньня
*У. Крукоўскі*

*У Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт*
*Управы Беларускага грамадскага*
*аб'яднання "Ветэраны Адраджэння"*
*(юрыдычны адрас: 220040,*
*г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 155,*
*прыбудова да корп. 1, п. 128)*

**Заява аб правядзенні**
**масавага мерапрыемства**

Управа БГА "Ветэраны Адраджэння" просіць даць дазвол на правядзенне пікетавання з меркаванай колькасцю ўдзельнікаў да 20 чалавек з мэтай выражэння пратэсту супраць распачатых нямецкай радыёстанцыяй "Deutsche Welle" расейскамоўных перадач на Беларусь.

Месца правядзення мерапрыемства – каля ўваходу ў парк імя М. Горкага з боку плошчы Перамогі (месца знаходзіцца больш за 50 м ад пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія).

Дата правядзення мерапрыемства – 28 кастрычніка 2005 г.

Час правядзення мерапрыемства – з $13^{15}$ да $13^{45}$ гадзін.

Правядзенне шэсця пад час пікету не прадугледжана.

Арганізатары мерапрыемства: Управа БГА "Ветэраны Адраджэння".

Адказны за мерапрыемства па даручэнні Управы Аб'яднання: Старшыня БГА "Ветэраны Адраджэння" Чарняўскі Міхаіл Міхайлавіч (220107, Мінск, вул. Васняцова, 13-28, тэл. 284-13-22, пенсіянер).

Арганізатары бяруць на сабе забеспячэнне грамадскага парадку і бяспекі пад час пікетавання, а таксама меры па медычным абслугоўванні, прыборцы тэрыторыі пасля мерапрыемства.

Дадаткі:

1. Выпіска з пратакола БГА "Ветэраны Адраджэння";
2. Абавязацельства арганізатараў.

Старшыня БГА "Ветэраны Адраджэння"
*М. М. Чарняўскі*

*Старшыні Управы*
*БГА "Ветэраны Адраджэння"*
*Чарняўскаму М.М.*
*(№ 03/1-03-666 ад 17.10.2005)*

У Мінскім гарадскім выканаўчым камітэце разгледжана Ваша заява аб правядзенні 28 кастрычніка 2005 г. з 13.30 да 13.45 пікетавання каля ўваходу ў парк імя М. Горкага.

Мінгарвыканком дазваляе правесці 28 кастрычніка 2005 г. з 13.30 да 13.45 пікетаванне ў парку Дружбы Народаў (раён плошчы Бангалор) без стварэння перашкод пешаходнаму і транспартнаму руху агульнай колькасцю ўдзельнікаў да 20 чалавек.

Канкрэтнае месца правядзення мерапрыемства, пытанні забеспячэння грамадскага парадку неабходна ўзгадніць з ГУУС Мінгарвыканкома.

Разам з тым нагадваем, што захаванне грамадскага парадку і дзеючага заканадаўства ўдзельнікамі мерапрыемства ажыццяўляюць яго арганізатары і што за парушэнне парадку арганізацыі правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання прадугледжана адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Намеснік старшыні *М. А. Пятрушын*

## Адбыўся пікет супраць расейскамоўнага вяшчаньня на Беларусь

*Валянціна Аксак, Менск*

У Менску на пляцы Бангалор адбыўся пікет грамадзкай арганізацыі "Вэтэраны Адраджэньня". Удзельнікі пікету выступілі супраць расейскамоўных праграмаў на Беларусь нямецкай радыёстанцыі "Дойчэ вэле", якія яна пачала трансьляваць 3 кастрычніка сёлета.

У пікеце, які з дазволу гарвыканкаму доўжыўся паўгадзіны, бралі ўдзел знаныя дзеячы беларускага адраджэньня – мастак Аляксей Марачкін, скульптар Алесь Шатэрнік, археоляг Эдвард Зайкоўскі і іншыя. Усе яны трымалі плякаты з пратэстам супраць расейскамоўных праграмаў "Дойчэ вэле" на Беларусь.

Вось што сказаў на пытаньне нашага радыё пра прычыны гэтага пратэсту вядомы рэжысэр, стваральнік тэатру "Вольная сцэна" Валер Мазынскі: "Слухаў я гэтыя праграмы. Яны апраўдваюцца амаль у кожнай праграме, што немагчыма па-беларуску, што іх слухае бальшыня, што размаўляе па-расейску і па-расейску разумее лепш. Гэта так сьмешна і наіўна. І я, можа, не зьвярнуў бы ўвагі на гэтыя пятнаццаць хвілінаў, але тут ёсьць справа прынцыпу: гэта для мяне гучыць як непавагаі зьнявага".

Сёньняшні пікет – ня першы пратэст вэтэранаў адраджэньня супраць пазыцыі нямецкае радыёстанцыі. Гаворыць старшыня арганізацыі, знаны гісторык Міхась Чарняўскі: "У сярэдзіне лета мы пасылалі афіцыйны ліст ад управы грамадзкага аб'яднаньня "Вэтэраны Адраджэньня" амбасадзе Нямеччыны. Вельмі хутка атрымалі адказ, асноўны сэнс якога, што "Дойчэ вэле" правільна робіць. І там было напісана, што не стаіць пытаньне па-беларуску, а стаіць пытаньне альбо па-расейску, альбо ніяк". Ігнараваньне думкі беларускіх адраджэнцаў у моўнай палітыцы вяшчаньня "Дойчэ вэле" на Беларусь закранае нацыянальныя пачуцьці цэлага народу, лічыць спадар Чарняўскі. "Перадачы "Дойчэ вэле" па-расейску на Беларусь – гэта, мы лічым, проста абраза і зьнявага беларускага народу".

Пікет прайшоў без эксцэсаў. Міліцыянты рэагавалі на яго спакойна, а мінакі актыўна цікавіліся пазыцыяй пікетоўцаў.

*(Свабода, 28 кастрычніка 2005 г.)*

* * *

## Паведамленне БелаПАН ад 29.10.2005

28 кастрычніка беларускае грамадскае аб'яднанне "Ветэраны Адраджэння" правяло ў Мінску санкцыянаваную акцыю пратэсту супраць рускамоўнага вяшчання на Беларусь "Немецкой волны".

У паўгадзінным пікетаванні, якое адбылося ў раёне плошчы Бангалор, прынялі ўдзел каля 10 сяброў аб'яднання. Яны трымалі расцяжкі з тэкстамі і малюнкамі, у якім выказвалася нязгода з пазіцыяй кіраўніцтва радыёстанцыі.

У інтэрв'ю БелаПАН старшыня аб'яднання, гісторык і археолаг Міхась Чарняўскі адзначыў, што цяперашняя сітуацыя пацвярджае традыцыйныя адносіны Берліна і Масквы да Цэнтральнай Еўропы. "Яшчэ ў 1514 годзе паміж маскоўскім вялікім князем Васілём III і германскім імператарам Максіміліянам I быў падпісаны вечны ваенны саюз пра сумесныя дзеянні супраць Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага з мэтай іх захопу. Гэта палітыка праводзіцца ўжо амаль 500 гадоў, і двойчы Расеі і Германіі ўдавалася падзяліць Цэнтральную Еўропу, аднак калі гэта адбывалася, Масква і Берлін сутыкаліся і пачыналіся сусветныя войны. Так было ў жніўні 1914 і ў верасні 1939 года".

М. Чарняўскі мяркуе, што "без беларускай мовы не можа быць беларускай дзяржавы, а без незалежнай Беларусі – дэмакратыі, бо яна магчымая толькі ў суверэннай дзяржаве, а не ў калоніі".

Па словах тэатральнага рэжысёра Валерыя Мазынскага, у пазіцыі кіраўніцтва "Немецкой волны" адлюстраваліся "адносіны да беларускай мовы і незалежнасці Беларусі". Наша акцыя будзе працягвацца да таго часу, пакуль "Немецкой волны" не загаворыць па-беларуску. Калі радыёстанцыя шчыра хоча дапамагчы беларусам, яна павінна гаварыць з беларусамі на іх роднай мове", заявіў В. Мазынскі БелаПАН.

*29 кастрычніка 2005 г.*

* * *

*Старшыні Мінгарвыканкама*
*Паўлаву М.Я.*

Паважаны Міхаіл Якаўлевіч.

Каля пяці гадоў назад са сцяны кінатэатра "Вільнюс" на вул. Каліноўскага была скрадзеная памятная дошка, прысвечаная выдатнаму рэвалюцыйнаму дэмакрату XIX стагоддзя, кіраўніку паўстання ў Беларусі 1863–64 гг., публіцысту і паэту Кастусю Каліноўскаму. Беларускае грамадскае аб'яднанне "Ветэраны Адраджэння" просіць Вас паспрыяць аднаўленню памятнай дошкі К. Каліноўскаму і хутчэйшай устаноўцы яе на ранейшым месцы на будынку кінатэатра "Вільнюс".

По даручэнні Управы Беларускага грамадскага
аб'яднання "Ветэраны Адраджэння"
старшыня аб'яднання
*М. М. Чарняўскі*

## Хроніка баявых дзеяньняў войска генерала Булак-Балаховіча

*Станіслаў Булак-Балаховіч нарадзіўся 29 студзеня 1883 году ў маёнтку Мейшты Браслаўскага павету. Вайсковы і палітычны дзяяч, з дробнай беларускай шляхты. Удзельнік Першай сусьветнай і Грамадзянскай войнаў – у складзе расейскай арміі, затым Чырвонай, бараніў Эстонію ад бальшавікоў, ваяваў на баку Юдзеніча, дзе за заняцьце Пскова атрымаў чын генерал-маёра. 20 студзеня 1920 году пры садзеяньні Вайскова-дыпламатычнай місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі далучыўся з сваёй кавалерыяй да войска БНР. У выніку пагадненьня беларускага боку зь Язэпам Пілсудзкім у сакавіку таго году балахоўцы перайшлі ў Беларусь, а з пачатку лета распачалі баявыя дзеяньні супраць бальшавікоў, якія вялі да канца 1921 году. Вядомы Булак-Балаховіч і як беларускі паэт. Загінуў у верасьні 1939 году, бароначы Варшаву ад немцаў.*

### 1920 год

***Чэрвень***
Аддзелы генерала Станіслава Булак-Балаховіча ўлучаюцца ў баявыя дзеяньні супроць бальшавісцкіх войскаў.

***30 чэрвеня***
На паўднёвым участку Палескага фронту аддзелы добраахвотнікаў ген. Булак-Балаховіча ажыцьцявілі ўдалую атаку ў кірунку Славечны, дзе зьнішчылі і расьцерушылі непрыяцельскія абозы, захапіўшы колькі дзясяткаў палонных, а таксама здабыўшы амуніцыю і вайсковыя матэрыялы.

***1 ліпеня***
На паўднёвым Палесьсі пад уплывам бліскучай акцыі добраахвотніцкага аддзелу ген. Ст. Булак-Балаховіча значная частка варожых жаўнераў перайшла на ягоны бок.

***3 ліпеня***
На поўдзень ад Прыпяці аддзелы ген. Балаховіча атакавалі Вяледнікі, дзе знаходзіўся штаб 2-й бальшавіцкай брыгады. У выніку акцыі штаб брыгады з усім абсталяваньнем і маёмасьцю трапіў у рукі балахоўцаў, а полк быў абкружаны. Вырываючыся з атачэньня, бальшавікі панесьлі вялікія страты: пакінулі кулямёты, харчовыя склады і каля 100 абозных вазоў.

***7 ліпеня***
На Палесьсі пад уплывам сьмелага рэйду аддзелаў ген. Балаховіча ў тылы непрыяцеля ў ваколіцах Вяледнікі – Оўруч, а таксама выпадаў польскіх аддзелаў на Махновічы – Скрыгалаў – Рацуры непрыяцель заставаўся малаактыўным, не адзначана вялікіх вайсковых дзеяньняў.

***10 ліпеня***
Войскі Балаховіча займаюць абарончыя пазіцыі над ракою Стыр.

***21 ліпеня***
На Палесьсі, на поўдзень ад Прыпяці, непрыяцель імкнуўся нэўтралізаваць актыўныя наступальныя дзеяньні корпусу ген. Балаховіча, сканцэнтраваў дывізію пяхоты і значную колькасьць кавалерыі, атрымоўваючы лакальныя посьпехі над Стырам.

***23 ліпеня***
Войска Балаховіча пачало адыход на Камень-Кашырскі. У часе адыходу генерал з сваёй асабістай сотняй вершнікаў і групай іншых найлепшых кавалерыстаў прарваўся ў тылы бальшавікоў, ажыцьцяўляючы дывэрсіі і сеючы паніку.

***2 жніўня***
Балахоўцы разьбілі аддзел бальшавіцкага войска і ўзялі каля сотні палонных.

***Ноч з 14 на 15 жніўня***
Балаховіч распачаў наступ на Пухачаў – Уладаву.

***17 жніўня – 7 верасьня***
Войска Балаховіча вяло баявыя дзеяньні ў Пабужжы ў раёне Уладавы.

***23 жніўня***
Корпус ген. Балаховіча пад час атакі на Пішчу здабыў дзьве гарматы і вялікую колькасьць палонных.

***27 жніўня***
Балахоўцы выбілі праціўніка зь Пярсэпы і Хрыпскай Волі.

***5 верасьня***
На ўчастку Буга адбітыя новыя атакі непрыяцеля. Адзін з бальшавіцкіх аддзелаў пад Уладавай быў уцягнуты ў засаду войскам ген. Балаховіча і ў часе перасьледу цалкам разгромлены.

***10 верасьня***
Корпус ген. Балаховіча пад час атакі на Смаляры захапіў 330 палонных.

***15 верасьня***
Войска генерала здабыло Камень-Кашырскі, захоплена каля 1000 палонных і 500 абозных вазоў.

***16 верасьня***
Аддзелы Булак-Балаховіча ваююць у ваколіцах Пінска.

***21–22 верасьня***
У часе начнога наступу на Дэрэвэк-Любешаў бала-

хоўцы разьбілі 88-мы бальшавіцкі полк і захапілі 400 палонных і амуніцыю.

***27 верасьня***
Войска Булак-Балаховіча вызваліла Пінск, чым выклікала ўцёкі бальшавіцкага войска з Дарагічына і Янава.

***Кастрычнік***
У Пінску знаходзіўся штаб войска ген. Булак-Балаховіча.

***9 кастрычніка***
Ген. Люцыян Жалігоўскі з сваімі “бунтоўнымі аддзеламі” заняў Вільню, а пазьней – Сьвянцяны, Вялейку, Слуцак, Маладзечна і Радашкавічы.

***12 кастрычніка***
У Рызе падпісаная Дамова аб замірэньні паміж Польшчай, РСФСР і Ўкраінскай ССР. Гэта азначала заканчэньне польска-бальшавіцкай вайны.

***15 кастрычніка***
Польскі сэйм, трымаючыся артыкулаў Рыскага замірэньня з Саветамі (12 кастрычніка), запатрабаваў ад найвышэйшага камандаваньня выдаленьня да 2 лістапада з тэрыторыі дзяржавы ўсіх няпольскіх вайсковых фармаваньняў, у тым ліку і войска ген. Булак-Балаховіча.

***5 лістапада***
Паводле пляну дзеяньняў арміі ген. Булак-Балаховіча, меркаваўся выхад на лінію Оўруч – Мазыр – Жлобін, як зыходную пазіцыю для наступу на Бабруйск і Барысаў. Гэтыя дзеяньні павінны былі стаць пачаткам вызваленьня Беларусі. Войскі рушылі ў наступ з-пад Турава – ужо на савецкім баку. Перад імі знаходзіліся разрозьненыя аддзелы 16-й бальшавіцкай арміі. За два дні ген. Булак-Булаховіч дасягнуў раёну Мосевічы – Петрыкаў.

У арміі Булак-Балаховіча акрамя беларусаў знаходзіліся расейцы, палякі, фіны, эстонцы, латышы і нават швэды. Існаваў і габрайскі аддзел. Яна мела тры дывізіі пяхоты (№ 1, 2 і 3), сялянскую брыгаду пяхоты, кавалерыйскую дывізію, асобны полк кавалерыі, полк данскіх казакоў, асабістую сотню начальніка арміі і чыгуначны полк. З 20 тысяч чалавек усяго войска на баявыя аддзелы прыпадала 14 750 жаўнераў, зь якіх у першым шэрагу было блізу 75%, г. зн. 11 тысяч штыкоў і шабляў.

Самыя аддзелы розьніліся складам, забесьпячэньнем і баявымі вартасьцямі. Бясспрэчна найлепшай была 1-я дывізія – “дывізія сьмерці”, ядро якой складаў аддзел, прыведзены генералам яшчэ з Эстоніі. Яна мела надзейных ваяроў, цалкам адданых свайму правадыру, добра абстрэленых у шматлікіх баёх зь немцамі, белымі і бальшавікамі. 2-я дывізія была сфармаваная ў канцы жніўня. Асновай яе каманднага складу былі афіцэры-балахоўцы. Аднак пераважную бальшыню дывізіі складалі афіцэры і жаўнеры, набраныя ў лягерах бальшавіцкіх ваеннапалонных, часам цэлымі аддзеламі.

***9 лістапада***
Палкоўнік Паўлоўскі разьбіў каля Раманаўкі бальшавіцкі 84-мы пяхотны полк і позна ўвечары пачаў бой з 83-м палком. Палкоўнік Матвееў у выніку шматлікіх сутычак зь непрыяцелем заняў у гэты самы дзень Скрыгалаў. Быў захоплены штандар 10-га кавалерыйскага палка. Палкоўнік Жгун заняў Жахавічы і Касьцюховічы.

***10 лістапада***
Фронт стаў на лініі Капаткевічы – рака Пціч – Майсееўка – Скрыгалаўская Слабада – Раманаўка. У гэты самы дзень палкоўнік Матвееў заняў Хомічкі, Прудок і далей сутыкнуўся з 86-м і 87-м палкамі бальшавіцкай пяхоты, лінія абароны якіх была ключом да Мазыра. Пасьля апошняга супраціву непрыяцеля каля Драздоў Пскоўскі полк а 1640 заняў Мазыр. Гэтым часам група палкоўніка Паўлоўскага коннай атакай захапіла Вялікія Зімовішчы і ўзяла ў палон блізу 50 чалавек і 2 кулямёты. Адначасова партызанскі полк, адрэзаўшы бальшавіком дарогу да адступленьня, узяў больш за 200 палонных ды таксама 2 кулямёты. Гэтыя ж палкі, злучыўшыся ў Мазыры, утварылі там з трохсот палонных жаўнераў Мазырскі полк.

Аддзел палкоўніка Жгуна, перайшоўшы Прыпяць, заняў мястэчка Каленкавічы (Калінкавічы) і станцыю такім самым назовам ды адначасова, пашкодзіўшы чыгуначную каляю, пазбавіў рухомасьці бальшавіцкі бранецягнік. Аднак далейшыя баі ў гэтым раёне не прынесьлі войскам Балаховіча ўдачы.

Такім чынам напрыканцы лістапада лінія наступу генерала Балаховіча пралягла празь Якімавічы – Кацуры – рака Прыпяць – Матрэнкі.

***11 лістапада***
Уначы на 12 лістапада капітан Вайцяхоўскі з часткаю Пскоўскага палка ўчыніў пасьпяховы налёт на штаб 28-й брыгады і 83-ці полк, што стаялі ў Міхалках: камбрыг і палітрук брыгады загінулі, балахоўцы захапілі камандзіра палка, 300 жаўнераў, лягер і 8 кулямётаў. 14 лістапада Менскі і Астроўскі палкі забралі ў бальшавікоў Каленкавічы.

Група палкоўніка Мікашы паўночнага крыла войска па тонкім лёдзе Прыпяці дайшла да Петрыкава і рушыла на Каленкавічы – Якімавічы ды 15 лістапада накіравалася на Жлобін. На паўднёвым крыле сялянская брыгада атамана Іскры, не сустракаючы асаблівага супраціву, дайшла 11 лістапада да Лельчыц, а 14 лістапада рушыла на Оўруч.

***12 лістапада***
Генерал Станіслаў Булак-Балаховіч у Мазыры абвясьціў незалежнасьць Беларусі ды пачаў стварэньне

беларускай народнай арміі. Ён выдаў шэраг актаў і загадаў, каб ухіліць рабункі і забойствы, папярэдзіць камуністычныя дывэрсіі ў тыле ды пашырэньне прапаганды ў палкох.

*15 лістапада*

Палкоўнік Матвееў здабыў Вялікія Аўцюковічы (Вялікія Аўцюкі), Хабна (Хобнае), а 16 лістапада – Макановічы і Бабылёў. На наступны дзень захапіў Карыстан.

У гэтым часе бальшавіцкая абарона пачала мацнець ды зьявіліся першыя прыкметы маральнага спаду ў стане балахоўцаў. Палкоўнік Матвееў праз памылковую інфармацыю пра непрыяцельскую пагрозу прыняў рашэньне павярнуць на Мазыр.

*16 лістапада*

У Мазыры генерал Булак-Балаховіч пачаў палітычныя дзеяньні – згодна з мэтаю ўсяго пачынаньня: 16 лістапада 1920 году прызначыў урад Беларускай рэспублікі. У склад ураду ўвайшлі наступныя палітыкі: Юдаўлец Мечыслаў Адамавіч – прэм'ер Рады міністраў, народны сацыяліст Павел Аляксюк – намесьнік прэм'ера Рады міністраў і міністар замежных справаў, Радаслаў Астроўскі – міністар асьветы, палкоўнік Бяляеў – вайсковы міністар, Язэп Сянкевіч – міністар фінансаў, гандлю і прамысловасьці. Сам генерал ачоліў камандаваньне беларускай арміяй, зародак якой ужо быў створаны. Апеку над добраахвотніцкім экспэдыцыйным корпусам, зь якім быў выправіўся ва Ўсходнюю Беларусь, даручыў свайму брату Язэпу.

Урад задэкляраваў палітычную праграму паводле наступных прынцыпаў:

1. Змаганьне за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі;
2. Скліканьне ў найбліжэйшы час Устаноўчага сходу;
3. Зямельная рэформа з адчужэньнем (экспрапрыяцыяй) абшарніцкай уласнасьці.
4. Будаваньне беларускай дзяржаўнасьці ў беспасярэднім зьвязе з Польскай рэспублікай, абапіраючыся на Антанту.

Нягледзячы на прайграную кампанію працяглы час пасьля яе заканчэньня палітычнае водгульле гэтых падзей лучылася зь імем Булак-Балаховіча.

*17 лістапада*

Уначы зь 17 на 18 лістапада ў вёсцы Хабна (Хобнае) на бок генерала Булак-Балаховіча перайшоў бальшавіцкі 424-ты стралковы полк.

Тае ж начы генерал пакінуў Мазыр. Пачалося адступленьне асноўных вайсковых фармаваньняў у кірунку да польскай мяжы. Дарма што бальшавікі ўсяляк імкнуліся перашкодзіць паходу, ім гэта не ўдалося. 26 лістапада асноўныя сілы беларускага войска перайшлі мяжу польскай дзяржавы.

*26 лістапада*

Змаганьне заканчвалася. Некаторыя разьяднаныя аддзелы добраахвотніцкай арміі шукалі прытулку за дэмаркацыйнай лініяй, на польскім баку. Першыя фармаваньні дасягнулі мяжы і перайшлі яе каля Альшанаў, натрапіўшы на жаўнераў 18-й пяхотнай дывізіі. Гэтага ж дня, згодна з польска-бальшавіцкімі пагадненьнямі, пачалося раззбраеньне беларускіх жаўнераў.

*28 лістапада*

А тым часам Булак-Балаховіч, застаючыся за Прыпяцьцю, ня мог выбрацца з пасткі. І толькі палкоўнік Жгун, ажыцьцявіўшы з экспэдыцыйным аддзелам новы рэйд на савецкі бок, вывеў генерала праз Альшаны за "рыскую" мяжу. Пад раніцу 28 лістапада генерал Балаховіч быў ужо на дарозе ў Давыд-Гарадок. Ён быў паранены і зьнясілены, з высокай тэмпературай. Рана на назе не была перавязаная і гнаілася.

*2 сьнежня*

Да 4 сьнежня доўжыўся пераход аддзелаў праз дэмаркацыйную лінію. Пераходзілі ў розных месцах, але пераважна ў навакольлі Альшанаў, каля Рэмеля. І хоць вайсковыя фармаваньні Булак-Балаховіча былі выведзеныя з акупаванай бальшавікамі тэрыторыі Беларусі, адтуль далятала водгульле несупынных баёў. Там біліся шматлікія партызанскія аддзелы гэтак званых "зялёных", якія яшчэ 20 сьнежня на нейкі час вызвалілі Слуцак. Некаторыя з тых аддзелаў перайшлі разам з балахоўцамі на польскі бок, прыкладам 28 сьнежня ў ваколіцах Нясьвіжу. Напэўна, гэта было менавіта фармаваньне "Зялёнага Дубу", што атрымала перамогу пад Слуцкам.

Тэкст хронікі пададзены паводле публікацыі: *G. Pukomski, B. Polak. W obronie Wilna, Grodna i Mińska. Front litewsko-biaporuski wojny polsko-bolszewickiej 1918–1920. Koszalin; Warszawa, 1994.*

*Падрыхтаваў да друку*
*Міхась Чарняўскі*

*Аляксандар Юршэвіч*

## Мой настаўнік

Ён не закрываў амбразуры дотаў сваім целам, не кідаўся пад танкі зь зьвязкай гранатаў. А быў Ігнат Мятла прадстаўніком самай мірнай прафэсіі – настаўнікам, беларускім настаўнікам. І большую частку свайго жыцьця ён прысьвяціў выхаваньню беларускіх дзяцей.

У Заходняй Беларусі ён шмат памагаў свайму брату – паслу польскага сэйму Пётру Мятле – у яго працы на беларускай ніве. Жыў у Вільні і ўдзельнічаў у выданьні беларускіх газэт і часопісаў, вельмі актыўна працаваў у арганізацыі гурткоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Пасьля разгрому Грамады працаваў у беларускай кнігарні ў Вільні і рыхтаваў сваіх землякоў да паступленьня ў Віленскую беларускую гімназію. Мой бацька, як часам быў у Вільні, прывозіў ад яго беларускія газэты, часопісы і кнігі. А калі дзядзька Ігнат прыяжджаў да сваіх бацькоў, заходзіў і да нас (з бацькам яны былі аднакурсьнікамі). Яны ўспаміналі мінулае, абмяркоўвалі апошнія падзеі. Я сядаў дзе-небудзь непадалёку, каб пачуць кожнае іх слова. Татаў сябар расказваў пра агульных знаёмых, вельмі перажываў, што не атрымлівае апошнім часам лістоў ад брата і некаторых землякоў, якія былі ўжо ў БССР. Абмяркоўвалі вынікі раскопак курганоў і гарадзішча ў нашай мясцовасьці, а таксама гіпотэзу Язэпа Драздовіча аб месцазнаходжаньні Дудутак і магчымым шляху на Нямігу Ўсяслава Чарадзея. Для мяне гэта былі вельмі цікавыя тэмы. Гаварылі і пра тых, хто вучыцца ў Віленскай беларускай гімназіі з нашай мясцовасьці, пра цяжкасьці, якія ім трэба было пераадолець. А я таксама марыў паступіць на вучобу ў Віленскую гімназію.

Такім чынам дзядзька Ігнат стаў для мяне аўтарытэтам. Ён добра ведаў гісторыю Беларусі, у тым ліку і нашай мясцовасьці, асабліва звязаную з курганамі, якія ў нас звалі швэдзкімі або францускімі.

Пасьля прыходу саветаў у лістападзе 1939 году ў нашай школе ў Язьне зьявіўся новы дырэктар – Ігнат Мятла. Ён прыехаў зь Вільні, падабраў сабе настаўнікаў (часткова з гімназістаў), якія добра ведалі беларускую мову, і пачаў вельмі актыўна працаваць. Вучыліся ня толькі дзеці, але й дарослыя. Навучаньне працягвалася па 9-10 гадзін і вынікі былі вельмі добрыя. Дарослыя навучыліся па-беларуску пісаць, чытаць, матэматыцы (арытмэтыцы), гісторыі, а дзеці поўнасьцю асвоілі праграму пяці клясаў (нас, колішніх вучняў польскай школы, панізілі на адну, а то й на дзьве клясы). Некалькі вучняў былі прэміяваныя экскурсіяй ў Менск. Былі і казусы: аднаго разу я быў сьведкам, калі тата зь дзядзькам Ігнатам абмяркоўвалі, здымак якога чалавека быў замазаны такой густой фарбай у падручніку гісторыі для 4-й клясы. Разгадалі: маршал Блюхер, якога, паводле іх слоў, расстралялі. І нават мне стала страшна.

Дырэктар дасягнуў галоўнай мэты, якую паставіў перад сабой і калектывам настаўнікаў, – навучыць беларускай мове, даць зразумець і цьвёрда пераканаць, што яна ня толькі ня горшая за польскую ці расейскую, але для беларусаў значна лепшая, лягчэйшая для навучаньня, бо дома ўсе гавораць на ёй. А колькасьць кніг на розныя тэмы даказвала, што гэта не "мужыцкая мова", як часам гаварылі незычліўцы. Было арганізавана некалькі бібліятэк. Кнігі бралі і чыталі зь цікавасьцю. Усе хацелі ведаць, што ўяўляе сабой савецкая ўлада. У газэтах і кнігах пра яе пісалі вельмі прыгожа. Праўда, зьявіліся першыя незразумелыя выпадкі – сталі зьнікаць людзі.

На канікулах для настаўнікаў былі арганізаваныя курсы. Зноў займаліся па дзесяць гадзін на дзень (гэта толькі лекцыі, апрача самастойнай падрыхтоўкі). Асабліва цяжкім для вучобы быў "Кароткі курс ВКПБ(б)" – да роспачы даводзіў, асабліва настаўніц (мая мама проста плакала). А ў канцы – прафсаюзны сход (прыём у прафсаюзы), раскажы біяграфію. Адзін з настаўнікаў шчыра сказаў: "Я быў у БСРГ – Грамадзе". Як ускочыць сакратар райкаму Зімянкова(?), як крыкне: "Нацдэм!". Усе замоўклі. Ніхто больш не прызнаўся ні ў якіх арганізацыях. Таго настаўніка не прынялі ў прафсаюзы, а потым ён і зусім зьнік.

У 6-й клясе заняткі праводзіліся крыху спакайней. Занатоўвалі, а больш дакладна, паўтаралі тое, што праходзілі раней. Вывучалі новы матэрыял, але цяпер вельмі асьцярожна, настаўнік узважваў кожнае слова, пісаў тэзісы, кароткі зьмест кожнага ўрока. Гэтыя матэрыялы правяралі людзі з РАНА ці райкаму і... часам былі "вывады". Настаўнік на ўроках мусіў быць вельмі абачлівым... Памятаю апавяданьне, якое чыталі ў клясе, – "Мядзьведзь", дзе расказвалася, як на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага каналу "перакоўваўся" адзін з крымінальнікаў. Намерыўся перамагчы ў працоўным спаборніцтве "контрыкаў". Зразумела, перамог і атрымаў прэмію – баян.

У школе вельмі актыўна займаліся мастацкай самадзейнасьцю. Існаваў шэраг гурткоў: драматычны, літаратурны, танцавальны, музычны. Праводзілася шмат сэмінараў, факультатываў, канфэрэнцый. І ня толькі для школьнікаў, але й для дарослых. Дзеці выступалі з канцэртамі, і ўсё гэта на беларускай мове. Карацей кажучы, Ігнат Мятла ўзяў курс на выхад за сьцены школы, у бліжэйшыя вёскі.

Калі ў першы навучальны год прышчэплівалася любоў да беларускай мовы, то ў наступны – яшчэ і любоў да беларускай культуры.

Новыя цяжкасьці ўзьніклі з пачаткам вайны. Стаяла пытаньне: будуць дзеці вучыцца ці не і што будуць вучыць? Ігнат Мятла зноў узяўся за працу. Частку бела-

рускамоўных савецкіх падручнікаў пакінулі, акрамя гісторыі і грамадазнаўства. Рэшту кніжак дырэктар прывёз зь Вільні, і сталі вывучаць: гісторыю Беларусі – паводле Ластоўскага, геаграфію – паводле Смоліча, мову – паводле Лёсіка, беларускую літаратуру – паводле Гарэцкага, выкарыстоўваючы таксама матэрыялы з часопісаў і газэт. Па ўсіх прадметах пісалі канспэкты. Працы і цяжкасьцяў дадалося, але затое вельмі добра засвойвалі матэрыял. Урокі дырэктара і настаўнікаў рабілі паварот у думках многіх.

І дагэтуль памятаю урок Ігната Мятлы на тэму "З чаго пачынаецца Радзіма?" Ён прыйшоў да нас бяз кніг і нататак і сказаў, што трэба напісаць працу "Мая вёска". І пачаў расказваць пра сваю вёску, ды так цікава, што ў нас самых абудзілася фантазія і замест дзесятка сказаў напісалі па некалькі аркушоў. Пасьля твора пра свае мясціны перайшлі да твора пра Беларусь, пра яе слаўную гісторыю, дзяржаўнасьць, цудоўную прыроду, багатую культуру.

Гэтак дзядзька Ігнат прышчэпліваў любоў да Беларусі. І ня толькі вучням, але й іхным бацькам і знаёмым, бо дзеці расказвалі пра ўсё гэта дома.

Пасьля спаленьня партызанамі нашай Язенскай школы Ігнат Мятла вярнуўся ў Вільню і больш у нашыя мясьціны не прыязджаў. Але вучні яго на ўсё жыцьцё засталіся патрыётамі сваёй Радзімы.

*Мёры, 2002 г.*

**З ліста Ірыны – дачкі Ігната Мятлы да Аляксандра Юрцэвіча**

Паважаны Аляксандр Іванавіч!

Перш за ўсё прабачце за тое, што адразу не сабралася адказаць на Ваш ліст. Доўга зьбіралася, тым больш, што ня вельмі шмат магу ўспомніць. Калі былі маладымі, мала цікавіліся мінулым, а старэйшыя не любілі расказваць, хутчэй за ўсё дзеля асьцярожнасьці, аберагаючы нас. А зараз няма тых, хто мог бы расказаць.

Я вельмі кранутая, што ў Вас засталіся цёплыя ўспаміны пра майго бацьку. Ваша прозвішча бацькі згадвалі ў размовах, але падрабязнасьцей ня памятаю.

Добра памятаю Паліну Мятлу. Калі былі дзецьмі, ужо пасьля вайны, калі прыязджалі ў в. Кухцінцы да родзічаў, былі ў вёсцы Каралеўскія, дзе Паліна Сільвестраўна жыла з братам і сястрой. Яна прыязджала і да мамы ў вёску Задарожжа, дзе пасьля арышту таты, назваўшыся ўдавой, мама працавала настаўніцай. Размовы яны вялі шэптам. Быў пастаянны страх вывазу, калі ноччу праязджала машына, мама нас падымала і апранала на нас спэцыяльна пашытыя доўгія кажухі. У гэты час тата быў у перасылачным пункце ў горадзе Орша і мама туды ездзіла з пасылкамі. Часам жыла там па тыдню. Тата апухаў тады ад голаду. Як ён пазьней казаў, гэтыя перадачы яго выратавалі.

У 1949 годзе ў РАНА даведаліся пра бацьку і папярэдзілі маму, і мы пераехалі ў Вільню.

Тата быў высланы ў Краснаярскі край, дзе знаходзіўся ў зьняволеньні, а апошні год перад вяртаньнем – на пасяленьні. Вярнуўся адтуль у Вільню ў 1956 годзе. Некалькі гадоў, да выхаду на пэнсію, працаваў прыёмшчыкам у аўтагаспадарцы. Памёр улетку 1978 году ва ўзросьце 82 гадоў (нарадзіўся 7 сакавіка 1896 г. у в. Кухцінцы).

…

Памятаю, што была настаўніца Вольга Дук і што была прыгожая (у кожным выпадку, у маёй памяці). Яе, здаецца, расстралялі? Другіх настаўнікаў ня памятаю. Так што, як бачыце, ад мяне мала інфармацыі.

Да мамы прыязджаў з Мінска Арсень Ліс, браў фатаздымкі, распытваў. Першую кніжку падараваў у 1967 годзе, пры жыцьці таты, другую – у 1982 годзе.

…

З павагай, Ірына.

*Падрыхтаваў да друку Міхась Чарняўскі*



*Алена Мацук*

## На вечнай мерзлаце

Нарадзілася я ў мястэчку Казьяны, разьмешчаным на беразе ракі Дзісенкі, па якой праходзіць мяжа Пастаўскага і Браслаўскага раёнаў. У Казьянах была тады праваслаўная цэрква, якая існуе і цяпер, у той час была там сямігадовая школа, пошта, аптэка, некалькі крамак. Жылі ў Казьянах беларусы, палякі, жыды, расейцы, але Казьяны, як і ўся Заходняя Беларусь, знаходзіліся пад Польшчай, пад уладай Юзафа Пілсудзкага, таму моцна адчуваўся нацыянальны і сацыяльны прыгнёт. Калі ты каталік, ты паляк. Калі ты праваслаўны, ты мужык і мова твая мужыцкая. Паляк – гэта гонар нацыі, а ўсе астатнія ім не раўня, гэта ўжо людзі ніжэйшага сорту. Нашымі суседзямі былі людзі розных нацыянальнасьцяў: сусед – беларус, а жонка яго – жыдоўка, дык іх сына называлі "паўжыдак", і ніхто зь ім не хацеў сябраваць.

Мае бацькі Мітрафан і Ірына Мацук – простыя сяляне, мелі 7 гектараў зямлі, пісьменным па-расейску быў толькі бацька. Руплівым стараньнем здабывалі

сабе хлеб. Я была адзіным дзіцём у нашай сям'і. Хадзіла ў школу. Усё ў нашай школе выкладалі на польскай мове. Нам забаранялі ў школьных сьценах размаўляць па-свойму, наша мова высьмейвалася, казалі, што яна мужыцкая. Але як толькі мы пераступалі цераз парог школы, мы зь вялікім задавальненьнем гаманілі на сваёй мове, бо яна нам дадзена Богам, бо яна з нашай калыскі. Яна спакон вякоў ад нашых прадзедаў і бацькоў нам завешчана, а гэта ж на ўсё жыцьцё.

У 1939 годзе я закончыла шэсьць клясаў польскай школы і была пераведзена ў сёмую. Хадзіла ў цэркву, верыла ў Бога, на ўроках рэлігіі былі пяцёркі. Добра ня памятаю, на якое сьвята прыяжджаў у нашу цэркву архігерэй (я тады вучылася ў 2-й клясе). Настаўнікі выбралі мяне, і я павінна была перадаць архігерэю цудоўны букет жывых кветак. Жанчыны мне, памятаю, прарочылі: будзеш шчасьлівай, цябе сам архігерэй блаславіў. І сапраўды я тады была шчасьлівай, гэта ж было маё дзяцінства, калі цябе ўсе любяць, а ты ім плоціш узаемнасьцю. Мне здаецца, што ў той час я больш за ўсіх любіла сваю бабулю, у мяне ж не было ні сястры, ні брата, дый у бабулі я была першай унучкай, і мы з бабуляй былі вельмі блізкія. Мы зь ёй і кросны ткалі, і насілі абед касцом па жытнёвай сьцяжынцы, дзе расьлі нашы любімыя кветкі: васількі і рамонкі. Бабуля майго дзяцінства – гэта казкі, гэта песьні і шчабятаньне птушак, яна мяне вучыла спазнаваць сьвет, але гэта я зразумела толькі тады, калі да мяне прыйшла старасьць. Дзяцінства – гэта самы цудоўны, самы лепшы кавалачак нармальнага чалавечага жыцьця, калі табе хочацца пра ўсё ведаць, калі цябе ўсё цікавіць. Многае, што будзе далей, можаш забыць, а што было ў дзяцінстве, век не забудзеш.

Бацька мой быў таленавітым чалавекам, у яго, як той казаў, былі рукі на ўсе штукі: і шавец, і кравец, і каваль, і стругаль. Бывала, купіць на рынку загатоўкі і чаравікі мне пашые, кошык спляце, ды такі прыгожы! Мне здаецца, што не было работы, якой бы ён ня змог зрабіць. На вясельлі ці дзе на бяседзе ён так хораша сьпяваў, што людзі казалі: "Ты наш Шаляпін!" Бацька іграў на мандаліне, дзядзька, яго брат, – на балалайцы, а сусед, каторы жыў справа, – на трубе. Вось гэта было цудоўнае трыё. У Казьянах была раміза, гэта як дом культуры, дзе на сьвяты самадзейныя артысты ладзілі канцэрты. Мой дзед за царом працаваў настаўнікам, а за палякамі быў арандатарам. У нас тут непадалёку быў панскі маёнтак Толаўскае. На жаль, дзядуля мой памёр, як я хадзіла ў 1-ю клясу.

Яшчэ за царом сын роднай сястры майго дзеда паехаў у Пецярбург, там і застаўся жыць. А сярэдні брат майго бацькі Віктар нелегальна таксама падаўся ў Расею да сваяка. Уладкаваўся на працу, ажаніўся, меў чацьвёра дзяцей, а ў 1937 годзе прыйшлі, забралі – і з канцамі. Быў чалавек, і ніякіх сьлядоў не пакінуў, апрача дзяцей, якія сталі членамі сям'і рэпрэсаванага. Родны брат маёй мамы таксама перабраўся за мяжу. Ад яго не было ніякіх вестак, прапаў бясьсьледна. Што ж гэта за жыцьцё такое, калі ў пошуках лепшай долі пайшлі за мяжу сьмелыя, маладыя, каб загінуць на чужыне! Ім бы жыць ды жыць…

Калі я была зусім малая, у Казьянах згарэлі тры хаты. Трэцяй была нашая. У нас былі сваякі ў Амэрыцы (маёй бабулі родная сястра). Жылі яны з мужам у Нью-Ёрку, былі бязьдзетнымі. Пасьля пажару яны нам прыслалі даляры. Тады жыў яшчэ дзядуля. Парадзіўшыся з сынамі, пастанавілі збудаваць вялікі дом, каб было дзе жыць самым і яшчэ здаваць у арэнду. Як я пайшла ў школу, мы ўжо жылі ў новым цагляным доме. У $^{1}/_{4}$ дома жыла наша сям'я, а $^{3}/_{4}$ часткі арандаваў аптэкар. Грошай дабудаваць дом не хапіла, і па кантракце, на яго ўмовах, дабудаваў аптэкар, а там надышоў 1939 год. Аптэкі нацыяналізавалі. Толькі цераз суд нам аддалі палавіну дому, а другая палавіна адышла пад аптэку. Вось такі атрымаўся ў нас выйгрыш. Калі дом пабудавалі, мой дзядуля, радуючыся, казаў: "Цяпер будзе дзе жыць маім дзецям, унукам і праўнукам". А выйшла зусім інакш. Нават яго дзецям – майму бацьку і яго брату – давялося кінуць гэты дом і будаваць сабе новае жыльлё. У снох мне сьніцца дом майго дзяцінства. Мы пасьля пажару жылі ў чужой хаце, але я кожны дзень сваімі вачыма бачыла, як яго будавалі. А колькі было радасьці, калі мы ўсяляліся ў наш новы дом. Я ўжо старая, але ў снох бачу: ён стаіць, гэты дом майго дзяцінства. У канцы вайны яго падпалілі знутры, і ён згарэў, засталіся толькі сьцены. Колькі працы, і ўсё прапала.

Запалі ў памяць падзеі восені 1939 году – з букетамі кветак людзі віталі прыход Чырвонай арміі. Яны верылі ў лепшую будучыню і лепшае жыцьцё. Нашы шчырыя і дабрадушныя людзі, якія жылі і стараліся жыць па-Боску, ахвотна верылі ў самую дэмакратычную канстытуцыю, верылі ў словы зь песьні: "Молодым везде у нас дорога, старикам везде у нас почет". Падумаць толькі, што захочаш, усё і збудзецца.

Але зь цягам часу сталі вывозіць "кулакоў", забіраць родную нам зямельку, якая стала ўжо ня наша, а калгасная. Вось і настаў час: з намі ты – уступай у калгас, а ня з намі – падумаем? Бацька мой спужаўся, дом у нас вялікі, цагляны, трэба ўступаць. Ён быў парасейску пісьменны і стаў рахункаводам Казьянскага калгасу.

За палякамі на ўсю Польшчу была толькі адна беларуская гімназія ў Вільні. Ад нашага аднаклясьніка Паўла Умпіровіча мы даведаліся, што можам паступіць у гэтую гімназію. Павел сказаў, экзамэны вы здасьцё, яны ня трудныя. Вось мы ўтраіх, Мікалай Адамовіч, Маня (прозьвішча яе забылася) і я паехалі паступаць у Віленскую беларускую гімназію. Бацькі нашыя, мой і Манін, падвозілі нас да Паставаў. Ехалі ўначы. Калі

бацькі па дарозе зьлезьлі, каб пакурыць, мы ў тым часам задрамалі, і конь з возам кульнуў нас у канаву. Гэта было непрыемнае здарэньне, але цяпер я ўспамінаю яго з усьмешкай. Нас з Маняй прынялі, і мы хадзілі ўжо на заняткі. Памятаю, вельмі перажывалі, каб нам тут, у Вільні, не заблудзіцца. Як гром зь неба была для нас навіна, што Вільня – гэта летувіскі горад і беларуская гімназія ім не патрэбна. Такім чынам нашую гімназію закрылі, і мы вярнуліся дадому.

Зноў я пайшла вучыцца ў сваю Казьянскую школу. Але колькі зьменаў адбылося за такі кароткі час, замест 7-й клясы пайшлі ў 5-ю. Такі быў загад. Новы альфабэт, новыя прадметы: беларуская і расейская мовы. Новы падыход да рэлігіі. Мы апынуліся на скрыжаваньні дарог. Думай, па якой пайсьці.

У Казьянскай школе працаваў настаўнікам наш зямляк Сяргей Мацук. Ён сялянскі сын, родам зь вёскі Гарохаўка. Атрымаў вышэйшую адукацыю, скончыўшы Віленскі ўнівэрсытэт. З прыходам саветаў у 1939 годзе, калі Вільню аддалі летувісам, Сяргей Мацук вярнуўся на сваю радзіму і стаў працаваць выкладчыкам у Казьянскай школе. Больш сваіх настаўнікаў у нашай школе не было, іншыя прыехалі з усходу. Прыехала таксама і піянэрважатая, яна пасялілася на кватэры ў майго дзядзькі. Вучоба вучобай, а агітацыя і прапаганда была на вышэйшым узроўні. Тут ужо і піянэры, і камсамольцы. І я таксама паддалася спакусе. Быў травень 1941 году, цудоўны пагодлівы дзень, веснавая зеляніна, буйна цьвіў духмяны бэз. Так хацелася жыць, сьмяяцца, любіць усё і ўсіх. Мы пехатой ішлі 20 кілямэтраў у Відзы (гэта быў наш раён), каб там атрымаць камсамольскі білет. На другі ж дзень, калі па дарозе ў школу я праходзіла міма цэрквы, у кішэні ўжо ляжаў камсамольскі білет. Я тут задала сабе пытаньне, а як жа мне цяпер быць з Богам? Я зноў на раздарожжы. Ад старога яшчэ не адышла, а да новага пасьпела ўжо прыліпнуць.

22 чэрвеня 1941 году мы даведаліся, што напалі немцы і што пачалася страшная вайна. На камсамольскім сходзе наш важаты Валодзя Мацук параіў нам: напэўна, трэба ісьці ў партызаны, бо кажуць, што немцы будуць расстрэльваць усіх камсамольцаў. Тут я падумала: адзін месяц у камсамоле, і вось табе Боская кара – расстрэл.

Калі я дома расказала пра нашы пляны наконт партызан, мама ў сьлёзы, бацька таксама схваляваўся: “Якія партызаны? Ты ж яшчэ малая!”. Пакуль мы разважалі, на трэці дзень у Казьянах ужо былі немцы. Яны як прыйшлі, дык хутка і пайшлі далей. Вось у нас ужо і акупацыя.

З сваіх сябровак Казьянскай школы даражу ўспамінамі, якія раняць сэрца, пра самую блізкую сяброўку Хаву – жыдоўскую дзяўчынку з залацістымі кучаравымі валоскамі і блакітнымі, нібы азярцы, вачыма. Мы разам вучыліся, сядзелі за адной партай. А як цікава бавілі вольны час! Зблізіліся зь ёю, як сёстры. Яна заўсёды старалася зрабіць мне што-небудзь прыемнае, хоць і была ня нашае веры. Ды якое гэта мела значэньне? На Каляды яна прыносіла новыя цацкі. Мы разам прыбіралі нашу ялінку і цешыліся ейным хараством. У акупацыю, пакуль была ў Казьянах, Хава заставалася маёй таварышкай, я не баялася зь ёю сябраваць. Кожнага дня яна прыходзіла да нас. Потым казьянскіх жыдоў павезьлі ў Глыбокае, у гета. А па нейкім часе я даведалася, што маю Хавачку застрэлілі проста на вуліцы ў Глыбокім. Якімі лютымі і бязьлітаснымі былі немцы! І як жа мы тады іх ненавідзелі…

Бедная мая сяброўка! Я здагадваюся, як страшна было табе паміраць, як хацелася табе жыць! Людзі кажуць, што чалавек жыве, пакуль пра яго памятаюць. Я памятаю пра цябе, мая Хава, і буду памятаць, пакуль жыву.

Казьяны разьмешчаныя на ўзвышшы, і рака Дзісенка, нібы пярсьцёнак, абкружае яе. Каб дабрацца да Паставаў, трэба пераехаць мост, нават два масты, на Відзы таксама мост і на Богіна мост. І толькі дарога ў лес без маста. Ахоўвалі Казьяны тры паліцаі зь мясцовых. Вось і ўся ахова.

Калі партызанам быў патрэбны хлеб ды іншая еміна, яны па дарозе набіралі фурманкі, садзіліся на кожную па два-тры чалавекі з аўтаматамі, прыяжджалі цёмначы ў Казьяны. Набіралі з складоў зерне, малолі ў млыне муку і на сьвітанку ехалі назад, у лес. Такім чынам, у Казьянах былі дзьве ўлады. Удзень паліцыя, а ўначы партызаны. Спаляць партызаны мост да Паставаў, немцы прыедуць, выганяць усіх мужчын з хаті пад канвоем гоняць да ракі, прымушаюць будаваць новы. Спакою не было ніколі.

Калі партызаны спалілі Казьянскую школу, тата завёз мяне ў вёску Забродзьдзе – гэта за два кілямэтры ад Паставаў. Там жылі мае дзед і бабуля, маміны бацькі, а ў Паставах жыла мая цётка, родная татава сястра. У вайну ў Паставах працавалі дзьве беларускія сямігадовыя школы. У адной зь іх займаліся дзяўчаты, у другой хлопцы. Я хадзіла ў жаночую школу, дзе і закончыла 7 клясаў. А што ж далей? Хто нідзе не вучыўся, тых вывозілі ў Германію. На маё шчасьце, неўзабаве адчыніліся настаўніцкія курсы. Я іх таксама закончыла. Пасьля заканчэньня курсаў аднаклясьніка Крэскіяна і мяне адправілі працаваць у Васілінскую школу. Па нейкім часе Крэскіян сказаў мне, што да яго прыходзілі партызаны, якія загадалі нам пакінуць Васіліны, – і чым хутчэй, тым лепей. Бо жартаваць з намі яны не зьбіраюцца. І я зноў вярнулася да сваіх бацькоў.

У канцы 1943 году немцы арганізавалі блякаду супраць партызанаў. Яны пад'ехалі да ракі Дзісенкі і пачалі страляць па Казьянах з кулямётаў. Куды было хавацца, калі немцы лічылі Казьяны партызанскай зонай. Бацька мой запрог каня, з намі паехала і сям'я нашага былога

кватаранта. (Людзі яны былі добрыя, мы зь імі жылі ў згодзе. У іх была толькі адна дачушка Роха. Пакуль аптэкар працаваў у аптэцы, немцы яго не чапалі.) І мы ўсе падаліся ў лес. Мой бацька думаў, што там наша выратаваньне. Аднак калі немцы сталі прачэсваць лес, давялося разьбегчыся па адным. І калі я засталася адна ў чужым лесе, мяне агарнуў жудасны страх: "Вось сустрэну немца, і ён мяне застрэліць". А яшчэ баялася, што заблукаю. Тут я і дала зарок сабе і Богу, што калі жывая і цэлая выйду з гэтага лесу і калі нейкім цудам захаваецца мой камсамольскі білет, больш яго ў рукі не вазьму. Тут я канчаткова паверыла, што Бог мяне карае. Першымі зь лесу выбраліся нашы былыя кватаранты, і, на жаль, зрабілі яны гэта на сваю бяду. Сьледам за імі прыйшла я і ўбачыла, што ля нашага дому шмат фурманак, а з аптэкі выносяць усё, што толькі можна, нават электраправодку абрываюць. У склепе – усё дагары.

Да мяне наблізіліся два немцы, якія паказалі на мігі, каб я ішла за імі. Памятаю: яны ідуць уперадзе, а я за імі ззаду. І што ж я ўбачыла? За хлявом на сьпіне ляжыць застрэлены аптэкар і за ручку трымае сваю дачку Роху, таксама нежывую. Я стаяла разгубленая, сьлёзы каціліся градам, хацелася крычаць на ўвесь голас. Госпадзе, што каму зрабіла гэта мілая дзяўчынка? І за што ёй такая кара? Яны ж усе былі мне як родныя. Адзін зь немцаў тузануў мяне за плячо (на маё шчасьце, ён гаварыў па-польску) і павялі мяне далей. У хляве ляжала ніцма забітая цётка Соня, Рохіна мама. Потым былі роспыты, што ведаю пра іх, кім даводжуся. Ведаючы польскую мову, я змагла ім растлумачыць, што ў нашым доме была тады толькі аптэка, а самыя яны жылі ў суседнім будынку. Вырваўшыся ад немцаў, я птушкай ляцела па дарозе ў лес сказаць сваім родным, каб яны не вярталіся дамоў, пакуль там гаспадараць немцы. А ў галаве адна толькі думка: як жа верыць у дабро людзкое, калі жывуць на сьвеце такія ліхія, лютыя людзі?! Не, ня людзі – нелюдзі! Яны ж горшыя за зьвяроў. Забіць чалавека, які не прычыніў табе нічога благога! І ў каго спытаць, за што іх забілі?

У гэтым часе згарэла і вёска Баравыя. Жыхароў вёскі сагналі ў адно месца і ўсіх спалілі жывымі. Зрабілі так, каб ніхто ня вырваўся з таго пекла. А колькі такіх трагедый было нашай беларускай зямлі?!

Пасьля гэтага страхоцьця і жаху мы пакінулі свой дом і ўсёй сям'ёй пераехалі жыць у Забродзьдзе да маміных бацькоў. Неўзабаве ў Паставах немцы праводзілі праверку дакумэнтаў і адбіралі людзей для вывазу ў Нямеччыну. Добра, што да таго часу мяне паслалі працаваць у Кашыцкую школу. Такім чынам я выратавалася ад няволі. Ад Паставаў да Кашыц 5 вёрстаў, і кожны дзень пехатой я хадзіла ў Кашыцкую школу. Тут партызаны мяне не праганялі.

У Паставах я пазнаёмілася з Алесяй Умпіровіч, мы зблізіліся і сталі сяброўкамі. Яна прыгожая, добрая, таленавітая, яна так хораша малявала. Алеся мне вельмі падабалася, і я палюбіла яе, як родную. У нас не было ніякіх сакрэтаў. Яна давярала мне, а я ёй. Мы былі такімі юнымі, і як жа нам хацелася быць прыгожымі, а адзеньня добрага не было. Сяк-так падкладвалі маміны, бабуліны сукенкі, але нам іх давалі толькі панасіць. Вязалі сабе кофты і спадніцы зь лёну і воўны. Памятаю, бабуля аддала мне свой карункавы чорны шаль. Прыкінулі, што можна пашыць сукенку, і тут пытаньне, з чаго сшыць чахол. Прыдумалі пафарбаваць прасьціну ў бардовы колер. Потым усім хацелася пафарсіць у гэтай сукенцы. А на нагах дзеравянікі – драўляная падэшва і цьвічкамі прыбітыя скураныя палоскі. Не азіраючыся, па іх стуку можна было пазнаць, хто цябе даганяе. Быў цяжкі час, была страшная вайна, але жыцьцё ўсё роўна працягвалася. Чалавечае жыцьцё – гэта як сама прырода. Падзьме вецер, прыгоніць навальніцу, а потым сонейка выгляне, і ўсё пайшло ў рост. Так і ў жыцьці чалавека, чорную паласу мяняе сьветлая, і наадварот. Як кажуць, Бог карае, але Бог і мілуе…

Быў 1944 год, лета, немцы пасьпешліва ўцякалі з Паставаў. А нам не прывыкаць, бо то ад нас ўцякаюць, то да нас прыходзяць, а мы застаемся на месцы. Нам трэба ладзіць жыцьцё далей. Фронт пайшоў на захад, а ў нас наладжвалася мірнае жыцьцё. Увосень была адчынена пэдагагічная навучальня. Я падумала: можа, паступіць і прадоўжыць вучобу. Напэўна, слабы я настаўнік пасьля настаўніцкіх курсаў. Калі пайшла па даведкі, мне сказалі: "Настаўнікаў не стае, калі пойдзеш працаваць у школу, можаш паступіць на завочнае аддзяленьне". "Хата ў нас зноў згарэла, – падумала я, – трэба будаваць новую. Пайду працаваць, і бацьку будзе падмога, я ж буду зарабляць нейкія грошы". Так я і зрабіла. Паслалі мяне ў вёску Клентакі, цягніком трэба было дабірацца да разьезду Разлогі. Далі пазыку на пабудову дому ў Паставах. А на другі год прапанавалі школу, якая была ўжо бліжэй да Паставаў, у вёсцы Муляры. Мая сяброўка Алеся была тым часам на нелегальным становішчы (пасьля першых арыштаў у Паставскім пэдвучылішчы). Я спачувала ёй, бо ведала, што яна нікому не прычыніла нічога благога. Як той казаў, і мухі не пакрыўдзіла. Я, напэўна, тады была далёкая ад палітыкі, ведама – вясковая дзеўчына. Лічыла, што саджаць у турму трэба тых, хто робіць людзям ліха, а не таго, хто гэтага ліха не рабіў. Алеся нейкі час жыла ў мяне. У нас не было ніякіх таямніцаў. Ад яе я даведалася і пра Саюз беларускіх патрыётаў. З сяброў гэтай арганізацыі я была знаёмая з Міколам Асіненкам і яшчэ ведала казьянскага хлопца Алеся Адамовіча. Відаць, мне наканавана было трапіць у турму. Кажуць, быў бы арыштаваны, а віна знойдзецца. Савецкай імпэрыі патрэбныя былі танныя працоўныя рукі. Дастаткова было мізэрнай зачэпкі, каб чалавек апынуўся ў турме.

Трэцяга сакавіка 1947 году – я працавала тады ў

Хацілаўскай школе – прыехалі на санях два энкавэдысты. Прыйшлі ў школу і сказалі: “Вас вызываютв районо”. Замест “районо” завезьлі за плябанію і ўпіхнулі ў падвал. Там было цёмна і жудасна. Я падумала: “Ізноў кара Божая, што ж я зрабіла ня так? ” Імне стала страшна… Калі ў нас ужо ня стала немцаў, бацька спрабаваў аддаць мне камсамольскі білет, які ён захаваў у акупацыю. Але я, памятаючы свой зарок, не ўзяла яго, сказаўшы бацьку, каб не пакрыўдзіць: “Гэта ж не мая заслуга, я сама павінна была яго зьберагчы і таму не вазьму яго”. Ня ведаю чаму, але бацька прамоўчаў.

Па нейкім часе ў падвал прывялі яшчэ адну дзеўчыну. Гэта была Тамара Барсук з Глыбоцкага раёну. Пасьля кароткага допыту, калі мяне вярнулі ў склеп, я сядзела і думала: і дзе ж тут тая лёгіка? Калі дзьве юныя вясковыя дзеўчыны не прычынілі нікому ніякага ліха, чаму іх кінулі ў гэтае змрочнае скляпеньне? Чаму лёс іх такі жалосны?.. Адна ўлада мяняла другую, і ў кожнай свае погляды. Улады мяняліся, а мы заставаліся жыць на сваёй роднай беларускай зямлі. Мы любім сваю мову, зямлю, бо гэта зямля нашых бацькоў і дзядоў. Няўжо аднаго веданьня пра Саюз беларускіх патрыётаў ужо дастаткова, каб стаць “здраднікам радзімы” і “ворагам народу”. А як быць з сумленьнем? Заявіць на каго? На сваіх лепшых сяброў і на малалетніх юнакоў і дзяўчат? Але ж якраз гэта – подласьць і здрада! Я, выхаваная ў лепшых традыцыях беларускай сям'і, ведала толькі адно, што нават пад пагрозай сьмерці ня здрадзіла б сваім сябром і ніколі нікому на іх не заявіла б.

На другі дзень нас павезьлі ў Менскую турму. І вось мы з Тамарай апынуліся за кратамі. Я старалася супакоіцца. Вінаватай сябе не лічыла, але паверыла ў свой лёс: што суджана, тое ня будзе адгуджана. У часе допытаў быў карцар – гэта склеп-халадзільнік, дзе зьмяшчаецца толькі адзін чалавек. Пад нагамі сьцюдзёная вада, сьцены ледзяныя, а на галаву капае вада. Колькі мяне там трымалі, ня ведаю, але я ўжо думала, што тут ад холаду і памру. Былі “пцічнікі”– гэта свайго роду таксама клетка. Замкнуць туды і скажуць: “Думай”. На допыты выклікалі толькі ўначы, а днём не засьнеш. Жалезныя ложкі ўдзень прымыкаліся да сьцен. Ды і наглядчікі пільна сачылі і не давалі задрамаць нават седзячы на кукішках. Зьнясіленая, я згадзілася падпісаць пратакол, бо зразумела, што я тут нікому нічога не дакажу, а калі буду ўпірацца, даканаюць.

Ад арышту да суда прайшлі чатыры месяцы. Чатыры дні доўжыўся суд. Прысуд быў суворы, не скупіліся судзьдзі: давалі па 25, па 15, па 10 гадоў. Мне далі 8 гадоў і яшчэ ў дадатак 5 гадоў паражэньня ў правох. Мне здаецца, што я так добра ўсё памятаю, пра ўсё і расказваю. А вось спатканьне з родненькім татам – як у тумане, як быццам у сьне. Вэранда ў развалінах дому і там мой бацька. Мы зь ім абняліся. Ён так крэпка-крэпка прытуліў мяне да сябе. Я глянула яму ў вочы і хацела папрасіць прабачэньня. Прабачэньня за тыя пакуты, якія я ім прычыніла. Але не стрымалася, і гарачыя сьлёзы пацяклі ручаём па шчоках. Бацька ласкава пагладзіў мяне і сказаў: “Мы з мамай любім цябе і будзем любіць, пакуль жывем, бо ты самае дарагое, што ў нас ёсьць. Ня плач, дачушка, мы з мамай будзем за цябе маліцца”. А яшчэ сказаў, што хацеў наняць адваката, але гэта ўсё дарэмна. Не такая ўлада, каб зь ёй змагацца простаму чалавеку… Вось якое было спатканьне. Канвой павёў мяне, а бацька застаўся, глядзячы мне ўсьлед. Як жа мне балюча і горка было думаць пра тое, што цяпер я стала “ворагам народу” і што цяпер праз мяне будуць бэсьціць і маіх бацькоў. Раз за разам паўтарала: “Госпадзе, за што?”

Пасьля суда – перасыльны пункт Ворша, а далей – дарога на поўнач, у Архангельск. Дзякуй Богу, што нас не разлучылі з Тамарай Барсук. Гэта юная прыгожая дзеўчына стала мне маёй малодшай сястрой. Яна была такой наіўнай, лагоднай, забаўніцай. Сядзім часам, разважаем, а на душы так моташна, што плакаць хочацца, а яна раптам прыдумае і скажа такое, што глядзіш, і ў нас ужо сьмяшынка на твары.

У Архангельску нас пагрузілі ў трум параходу і павезьлі, як тую скаціну, у Нарыльск. Была восень, дзень пахмурны. Па небе плылі цёмныя хмары, дзьмуў зімны вецер, а мора, якога я раней ніколі ня бачыла, было такім суворым і непрыветным. Тут у порце Архангельску ў думках я разьвіталася з усім ранейшым, зродным і блізкім, бо ня ведала, ці вярнуся калі-небудзь з запалярнага краю. Калі параход выйшаў у адкрытае мора, пачалася моцная гайданка. Стоячы было не ўтрымацца, мы ўсе сядзелі на падлозе. Усё, што знаходзілася ў труме, кідала і шпурляла аб сьцены няведамая сіла. Расплюхалася і паразьлівалася ўсюды смуроднае зьмесьціва парашы. У дадатак да ўсяго мучыла марская хвароба. Яна апанавала ўсіх зьняволеных. Тварылася такое, што нельга сабе ўявіць. Нехта маліўся Богу, бо іншага заступніка ў нас не было, а нехта кляў нашых катаў. Толькі на дзясяты дзень прыбылі ў порт прызначэньня, у Дудзінку, гэта ўжо на Енісеі.

У мяне на шыі былі танныя пацеркі. Некалькі разоў мяне прымушалі зьняць іх, гаварылі: “Не положено”. Але яны былі на шнурочку, завязаным на моцны вузельчык, і, каб іх зьняць, трэба было разарваць шнурок. Зрабіць гэта на шыі – можна й задушыцца, а разрэзаць не было чым. І так я з гэтымі пацеркамі даехала да Дудзінкі. Пасьля параходу мы былі такія згаладалыя, так хацелася есьці. Вось мы і выменялі гэтыя пацеркі на бохан хлеба. Даслоўна за хвіліну зьелі гэты хлеб. А калі залезьлі на нары, Тамара задумалася і сказала: “Вось былі б у мяне такія пацеркі, мы б і іх выменялі на хлеб, можа, тады і наеліся б”.

Празь некалькі дзён нас пагрузілі ў вагоны вузкакалейкі і павезьлі ў Нарыльск. Не даяжджаючы да Нарыльску, на нейкай малой станцыі Тамару Барсук і яшчэ некалькі вязьняў пакінулі, а мяне павезьлі далей.

Разьвітваючыся, мы заплакалі. Тамара сказала: “Як жа я цяпер буду безь цябе?!” Тое самае падумала і я. Мне здавалася, што ад нашага знаёмства з Тамарай да разьвітаньня прайшла цэлая вечнасьць.

Нарыльск – гэта ўжо запалярная шырата, дзе паўночныя алені і белыя мядзьведзі, дзе толькі горы і тундра, шырыня і размах. Дзе халодны несьціханы вецер, якога нічым не стрымаць, дзе мяцеліца-сьнегавей, за якой не відаць ні неба, ні зямлі – толькі сьнег ды сьнег. Але ў пагодны дзень куды ні глянь, усюды калючы дрот і вартавая вышка. Лягеры, лягеры…

Мяне зьмясьцілі ў 7-е аддзяленьне. Гэта быў жаночы лягер. Ён лічыўся “папраўча-працоўным”. Мала было зьняваг, зьдзекаў і пакут у турме, на перасыльных пунктах і на параходзе, дык яшчэ трэба цярпець зьнявагі ад зладзюг, разбойнікаў ды іншых блатных крымінальнікаў. У галаве адна думка: як выжыць і ацалець? Як захаваць сваю чалавечую годнасьць у гэтым пекле, створаным саветамі – “самай справядлівай уладай на ўсёй зямлі”.

І гэтак увесь мой тэрмін ды яшчэ два гады паражэньня ў правох давялося мне бязвыезна жыць у запалярным горадзе Нарыльску, пабудаваным на вечнай мерзлаце. За кароткае палярнае лета зямля тут адтае толькі на адзін мэтар… Першае маё знаёмства з гэтай мерзлатой было ў катлаване, з кіркаю ў руках, якую называлі кайлом. Нашая брыгада працавала на агульных работах. Пасылалі і на разгрузку вагонаў, а калі-нікалі даводзілася разгружаць вагоны зь мерзлай бульбай. Былі гэтаму радыя, бо маглі ўзяць ў кішэню некалькі бульбін, а вярнуўшыся ў барак, ухітраліся зварыць іх. Гэты дзень лічыўся ўдалым – да кавалка хлеба і баланды дадаваліся ажно 2-3 бульбіны! Я так зьнясілела на цяжкіх работах, што варта было дзе-небудзь прысесьці, як адразу засынала. Рукі ўвесь час у мазалёх, былі хвілі, што й жыць не хацелася.

Але, як той казаў, сьвет не бяз добрых людзей. Яшчэ на этапе я пазнаёмілася з жанчынай, старэйшай за мяне. Разгаварыліся, яна назвала сябе Жэняй. Потым, калі сустрэліся ўжо ў лягеры, я даведалася, што яе ўзялі на працу рахункаводам у лягерную бухгальтэрыю.

Гэтая добрая жанчына і дапамагла мне перайсьці на лягчэйшую працу. Яна даведалася, што ў лябараторыю КИП (кантрольна-вымяральных прыладаў) патрэбна прыбіральніца. Назаўтра ў барак зайшла незнаёмая мне жанчына, якая назвала маё імя і прозьвішча. Я адгукнулася. На просьбу цёткі Жэні яна дапамагла мне ўладкавацца, бо сама там некалі працавала. Пагутарыўшы з начальнікам, я і стала працаваць у гэтай лябараторыі. Яна знаходзілася ў зоне ачапленьня, што цягнулася на некалькі вёрстаў. У гэтай зоне былі ўсе заводы і фабрыкі Нарыльску: медзеплавільны і нікелевы, БОФ і коксахімзавод, сернакіслотны ды іншыя нумарныя заводы. У кожным кавалачку руды, здабытай з руднікоў Нарыльскіх гор, зьмяшчаецца амаль уся “табліца Мендзялеева”, тут медзь і нікель, плаціна і серабро, золата і шмат іншага. А яшчэ ў складруды ўваходзіць сера. Гэта азначае, што пры плаўленьні мэталаў у паветра выдзяляецца серны і сярністы газы. Пах ад іх брыдкі і моташны. Калі малолі медныя зьліткі, у паветры вісеў такі пыл, што не было чым дыхаць. Наша лябараторыя лічылася шкоднай вытворчасьцю. Пакуль я працавала тэхнічкай, за працоўны дзень нефарбаваная падлога станавілася ня проста бруднай, а чорна-карычневай. Колькі ж поту трэба выліць, каб яна стала белай. Але я старалася, бо думала, што сам Бог паслаў мне гэтую працу. Я была ў цяпле і працавала сярод добрых людзей. Зь вязьняў у лябараторыі сьлесарамі рабілі два хлопцы – Саша і Грыша ды яшчэ інжынэрам Аляксандар Іванавіч, астатнія вольнанаёмныя: начальнік і шэсьць лябарантак. Па нейкім часе адна зь іх перайшла на іншую працу. Тут я падумала, можа мне папрасіцца ў начальніка на яе месца. Спроба – не хвароба. Тым больш, што ў той час лябаранты без адрыву ад вытворчасьці павышалі ў лябараторыі сваю кваліфікацыю. Яны прыходзілі на працу на дзьве гадзіны раней. Хімію выкладаў інжынэр, а знаёміў з прыладамі начальнік. Пагутарыўшы са мною, начальнік даў згоду, і я пачала займацца разам зь дзяўчатамі. А пасьля здачы экзамэну стала працаваць лябаранткай. Лябаранты правяралі работу прыладаў, якія ўлоўлівалі дарагі пыл, што разам з газамі выходзіў у паветра. Каб забраць пробы з газаправоду на выхадзе ў трубу, мы падымаліся пад самы дах, а там праходзіла высакавольтная лінія. Самая маленькая неасьцярожнасьць – і сьмерць. Яшчэ хадзілі ў плавільны цэх, дзе плавілася медзь, каб забраць пробы на загазаванасьць плаўкі.

У канцы 1950 году мяне накіравалі ў 6-ты жаночы спэцлягер. У гэтым лягеры былі ўжо толькі палітычныя зьняволеныя. Тут у бараках на вокнах краты, на ноч заносілі парашу і замыкалі дзьверы. Далі нам з чорнай тканіны шкуткі і белы шнурок. Кожны павінен быў сам вышыць сабе дадзены яму нумар, прытым у двох экзэмплярах. Мой нумар быў Т-437, век буду помніць, можа й пасьля сьмерці не забуду. Адзін экзэмпляр прышываўся ззаду на сьпіне, а другі справа ўнізе на сукенцы. Вось мы ўжо людзі бяз імя і прозьвішча, мы нумарныя.

Чаму ж нумар не на скуры? Думаю, каб прасьцей потым замятаць сьляды. Я была ў роспачы, бо што ж гэта – зноў турма: краты, параша, замок на дзьвярох, толькі два лісты бацьком у год. Прыйдзеш з работы, толькі засьнеш і чуеш: “Подъем, проверка!“ Усё перакуляць дагары дном. Што ж тут правяраць, калі засталіся ўжо толькі нумары, гэта ж толькі зьдзекі зь людзей і нічога болей.

На працу я тут хадзіла ўжо ў іншую лябараторыю, дзе праводзілі досьледы, каб вогнетрывалую цэглу

рабіць зь мясцовай гліны, а не завозіць яе з мацерыка. Пакуль драбілі, прасявалі гліну, было нармальна, але калі праводзілі абпальваньне цэглы, у печы тэмпэратуру замяралі тэрмапарай і тут ужо градусы ішлі не на сотні, а на тысячы. Працавалі ў гэтай лябараторыі толькі шасьцёра жанчын, і адзін мужчына, ужо немалады, быў начальнікам. Печ чысьцілі самыя, і гэта трэба было зрабіць як мага хутчэй, каб была найменшая страта тэмпэратуры. Адна выграбае вогненны шлак у жалезную скрыню-насілкі, а двое стаяць напагатове, каб падхапіць гэтую распаленую скрыню за ручкі і як мага хутчэй вынесьці на двор. Хапаеш, каб падняць, а ў цябе ўсярэдзіне быццам ўсё абрываецца ад гэтага непасільнага грузу. І ня ўскрыкнуць, і не спыніцца. Гэты момант я ўяўляла сабе сапраўдным пеклам, а сябе – горшай за рабыню.

Улетку 1953 году адбылося паўстаньне ў лягерах палітычных зьняволеных, якія будавалі Нарыльск і ўжо працавалі на пабудаваных заводах і фабрыках. Штуршком да яго былі забойствы зьняволеных. Першыя стрэлы адбыліся на Мядзьвежцы ў 1-м аддзяленьні. Ахвярамі іх сталі двое зьняволеных. У МГБ гэты ўчынак салдата-забойцы ўхвалілі і далі яму месячны водпуск. Наступным, хто атрымаў такі водпуск, быў начальнік варты жаночага аддзяленьня. З самаздаволенай усьмешкай ён застрэліў брыгадзіра 4-га аддзяленьня, калі той папрасіў дазволу пагаварыць зь яго жонкай. Было яшчэ й такое, начальнік канвою мог спыніць усю калёну вязьняў, выбраць на свой погляд трох чалавек і тут жа на вачох усёй калёны кароткай чаргой з аўтамата застрэліць. І як нічога ніякага падаць каманду: “Вперед! Шагом марш!” Апошняй кропляй у кубку цярпеньня была вестка, што ў 5-м аддзяленьні проста ў зоне з аўтамату застрэлілі чатырох чалавек. Гэта лютае зладзейства падняло на ногі ўсіх лягернікаў 5-га аддзяленьня і зьявілася той іскрай, зь якой потым шуганула полымя паўстаньня. Зьняволеныя ўзьнялі такі адчайны крык (а іх там было болей за дзьве тысячы), што, пачуўшы яго, толькі камень не здрыганецца. Тыя, што былі ў зоне ачапленьня, пачуўшы гэты крык, уключылі кампрэсарную сырэну “Горстроя”. І калі яна сьціхла, спынілася і праца. Краны стаялі, ня стукалі малаткі, усё заціхла, а ў 5-м аддзяленьні ўсё яшчэ стаяў крык. Крык гэты разьдзіраў душу, кожны чуў у ім просьбу аб дапамозе. І зноў пачулася аўтаматная чарга. Людзі, якія былі ў ачапленьні, таксама закрычалі, і галасы гэтых паўтара тысяч зьняволеных зьліліся ў адзіны пратэст з галасамі дзьвюх тысяч лягернікаў 5-га аддзяленьня. Іхто ў тую хвіліну ня думаў пра асабістую бясьпеку, і нікому не была страшнай сьмерць. Мы крычалі, разрываючы слых. Лягернаму начальству было заяўлена: “Патрабуем маскоўскую камісію і да яе прыезду працаваць ня будзем”. У 6-м жаночым аддзяленьні таксама быў створаны страйкавы камітэт, у склад якога ўваходзілі ўкраінкі, беларуска, летувіска, эстонка і латышка. Лягернае начальства не сьпяшалася выклікаць маскоўскую камісію. Думалі, што яны самыя ўсё ўлагодзяць. А тым часам да забастоўкі далучаліся ўсё новыя лягеры, дзе людзі не выходзілі на працу. Нарыльскі камбінат спыніў работу. Пагасьлі аглюстроўныя печы, замерзьлі канвэртары, перасталі дыміцца трубы медзеплавільных заводаў, нікелевага, БОФа ды іншых. Стаялі руднікі і будаўнічыя пляцоўкі. Нарыльск страйкаваў. У Нарыльску была маскоўская берыеўская камісія, але над 3-м і 9-м аддзяленьнямі Нарыллагу працягвалі лунаць чорныя з чырвонай палосай сьцягі. Воля зьняволеных не была зломленаю. Іх не спалохала зладзейства берыеўскай камісіі, праведзеных ёю масавых расстрэлаў у 4-м, 5-м і 6-м аддзяленьнях. Забойствы працягваліся, але ніводная труба ў Нарыльску не дымілася. Напэўна, таму МГБ пастанавіла этапаваць з Нарыльску тую частку былых зьняволеных 4-га і 5-га аддзяленьняў, якія, нягледзячы на тое, што бачылі сьмерць у твар, духам ня палі і па-ранейшаму адмаўляліся падпарадкоўвацца камісіі і мясцовым уладам. Гэта было ўжо пасьля сьмерці Берыі.

І якія ж палёгкі мы атрымалі? Зьнялі з нашай адзежы нумары (пэўна ж, толькі з адзежы, бо ў даведцы аб маім вызваленьні нумар значыцца). Зьнялі краты з вокнаў і замкі зь дзьвярэй. Менш стала абмежаваньняў на перапіску з роднымі. Дазволілі карыстацца грашыма і купляць прадукты ў камэрцыйнай крамцы. У каго тэрмін набліжаўся да канца, выдавалі пропуск, паводле якога на лягерную прахадную прыходзіш а 800 раніцы, а вярнуцца ў лягер павінен не пазьней за 1900 вечара. Такі пропуск атрымала і я. Працавала я тады ў цяпліцах, дзе гадавалі расаду раньняй капусты, якую потым высаджвалі ў полі.

У 1954 годзе – воля, але пашпарту я не атрымала, у мяне ж яшчэ 5 гадоў паражэньня ў правах. У Нарыльску я і замуж выйшла за душэўнага, ласкавага і добрага чалавека. У нас двое дзетак, дзьве дачушкі, і чацьвёра ўнукаў. Мой муж памёр у 1996 годзе. Вось і канец майго апавяданьня. Самае добрае, што было ў маім жыцьці, – гэта дзяцінства. А далей – вайна зь яе чорным жахам. А потым – турма, этапы і лягеры: зьнявагі, прыніжэньні, зьдзекі і пакуты. І самае страшнае – знак на ўсё астатняе жыцьцё “здраднік радзімы”. Пытаньне: якой радзімы – сваёй ці чужой?

У 1991 годзе адбылася рэабілітацыя, дзе сказана: “Дело по обвинению Мацук Елены Митрофановны, 1925 года рождения, уроженки дер. Козьяны Видзовского района, белоруски, до ареста работавшей учительницей начальной школы. Пересмотрено Верховным судом БССР 29 ноября 1991 г. Приговор военного трибунала войск МВД Минской области от 20 июня 1947 г. и определение военного трибунала войск МВД Белорусского округа от 23 июня 1947 г. в отношении Мацук Е.М., осужденной по ст. 63-1 УК.БССР на 8 лет

лишения свободы в ИТЛ с поражением в правах сроком на 5 лет отменены и дело прекращено за отсутствием состава преступления. Мацук Елена Митрофановна по данному делу реабилитирована".

Так, рэабілітавана, але ці праўда гэта? Кім я лічуся цяпер? Хто адказаў, хто пакараны за мой зруйнаваны лёс? Няма адказу. А на маім жа месцы мог апынуцца кожны, і апынаўся. Адно радуе, што ў гэтым жудасным пекле я нічым не апаганіла сябе і муж мой быў такі ж чысты і высакародны чалавек. Мільёны зьняволеных лёсаў…

Не, мінулага нельга закрэсьліваць, каб у будучыні не паўтарыліся гэтыя жахі.

*Мікалай Царашкевіч*

## З успамінаў

Нарадзіўся я 10 лютага 1926 году на Мядзельшчыне ў вёсцы Зыкава Слабадзкога сельсавета. За палякамі я сваёй беларускасьці не адчуваў, бо ніхто пра гэта не казаў. Бацька з маткай наагул палітыкі не чапалі, іхным клопатам была праца. А вось калі перад самай вайной зноў пайшоў у школу, на гэты раз савецкую, дык тут у мяне крыху зьявілася разуменьне: што Беларусь, а што Польшча. Але ў асноўным гэта было ўжо ў Паставах, дзе мы працягвалі вучыцца пры нямецкай акупацыі.

У Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі была арганізацыя Саюза беларускай моладзі (СБМ) і яна шмат абудзіла такіх пачуцьцяў, бо песьні беларускія адраджалі, выступленьні тэатралізаваныя былі ды ўсёіншае. Я ўсёй душой быў зь імі, але ў нашай вёсцы стаяў партызанскі аддзел. Таму быў упэўнены – калі ўступлю, бацькоў пачнуць трыбушыць.

А гэтыя партызаны доўга ня ведалі, што я ў Паставах… І вось неяк у нядзелю прыходзіць да мяне бацька. Бледны. І прыносіць мне цэлы стос улётак і ліст… Так я пачаў працаваць на партызанаў…

А як вызвалілі ад немцаў – што рабіць? Вырашыў ісьці вучыцца зноў. Спачатку паехаў на курсы ў Глыбокае. Потым былі арганізаваныя пэдагагічныя навучальні – у Паставах і Глыбокім. Я пачаў займацца ў Паставах.

Беларуская падземная арганізацыя ў Паставах пачала ствараца з самага пачатку. Грунт жа патрыятызму закладаўся яшчэ ў сэмінарыі, а многія нашыя перайшлі зь яе ў навучальню. Ну і пайшло… Спачатку размовы, потым больш пэўна, што будзем патрыётамі і што для Бацькаўшчыны зробім усё, што трэба. Кіраўніком у нас быў Мікола Асіненка. Яму потым і далі 25 гадоў. Я таксама ў гэтай арганізацыі быў, здаецца, ня простым сябрам – мне прыпісалі потым кіраўніцтва ў вайсковых справах.

Мы не займаліся вайсковымі справамі і ніякай вайны ні з кім не вялі. Але вывучалі, каб быць у курсе справы. Праводзілі заняткі па вайсковай падрыхтоўцы, хоць зьбіраліся й рэдка.

Сходы былі. Адчыняў іх заўсёды Мікола Асіненка. Прысягу прынялі ў яго на кватэры. Калі гэта было – цяпер цяжка ўспомніць, але не адразу, а як цалкам арганізаваліся. Папраўдзе кажучы, Асіненка мяне ў гэтую арганізацыю і загітаваў, бо мы сябравалі. Ды ў мяне й самога былі патрыятычныя пачуцьці. Мы спачатку так, проста – за Беларусь. А потым ён мне кажа: "Ці ня хочаш быць удзельнікам арганізацыі?" Я пытаюся: "А што, ёсьць такая?"– "А як жа, у нас у вучылішчы."

Сам я ўжо нікога не арганізоўваў, бо кожны там ужо ведаў, што такая арганізацыя ёсьць, і хто хацеў, мог сам прыйсьці. Я думаю, для такой справы павінна быць сваё жаданьне. А як стаў сябрам арганізацыі, ад іншых не адставаў і што трэба было, рабіў.

Мы не займаліся ніякімі падрыўнымі справамі, нам прыпісалі толькі, што ў Глыбокім абрэзалі правады. Можа, нехта зусім іншы быў, але ж трэба было нешта нам прыпісаць, каб судзіць…

Быў тэкст прысягі на вернасьць свайму народу, Айчыне… Быў лісток з тэкстам, пад якім кожны расьпісваўся, каб ня толькі на словах было. Усе лісткі Асіненка забраў. Іх пры арышце не знайшлі, хоць у ягоным доме вобыск рабілі. Гэтак яны і ў мяне, як забіралі, усё перавярнулі. Маці ляжала хворая – таксама паднялі. І пад ложак, і за ложак – дзе толькі ня лазілі? Знайсьці ў мяне нічога не маглі, толькі кнігу з гісторыі Беларусі, выдадзеную за немцамі, ды ліст да Хацько*, які яшчэ вучыўся ў Паставах.

Калі арыштавалі, я ўжо працаваў загадчыкам пачатковай школы ў Жуціне. Забралі проста з школы. Прыехалі недзе гадзіне а 10-й, калі ўжо ішлі заняткі. Заходзяць двое – адзін з аўтаматам, другі зь пісталетам. "Нам нужна ваша учительница". А адзін кажа: "Я с вами пойду на занятия". – "Добра, – адказваю, – ідзіце". На перапынку я пайшоў за хлеў – Жуціна, гэта хутары, навокал лес – гляджу, ён за мной цікуе. Вярнуўся з туалета, а ён: "Собирайтесь, поедем к вам домой". Тады ўжо мне дайшло, што не настаўніца, а я ім патрэбны.

Прывезьлі ў Мядзіла. Пераначаваў у міліцыі. Потым – да чыгуначнай станцыі Будслаў. Сьнягі. Вялі мяне яшчэ зь нейкім хлопцам двое канвойных. Першы спусьціўся ў яр, за ім арыштаваны хлопец. Думаю: "Каб піхнуць апошняга канваіра ўніз, а самому наўцёкі… Але за што яны маюць мяне судзіць? Пайду – што будзе, тое будзе". На станцыі палеглі спаць. Потым чыгункай у Вялейку.

---

*Хацько Мікалай Антонавіч, будучы работнік сістэмы адукацыі ў Мядзельскім і Вілейскім раёнах – *М.Ч.*

У Вялейцы зь мяне шмат соку выціснулі. Сьледзтва вялі ўсялякімі мэтадамі, толькі б вывесьці з раўнавагі, толькі б ім сказаў, што хочуць. Вось ён піша пратакол, уставіць адно слова. Ты пачынаеш пратэставаць, а ён кажа: "Ну што вы да аднаго слова прычапіліся, падпісвайце". Ты і падпішаш. А назаўтра ён з гэтага слова раскруціць цэлы ліст Даймалі ці бяссоньніцай, ці марозам. Мяне пасадзілі ў камэру, дзе была дзюрка надвор, а гэта ж зіма, месяц люты. І я ў той вялейскай камэры ногі памарозіў. Быў нявопытны. Трэба было зьняць боты і абкруціць ногі анучамі, а я лёг спаць абутым. Ураніцы прачынаюся – пальцы на нагах ужо як сьлівы, сінія.

І біць спрабаваў адзін. Я не чакаў гэтага, сядзеў каля печкі, а ён узяў кій і ззаду мяне – па сьпіне, па плячох, па руках. Я падхапіўся, ухапіў табурэтку і на яго. Сьледчы адскочыў за стол, а пісталет у яго руках так і ходзіць. Націснуў на кнопку – зайшлі двое і забралі мяне. Больш я гэтага лейтэнанціка ня бачыў. Колькі мяне ні выклікалі потым – і капітан, і вышэйшыя званьнем, але ніколі больш не спрабавалі біць. Можа табурэтка дапамагла, ці не было патрэбы, бо ўжо мелі прызнаньні іншых. Потым, калі прызнаўся і я, што сябар арганізацыі, пакінулі ў спакоі недзе на тыдзень. Тады зноў у цягнік, два канваіры, і на Менск… Ішлі Менскам – толькі сьцежкі расчышчаныя, навокал груды, руіны. Немцы палонныя цэлымі этапамі ходзяць працаваць на будоўлі. І адразу мяне ў "амэрыканку".

Судзілі ўсіх разам – трыццаць трох чалавек. Але некаторых на судзе не было. З пастаўскіх не было Налівайкі. Ён недзе быў пісталет дастаў, і яго зь ім заўважылі, дык ён яшчэ да раскрыцьця арганізацыі ў Польшчу перайшоў. Там, напэўна, і цяпер жыве. І яшчэ адзін зьбег – Жыхар яго прозьвішча. Ён доўга гуляў па Беларусі, забіваў савецкіх актывістаў і міліцыянтаў. У нейкай вёсцы яго нават былі абкружылі, заклаў бо нехта, дык ён босы выскачыў з акна і ўцёк. А пасьля яго недзе падпільнавалі і забілі. Ён родам аднекуль з Глыбоччыны.

І вось калі Дзеравянку адпусьцілі, бо ня быў у Саюзе беларускіх патрыётаў, на судзе засталіся трыццаць два чалавекі. Пыталіся ў нас мала, гаварыць асабліва не давалі. Тройка судзіла, што вы хочаце? А сярод гледачоў былі толькі жонкі энкавэдыстаў.

Пасьля суду нас стараліся разьяднаць. Але ў адну камэру са мной спачатку трапіла некалькі чалавек, памойму Амельяновіч, Дзікі ды яшчэ нехта.

Калі вывелі нас ісьці на этап, шмат выйшла. Быў Касарэўскі з нашай навучальні, Лагунёнак, я, яшчэ некалькі чалавек. Пачалі выклікаць на трактарны завод, аўтамабільны. Выклікалі Касарэўскага і мяне. Папыталіся, хто па адной справе. Сенька Касарэўскі кажа: "Мы зь Церашкевічам". Яго пакінулі на колькі месяцаў на менскіх будоўлях. А мне: "Ты западный, ты не подойдешь". І этапам ажно да Ленскіх капальняў. На Ленскіх я адбыў недзе тры гады. Там беларусаў траплялася шмат, але з нашай арганізацыі быў толькі Амельяновіч…

А потым нас зноў на этап і на Калыму. Можа, і на Калыме былі зь беларускіх арганізацый, але, ведаеце, там ня надта адкрываліся адзін аднаму, баяліся. Людзі маўчалі. Працавалі, як валы. Я спачатку думаў, што ўжо большага страху за лягер няма. А там, як выявілася, турма ў турме. У ізалятар пасадзяць, і на 10 сутак, і на 25. А потым адтуль у турму. Там некаторых па 25 гадоў і пажыцьцёва трымалі. Заб'юць чалавека і сьпісваюць. Бывалі такія выпадкі. Канваір загадае распаліць вогнішча. Вязень выйдзе з калёны, распаліць, а ён яго – "бах" зь вінтоўкі і насьмерць. Павялі нас аднаго разу аманітны склад будаваць. Канваір мне кажа: "Ідзі, распалі вогнішча". Чую па мове, што беларус, але кажу хлопцам: "Лепш не хадзеце". А сам да канваіра: "Слухай, зямляча, ты хоць бы па-чалавечы, а то такім загадным тонам". Ён адразу: "Вы фашисты, з вамі іначай размаўляць нельга!" Я і кажу: "Навошта тады просіш? Хай табе нефашысты і распальваюць". Адзін дзень ён пасядзеў бяз вогнішча, памерз і другі. Праз пару дзён лагодна папрасіў, я яму і даў чалавека. Той расклаў агонь і нават пачак махоркі атрымаў за гэта.

Шмат лягчэй стала ў лягерах, калі да ўлады прыйшоў Хрушчоў. А выйшаў я ў лютым 1954 году, адседзеўшы няпоўныя сем гадоў. Я па заліках выйшаў, аніякай ні скідкі, ні амністыі не было. І надалей мяне трымалі на поўначы, як пасяленца. Я там да пэнсіі дапрацаваў. Сям'я, сын у школу пайшоў. Вярнуўся ў Беларусь у 1978 годзе і амаль адразу пасяліўся ў Маладзечыне.

*Жнівень 1995 году, Маладзечна.*
*Занатаваў Міхась Чарняўскі*

*Сьцяпан Міско*

**Больш маўчаць нельга**

*Сьцяпан Міско – тэатразнавец, фальклярыст. Нарадзіўся 18 студзеня 1930 году ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёну. У вайну зь 1 верасьня 1941 году быў сувязным беларускіх партызанаў. У 1952 годзе скончыў Менскі пэдагагічны інстытут замежных моваў. Працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі навук БССР. Кандыдат мастацтвазнаўства. Дасьледваў вытокі і народныя формы тэатру, аўтар кнігі "Школьны тэатр Беларусі XVI–XVIII стст." Яго фальклёрныя запісы розных жанраў увайшлі ў шмат якія тамы сэрыі "Беларуская народная творчасць". За сваю актыўную пазыцыю ў нацыянальным пытаньні быў пад пільным наглядам КГБ. У 1974 годзе рэпрэсаваны па абвінавачаньні ў беларускім нацыяналізме.*

Недзе ў 60-70-х гадох я кожнае лета езьдзіў у фальклёрна-этнаграфічныя экспэдыцыі Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру АН БССР, дзе працаваў старшым навуковым супрацоўнікам. Выконваў усё, што патрэбна было фальклярыстам і этнографам, а для сябе адшукваў тое, што засталося ад старажытнага беларускага народнага тэатру, бо я быў тэатразнаўцам. Пабывалі мы ў пяці-шасьці вёсках амаль кожнага раёну ва Ўсходняй Беларусі і я яшчэ захапіў Берасьцейскую вобласьць. Потым мяне выгналі з Акадэміі. Але не мяне аднаго…

Некалькі разоў мы заскочылі і на Смаленшчыну. Тады якраз пару сельсаветаў далучылі былі да Беларусі. Пабылі мы ў тых мясьцінах, і перад Смаленскам і за Смаленскам, дзе колісь да рэвалюцыі наш этнограф і фальклярыст Уладзімір Дабравольскі запісваў беларускі фальклёр і выдаў "Смоленский этнографический сборник" (Ч. 1-4. СПб, 1891-1903). Хоць у 1667 годзе пасьля Андрусаўскага замірэньня Смаленшчына канчаткова адышла да Расеі, але ў канцы XIX стагодзьдзя яшчэ жывая была чысьцюсенькая беларуская мова. Ды што гаварыць, калі яшчэ пасьля рэвалюцыі адчыняліся там беларускія школы. А вось ужо ў 70-х гадох нельга было сустрэць чалавека, нават і старэйшага ўзросту, каб размаўляў па-беларуску. Толькі яшчэ акцэнт выдаваў беларуса. Вось гэта мяне ўразіла найбольш. Калі ўявіў, што ад усяе Беларусі застанецца толькі акцэнт.. Паездка на Смаленшчыну падштурхнула мяне задумацца пра Бацькаўшчыну.

А ў тыя гады разгарнулася гвалтоўная татальная русіфікацыя ўсіх дзяржаўных устаноў Беларусі, якую ўзначальваў і накіроўваў першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў. А пачалася такая русіфікацыя адразу пасьля вайны. Я ўсе яе этапы бачыў асабіста.

Мінуліся школа, інстытут, асьпірантура, дактарантура. І вось пасьля Смаленшчыны я ўжо на зьездах, паседжаньнях, на шмат якіх форумах пачаў адкрыта выступаць і крычаць у абарону беларускай мовы, а гэта значыць, усёй беларускай нацыі. Наколькі магчыма было, выступаў і ў друку. Пасьпеў надрукавацца па нацыянальным пытаньні ў "ЛіМе", "Полымі", "Нёмане" ды іншых газэтах і часопісах. Ня толькі я адзін выступаў у абарону нашае культуры.

Усе гэтыя хлопцы, пра якіх будзе далей, у сваіх інстытутах, дзе толькі маглі, пачалі, адпаведна прыродных інстынктаў, супраціўляцца. Кожнае жывое сябе ратуе… Дайшло нават да агульнага сходу ў АН БССР. На тым сходзе Пятро Глебка, што б пра яго сёньня ні гаварылі, сказаў: "Як бы там ні было, але калі сьцьвярджаюць, што да 1917 году ў Беларусі не было дзяржаўнасьці, дык гэта хлусьня. Вазьміце проста любы энцыкляпэдычны даведнік, дык убачыце, што княства – гэта ўжо дзяржава". А на Беларусі было шмат княстваў, як і ва ўсіх краінах, пакуль яны не аб'ядналіся. А такія княствы, як Полацкае і Наваградзкае, якія ведала ўся Эўропа, і стварылі Вялікае Княства Літоўскае, і сучасныя летувісы таксама там былі. Але гэта была беларуская дзяржава. Насельніцтва беларускае на 80%, дзяржаўная мова беларуская, войска беларускае (а гэта галоўнае ў дзяржаўнасьці)…

Але не драмалі цэкоўцы і кэгэбісты. Усе выступленьні – і ў друку і вусныя – занатоўвалі, групавалі, сыстэматызавалі. І прадставілі красавіцкаму пленуму ЦК КПБ 1974 году, які прысьвечаны быў ідэалягічнаму пытаньню і на які сабралі ўвесь партыйны і савецкі актыў, ад раёну да рэспублікі. Цяпер разьдзяляюць партыйныя і савецкія ўлады. Ды не было ніякай розьніцы. Усіх іх адзін чорт маляваў. Не было ніводнага малавелькага начальніка, каб ён не прайшоў праз кэгэбоўскае і партбюроўскае сіта. Нават царкоўнага вартаўніка прызначалі.

Дык вось, у Акадэміі навук адабралі пяць чалавек: з Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру – Сьцяпана Міско, з Інстытуту літаратуры – Міколу Прашковіча, з Інстытуту гісторыі – Міхася Чарняўскага, зь Беларускай савецкай энцыкляпэдыі – Валянціна Рабкевіча, з Інстытуту мовазнаўства – Алеся Каўруса. Абвясьцілі нас нацыяналістычнай групоўкай, якая на сваіх "сборищах" заклікала аддзяліць Беларусь ад СССР, выгнаць усіх расейцаў, габраяў і палякаў зь Беларусі. Карацей, прыпісвалі ўсе тыя грахі, што колісь прыпісвалі беларускай інтэлігенцыі 20–30-х гадоў, якіх гналі ў Курапаты або канцлягеры. Нас ні сюды ні туды ўжо не маглі загнаць, бо былі ня тыя гады, ня тыя часы.

Праўда, сьледчы КГБ капітан Шыбека, які дапытваў мяне пяць дзён, вельмі шкадаваў і проста гараваў: "Жаль, что это не тридцать седьмой год, вы бы не так загудели". Шкадаваў і аб тым, што ў 1964 годзе дапытваў мяне ня ён, а нейкі там слабавольненькі афіцэр. Тады, у 1964 годзе, мяне цягалі ў КГБ, толькі допыт вялі ў памяшканьні Савецкага райкаму КПБ. Пытаньні тыя самыя. Толькі тады асабліва націскалі на падзеі ва ўнівэрсытэце, дзе яны перад гэтым "выкрылі" студэнцкую "нацыяналістычную" групу.

Я хадзіў тады да сваіх пляменьнікаў Валодзі і Ігара Іскрыкаў, а значыць, падбухторваў. Няўвязка была ў тым, што я толькі паступіў у асьпірантуру, а яны ўжо канчалі ўнівэрсытэт. Так што за тыя два-тры разы, што наведаў хлопцаў, я ня мог арганізаваць і выхаваць іх нацыяналістамі. Асекліся, адступілі.

Самае галоўнае для КГБ было "арганізаваць" нацыяналістычную групоўку. Бо групоўкі той не існавала. Жылі мы па пятнаццаць гадоў у акадэмічных інтэрнатах, дый калі вучыліся – таксама ў інтэрнатах. Па 20–25 гадоў без кватэр, бо займаліся беларускай культурай. Што ведалі адзін аднаго, дык не маглі ня ведаць. Што пісалі пра старажытную гісторыю, культуру і мову беларусаў, дык так наканавана было нам (хоць я скончыў Інстытут замежных моваў, пра што і сёньня не шкадую). Што мы аднолькава думалі пра трагічную гісто-

рыю свайго народу і хацелі для яго лепшай будучыні, дык так думалі ўсе шчырыя беларусы.

Вось нас і павыганялі з працы і рабілі, што хацелі. Прашковіча напаткаў жахлівы лёс. Плёткі розныя распусьцілі і пра яго і пра яго сьмерць, але не хачу варушыць старое, бо вельмі цяжка. Дый плётак сёньня гэтулькі, што сьвет ня бачыў.

Тое, што былі стукачы, дык яны вечна былі і будуць. А вось наконт правакатараў, дык гэта іншая рэч. Гэта страшэнныя і, дарэчы, вельмі старажытныя нягоднікі. Ня дзіва, што іх зьнішчаюць. Нават сусьветная грамадзкасьць бараніла Сяргея Прытыцкага, калі ён пакараў правакатара Стральчука (праўда не на сьмерць, падстрэліў толькі).

Цэлую гадзіну чытаў мне натацыі П. М. Машэраў на бюро ЦК перад тым пленумам 1974 году. І што празь некалькі гадоў наагул беларуская мова зьнікне, і што ў нас адзіны савецкі народ, і што адзіная мова будзе, і ўсё падмацоўваў цытатамі, відаць рыхтаваўся да пленума: "В речи товарища Брежнева… В духе установок товарища Брежнева… Говоря словами Леонида Ильича Брежнева… Благодаря основополагающим установкам речи товарища Брежнева на…". Гэтыя выразы знойдзеце ў кожнай яго прамове, у кожнай брашуры праз кожныя дзьве-тры старонкі. Надта ж зьдзекваўся: "Нашёлся "свядомый белорус". Поживешь два года без работы, вот посмотрим, как ты запоешь". Вось і ўся ягоная чалавечнасьць. Надта цэкоўцаў заядала адна народная прыпавесьць, якую я часта расказваў знаёмым: "Што было б, каб усе моры ў адно мора, а ўсе горы ў адну гару, ды каб тая гара была каля таго мора? А каб усе дубы ды ў адзін дуб, ды каб той дуб ды вырас на той гары, а каб усіх чалавекаў ды ў аднаго чалавека, а каб усе пілы ды ў адну пілу, ды каб той чалавек узяў тую пілу, ды залез на тую гару, ды каб сьпілаваў той дуб, ды каб той дуб ды ўпаў у тое мора, дык што было б? А народ і адказваў: "Дык быў бы вялікі плюх".

Дык вось з гэтага іх адзінства і атрымаўся "вялікі плюх".

Яны разумелі, для чаго я расказваў гэтую прыпавесьць.

Найбольш Машэраў напіраў на мову. Добра памятаю, як ён пакпіў: "Ты думаешь, если бы ты стал президентом Белоруссии, так сразу все и заговорили бы на белорусском языке?" Усе, вядома, не загаварылі б, але ўсё чыноўніцтва за два месяцы гаварыла б па-беларуску. Так зрабіла княгіня Магдалена Радзівіл у 1918 годзе пасьля абвешчаньня БНР. Яна загадала па ўсіх сваіх уладаньнях усім чыноўнікам праз два месяцы гаварыць і пісаць па-беларуску. Потым сама праверыла. І хто не гаварыў, дык перастаў быць чыноўнікам.

Разглядалі маё пытаньне на бюро ЦК таму, што я падаў апэляцыю, калі мяне выключылі з партыі. Некалькі месяцаў да гэтага яны разглядалі справу нашага пісьменьніка Аляксея Карпюка. Дык адзін з членаў бюро выкрыкнуў: "Нашелся еще один Карпюк". Відаць, ён ім таксама ўеўся. Тое, што некаторыя пішуць, нібыта Машэраў дапамог А. Карпюку, дык гэта празь недасьведчанасьць. Сам Аляксей казаў мне, што найбольш памог яму найвышэйшы ордэн Польшчы "Віртуці мілітары", які ён атрымаў у вайну… Хацелі ж у турму загнаць. Што яму не прыпісвалі толькі?

Калі ўжо гаварыць пра чалавечнасьць Машэрава, дык чаму ж ён не абараніў дзяцей, якіх у 1948 годзе пацягнулі з школ ды тэхнікумаў у турмы, бо, бач, вучыліся пры немцах і былі запісаныя ў Саюз беларускай моладзі. Большасьць зь іх маглі стаць у 48-м і камсамольцамі, а ён тады якраз і быў сакратаром ЦК ЛКСМБ. Няхай ужо тым дружыновым, грамадовым, зьвязовым (гэта назовы, як цяпер у піянэраў) маглі што-небудзь прышыць. Але хто тады думаў пра нейкія правы чалавека? Праўда, у Слоніме сакратары райкаму камсамолу ведалі, што большасьць дзяцей былі ў СБМ, але не зьвярнулі ўвагі, калі я прымаў іх у камсамол, і ўсіх зацьвердзілі на бюро. Тых, хто не ўступіў у камсамол, пасадзілі (але, яны, дзякаваць Богу, выжылі, а некаторыя і вышэйшую адукацыю атрымалі).

Нам ня толькі палітыку прыпісвалі. Нас аб'явілі кучкай сабутэльнікаў! Гэта прытым, што Алесь Каўрус і Міхась Чарняўскі ў той бок ніколі не заглядвалі. Я ж з Уладзімірам Караткевічам і Міколам Прашковічам дык маглі й выпіць. Ды і сягоньня яшчэ магу, толькі як шкада, што бязь іх! Што я ад душы хацеў бы, дык каб гэтую камуністычную партыю, што сёньня ўжо аднаўляецца, урады ўсіх былых рэспублік забаранілі "за фізічнае і духоўнае вынішчэньне людзей". Усе гэтыя іх злачынствы былі на нашых вачох, увесь сьвет гэта ведае і не патрэбныя ніякія судовыя доказы. Фашысцкую зграю забаранілі і гэтую неабходна забараніць.

Ва ўсе часы сумленныя людзі пры самых цяжкіх акалічнасьцях заставаліся сумленнымі. Каб такога не было, дык і сьвет перастаў існаваць бы. Так што гэтыя сёньняшнія галашэньні пра ўсеагульнае пакаяньне і дараваньне гарэлага шэлега ня вартыя.

На кожнае слова, што я пішу цяпер, ёсьць жывыя сьведкі, а сёньня нават мой сваяк паэт Анатоль Іверс (Іван Міско) напісаў і заверыў подпіс, як забілі камісара брыгады Фякціста Фіско і камандзіра Язэпа Урбановіча, сапраўднага арганізатара нашых партызан, – забілі за беларускае адраджэньне. Вось акалічнасьцямі гібелі Урбановіча хай і займуцца кэгэбісты.

Беларускі народ ня можа дараваць ім усе Курапаты, а іх было шмат. Не было ніводнай вёскі, каб ня вынішчылі цэлыя сем'і. Нельга дапусьціць, каб усё гэта паўтарылася.

*Менск, 1994 г.*

*Падрыхтавалі да друку*
*Міхась Чарняўскі і Зьміцер Санько*

*Георгі Штыхаў*

## Лёс "звычайнага" чалавека за саветамі. Слова пра тату

У часы савецкага таталітарызму мой тата, Васіль Лявонавіч Штыхаў, сельскі настаўнік пачатковых кля-саў, быў асуджаны двойчы. Першы раз у 1933 годзе ў Гомельскай вобласьці, другі – у канцы 1937 году ў Казахстане. А сканаў у Сосьве, у Расеі. У гэтак званую гарбачоўскую перабудову я атрымаў магчымасьць азнаёміцца зь дзьвюма сьледча-судовымі справамі.

У 1932 годзе бацька, ужо трапіўшы пад "каўпак", але не здагадваючыся пра гэта, перайшоў працаваць зь вёскі Бярвёнаўка (Буда-Кашалёўскага раёну) у вёску Жмураўка (Рэчыцкага раёну). Ён быў арыштаваны 18 красавіка 1933 году ў Рэчыцы як "вораг народу". Сьледзтва вёў адданы свайму бруднаму рамяству опэр-упаўнаважаны Лучына. Справе прыдумалі гучны назоў – "Уваравіцкая контррэвалюцыйная паўстанцкая арганізацыя". Арыштавалі 20 чалавек, засудзілі 19. Ад-наго, а менавіта Дз.П.Панчанку, празь месяц выпусь-цілі. Аднавяскоўцы яшчэ тады шэптам казалі: ягоных рук справа.

Я з хваляваньнем перагарнуў першы аркуш асноў-нае справы. Ага, вось ён – завочна знаёмы мне "сьвед-ка" Дз.П.Панчанка! Адразу "стукае", што міраед Н.А.Быкоўскі прапанаваў яму ўступіць у паўстанцкую арганізацыю.

Наступны аркуш самы галоўны – вочная стаўка Панчанкі з Быкоўскім у прысутнасьці пільнага сьледча-га. Адзіная вочная стаўка ва ўсёй справе. Панчанка паўтарыў тое, што казаў раней як "сьведка". Навялікае дзіва, Быкоўскі з гэтым маўкліва пагадзіўся. Несумнеў-на, чэкісты яго ўжо грунтоўна "апрацавалі". На пы-таньне сьледчага, хто быў завербаваны ў паўстанцкую арганізацыю, Быкоўскі адразу назваў 20 прозьвішчаў і майго бацьку на заканчэньне. Для мяне зразумела: сьпіс будучых вязьняў падрыхтаваў сам опэрупаўна-важаны з дапамогай стукачоў, а таксама членаў сельса-ветаў, прадстаўнічых органаў савецкай улады ў сельскіх раёнах.

Амаль на кожнага арыштаванага ў сьледчай справе прысутнічае даведка-"наводка" сельскага савету аб яго ненадзейнасьці. Напрыклад, у даведцы (фактычна – даносе) на Ц.Я.Драбышэўскага напісана: "Савецкую ўладу і ўсе яе мерапрыемствы ненавідзіць". У даведцы-"наводцы" на Н.А.Быкоўскага сказана: "Да рэвалюцыі служыў стражнікам у Мазырскім уездзе і г. Мазыры. Савецкую ўладу ненавідзіць усёй душой, агітуе сярод масаў супраць савецкай улады". Так быў знойдзены найбольш прыдатны кандыдат на ролю начальніка ўзброенай паўстанцкай арганізацыі.

Даведка пра майго бацьку адсутнічае. Ён працаваў на тэрыторыі Бярвёнаўскага сельсавету паўтраця году. У паказаньні сьведкі, таксама настаўніка, гаворыцца, што В.Л.Штыхаў выказваў незадавальненьне, калі школьных настаўнікаў раёну прымушалі ўдзельнічаць у нарыхтоўцы дроў у лесе. Вось і ўся рэальная агітацыя майго таты супраць улады. Для ярлыка "вораг народа" зусім дастаткова.

Паўстае няпростае пытаньне, што прымусіла Бы-коўскага агаворваць сябе і яшчэ 20 чалавек? Напэўна "органы" здабылі зьвесткі пра ягоную службе ў паліцыі стражнікам і нейкіх адпаведных дзеяньнях пасьля бур-ных падзеяў 1905–1907 гадоў. Відаць, Лучына запалохаў яго расстрэлам, калі ён ня пойдзе на супрацоўніцтва і не "расколецца" поўнасьцю. У сапраўднасьці Быкоўскі выканаў ролю запалоханага паклёпніка.

Сфабрыкаваную справу разглядала тройка АДПУ (ОГПУ) БССР. Арыштаваныя абвінавачваліся ў наступ-ным: "а) зьяўляліся ўдзельнікамі контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі, якая ставіла мэтай зьвяржэнь-не савецкай улады шляхам узброенага паўстаньня*; б) сыстэматычна праводзілі контррэвалюцыйную агіта-цыю, скіраваную на зрыў мерапрыемстваў, што право-дзяцца ў вёсцы".

Абвінавачаных засудзілі пастановай тройкі да роз-ных тэрмінаў зьняволеньня ў лягерах. Некаторыя, ма-ладзейшыя, адбылі 6-8 гадоў пакараньня і вярнуліся да-дому. Іншай сталася доля майго бацькі, якога выслалі на 5 гадоў у Казахстан.

Ад канца 1933 году бацька знаходзіўся ў высылцы ў Каменскім раёне (цяпер Уральская вобласьць Казахста-ну), дзе яму ўдалося ўладкавацца настаўнікам няпоў-най сярэдняй школы. Горкі вопыт навучыў яго быць асьцярожным, нідзе ня весьці гутаркі на палітычныя тэмы. Але патрабавальны настаўнік неяк не ўтрымаўся і назваў неахайную і гультаяватую дачку саўгаснага ра-хункавода К.Давіліна "чушкай нямытай". Гэта не заста-лося безвыніковым.

У сьледчай справе як "сьведка" фігуруе рахункавод саўгасу Кузьма Давілін. У сваім паказаньні ён паведам-ляе, што раней інфармаваў НКВД пра палітычную "не-благонадежность" В.Л.Штыхава. Гэтым рахункавод хацеў падкрэсьліць сваю пільнасьць, але незнарок "засьвяціў" сябе ў дакумэнтах як стукач. У кастрычніку 1937 году тату зноў арыштавалі.

Тое, што паведаміў "сьведка" Давілін, відавочна, было паклёпніцкім даносам. У ім гаварылася, што Васіль Лявонавіч "сустракаўся з ссыльнымі ленін-градцамі, станоўча гаварыў пра Зіноўева ды іншых во-рагаў народу, выказваўся супраць калгасна-саўгаснай сыстэмы".

У турме бацьку паведамілі, што пастановай Асобай тройкі НКВД Уральскай вобласьці яго засудзілі на 10

*У двох асуджаных знайшлі па адной паляўнічай стрэльбе.

гадоў "за антысавецкую прапаганду". Адбываць пакараньне накіравалі ў 10-е аддзяленьне НКВД у Сосьве (Гарынскі раён Сьвярдлоўскай вобласьці РСФСР). Адтуль бацька пісаў дзесяткі скаргаў у розныя інстанцыі. Паступалі паведамленьні: "скарга накіраваная на разгляд". А па нейкім часе прыходзіў адказ, дзе нязьменна пацьвярджалася "правільнасьць" прысуду.

У сьледчай справе падшытыя ўсе дакумэнты. Выявілася, што пракуратура Заходнеказахстанскай вобласьці двойчы аспрэчвала прысуд. У пратэсьце, які падпісаны памочнікам пракурора Івановым, сказана, што В.Л.Штыхаў асуджаны няправільна. Памочнік пракурора адзначаў: "паказаньні сьведак агульныя і неканкрэтныя, не была праведзена вочная стаўка арыштаванага зь сьведкамі". Аднак гэта не дапамагло. Вырашальнае значэньне мела зусім кароткая, на паўстаронкі, даведка супрацоўніка НКВД лейтэнанта Мядзьведзева, узятая з справы 1933 году і дадаткова сфальшаваная ім асабіста.

У ёй гаварылася, што В.Л.Штыхаў "належаў да паўстанцкай арганізацыі беларускіх нацыяналістаў, на заданьне якой займаўся антысавецкай агітацыяй". Трох слоў упаўнаважанага органаў НКВД – "арганізацыя беларускіх нацыяналістаў" – было дастаткова, каб назаўсёды пакончыць з намаганьнямі бацькі вырвацца зь няволі. У справе 1933 году поўнасьцю адсутнічае тэрмін "нацыяналізм", а тым больш "арганізацыя беларускіх нацыяналістаў". Фальшаваньне энкавэдыстам Мядзьведзевым пастановы тройкі забясьпечвала адмоўны адказ на ўсе скаргі майго бацькі. Абвінавачваньне ў нацыяналізьме ў савецкай дзяржаве памілаваньню не падлягала. Тэрміны зьняволеньня за гэта можна было толькі павялічваць, але не памяншаць.

Мы даволі рэгулярна атрымлівалі ад бацькі лісты. Аб палітыцы ён пісаў намёкамі. Напрыклад, "Гэты час перажываюць мільёны людзей" (лістапад 1939 году). Праз год знаходжаньня ў лягеры бацька напісаў: "Учора я мыўся ў лазьні і сам жахнуўся, якое маё цела худое, жоўтае, рыхлае. Буду важыць ня больш як тры пуды". Зь ліста за 20 ліпеня 1940 году: "Бачыў, як везьлі па рэчцы шмат палякаў (сем'яў) з Зах. Беларусі, каб сяліць у тайзе". Зь ліста за 28 жніўня 1940 году: "Побач з нашым лягерам знаходзіцца лягер, дзе жывуць палякі. Яны прыбылі нядаўна з Галіцыі, Заходняй Беларусі і Ўкраіны, зь Львова і інш. Публіка чыстая, апранутая, інтэлігентная. Гарадзкая. Мужчыны і жанчыны. Яны таксама косяць сена, але косяць дрэнна, горш за нас".

Апошні ліст бацькі да нас датаваны 16 чэрвеня 1941 году.

У 1967 годзе наша сям'я атрымала афіцыйнае паведамленьне аб сьмерці бацькі. Зь яго вынікала, што В.Л.Штыхаў памёр 13 красавіка 1943 году. Узрост 54 гады, прычына сьмерці – страсеньне мозгу. Месца сьмерці – г. Уральск. Маўляў, ва Ўральску быў арыштаваны ў 1937 годзе, ва Ўральску і памёр. Копія падшыта ў сьледчай справе 1937 году. Калі я праглядаў яе, дык заўважыў на вокладцы ледзь прыкметны надпіс алоўкам: "Умер в 1942 г." Гэта не выпадкова і больш праўдападобна. Хлусьня, ашуканства, фальшаваньне ва ўсім і ўсюды, нават у даце сьмерці, бязьлітаснае стаўленьне да ўсіх грамадзян, знакамітых і звычайных, – такі быў стыль працы органаў ЧК-ОГПУ-НКВД-МГБ цягам многіх дзесяцігодзьдзяў, пачынаючы з часоў Ульянава (Леніна). Такой была нялюдзкая існасьць савецкага таталітарызму – бандытызму ва ўладзе.

Бацька рэабілітаваны па першай справе (1937 году) у 1957 годзе, а па другой (1933 году) – у 1962 годзе. Калі міліцыянт зьявіўся да маці з паведамленьнем аб рэабілітацыі мужа, яна па народным звычаі загаласіла на ўсю вуліцу, паўтараючы: "Замучылі чалавека, згнаілі жывога за нішто". У сям'і было трое дзяцей. Мой старэйшы брат Яўген, кармілец сям'і, загінуў на фронце, абараняючы Ленінград.

Ці адчуў у гэты момант прадстаўнік праваахоўных органаў усю горыч драмы, якую перажыла жанчына – наша мама? Краіна і ўлада ў ёй, якая дапусьціла жудаснае глумленьне зь людзей, пазбавілася даверу сваіх грамадзянаў і таму яе распад быў непазьбежны. Гэта заўсёды павінны памятаць кіраўнічыя колы кожнай дзяржавы на постсавецкай прасторы.

*23 сакавіка 2004 году*
*Менск*

## Іван Дудка

14 чэрвеня 2006 году ў Баранавічах памёр вэтэран беларускага вызвольнага руху, вязень расейскіх канцлягераў Іван Дудка. Ён пражыў 83 гады.

Іван Дудка нарадзіўся на Нясвіжчыне. Пад час нямецкай акупацыі быў сябрам Саюзу беларускай моладзі, а пасля стаў жаўнерам Беларускай Краёвай Абароны. У 1946 годзе ”за непрыхільнае стаўленьне да савецкай улады” быў асуджаны на 25 гадоў канцлягераў. У зьняволеньні знаходзіўся на поўначы Расеі, у Інце. Дудка і яго жонка Тафіля (таксама вязень бальшавіцкіх канцлягераў) сябравалі з паэткай Ларысай Геніюш. Іван Дудка часта езьдзіў у Зэльву, каб дапамагчы ёй - нарыхтоўваў дровы, рабіў рамонт, бо быў добрым мулярам і цесляром.

Ад 1990-х гадоў Іван Дудка браў удзел у працы Таварыства беларускай мовы. Разам зь сябрамі наведваў зьезды Згуртаваньня беларусаў сьвету ”Бацькаўшчына” ў Менску. Свой кнігазбор Дудка ахвяраваў баранавіцкай гарадзкой бібліятэцы імя В. Таўлая.

## Кастусь Мысьлівец

На пачатку красавіка 2006 году на 61-м годзе жыцця ў Драгічыне памёр Кастусь Мысьлівец, лідэр мясцовых фронтаўцаў. Паходзіў зь сям'і ўдзельнікаў антыбальшавіцкага Супраціву. Бацька-франтавік разам з 16-гадовым сынам пайшоў у партызанскі аддзел, які ваяваў супраць савецкай улады, яны загінулі ў баі ў 1951 годзе. Кастусёву маці арыштавалі, а яго выхоўвалі сваякі.

Верны ідэалам, за якія аддалі жыцьці ягоныя родзічы, Кастусь Мысьлівец разам зь сябрамі вадзіў школьнікаў з патрыятычнай арганізацыі імя Элізы Ажэшкі па месцах былых баёў ”лясных братоў” з энкавэдыстамі. Моладзь складала прысягу на вернасьць Беларусі.

## Мікола Канаш

29 кастрычніка 2006 году памёр вядомы беларускі патрыёт, вязень расейскіх канцлягераў Мікола Канаш. Ён нарадзіўся ў 1926 годзе на Браслаўшчыне. Да беларускага нацыянальнага руху далучыўся пад час Другой сусьветнай вайны, калі вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі, быў сябрам Саюзу беларускай моладзі. Адразу пасля вайны Канаша арыштавалі і засудзілі на 25 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў на поўначы Расеі, на Інце, дзе пазнаёміўся з паэткай Ларысай Геніюш. У 1956 годзе Міколу Канаша вызвалілі, але вярнуцца на Радзіму не дазволілі. Ён і далей працаваў у шахтах на Поўначы. Там Канаш ажаніўся з украінкай Соф'яй, якая таксама мела 25 гадоў зняволення за нацыянальныя погляды.

У 1973 годзе Канашы пераехалі ў Беларусь, жылі ў Жлобіне. Мікола Канаш шмат зрабіў для захаваньня і публікацыі лягерных вершаў Ларысы Геніюш, пісаў успаміны пра беларускіх патрыётаў, зь якімі яму давялося сустрэцца.

*Сяргей Ёрш*



*Міхал Дубянецкі*

## Сарвалі зь яе зорку і кінулі ў агонь

*Міхал Дубянецкі – выдавец, перакладнік, грамадзка-палітычны дзяяч. Нарадзіўся 4 сакавіка 1927 году ў вёсцы Востраў Пінскага раёну. Працаваў інструктарам сэктару друку ЦК КПБ, адказным сакратаром і намесьнікам галоўнага рэдактара выдавецтва “БелСЭ”, дырэктарам выдавецтва “Мастацкая літаратура”. У гісторыі выдавецкай справы падсавецкай Беларусі не было больш ініцыятыўнай, творчай і адначасова сьмелай асобы. Меў незвычайны талент у працы зь людзьмі. Міхал Дубянецкі быў несумненна чалавекам новага часу. Маючы вольную няўрымсьлівую натуру з чуйнай душою, ня ўпісваўся ў цесныя рамкі сыстэмы. Шмат цярпеў ад гэтага, што і скараціла яму век. Быў адным з заснавальнікаў грамадзкага гістарычна-асьветнага таварыства памяці ахвяраў сталінізму “Мартыралог Беларусі” і Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”. Памёр 3 верасьня 1990 году.*

Мы заўсёды жылі разам з жыдамі. Беларуская зямля сталася некалі прытулкам для гэтых людзей, калі іх выганялі з Заходняй Эўропы… Яны змалку былі часткаю майго сьвету. Наша маці* зь вялікім разуменьнем ставілася да іх рэлігійных патрэбаў. Па суботах, ведаючы, што ў гэты дзень ім нельга нічога рабіць, яна часта спрабавала выправіць нас да прыяцеляў-аднаклясьнікаў: “Мо схадзі да Ёсі (да Мойшы, Рыўкі ці Хайкі)”. Рабіла гэта далікатна, ня кажучы наўпрост, каб схадзілі памагчы. “А чаго я пайду?” – няўцямна пытаўся каторы з нас. “Можа, урокі зробіце”, – адказвала мама. “А мы

*Дубянецкая (дзявочае Бохан) Марыя (1898–1984).

ўжо зрабілі”. Яна ўсё адно прыдумляла нейкую зачэпку. Разумела: а раптам людзям дапамога спатрэбіцца – падаць, што звалілася, ці прынесьці што-небудзь. Як нехта побач, яны й папросяць…

Калі мне было гадоў чатырнаццаць, здарылася такая гісторыя. Было гэта ў вайну, халоднай парою, мабыць, 1942 году. Аднаго разу мы пачулі сабачы брэх ды гукі пагоні. Асьцярожна высунуўшыся на двор, зразумелі, што немцы гоняць дзяўчынку-падлетка, якая, відаць, уцякла з гета. Яна бегла па нашай вуліцы*, а яны гналіся за ёю. І вось гэтая жыдовачка, ратуючыся, забегла да нас у хату. А немцы ўжо блізка, было чуваць, як гергеталі. Мама тым часам завіхалася ля печы. Дзяўчынка забегла і стаіць здранцьвеўшы ля парога. І мы на яе глядзім. Гэтая нямая сцэна доўжылася, можа, якую сэкунду. Мама адразу зарыентавалася: імгненна аддала загады дзецям – а нас, старэйшых, было тады пяцёра – каму што рабіць. З уцякачкі сарвалі жоўтую зорку, кінулі ў агонь. Сарвалі яшчэ нешта з вопраткі, што выдавала яе як жыдоўку. Накінулі на яе нейкую апранаху, сунулі ў рукі якуюсь работу, здаецца бульбу абіраць, і пасадзілі так, каб не да дзьвярэй тварам. Мне мама даручыла дапісаць яе, прыдумаўшы імя, у сьпіс жыхароў (такі сьпіс на нямецкай мове вісеў на дзьвярох кожнае хаты).

Мы выканалі маміныя распараджэньні хутка і дакладна, і таму ўся справа заняла ня больш за хвіліну. А тады, кіруючыся ейнай “інструкцыяй”, як нічога ніякага занякіся сваімі справамі… Рыхтык у той момант, як усё было скончана, у хату зайшлі немцы. Праверылі сьпіс, палічылі дзяцей і пайшлі далей.

*Вёска Востраў Столінскага раёну.

*Занатавала Ірына Дубянецкая*
*Падрыхтаваў да друку Зьміцер Санько*

ДЫЯРЫЮШ

*Віктар Маркавец*
**Дзённікавыя нататкі 1986–1987 гадоў**

*У папярэднім нумары бюлетэня (Veritas. 2005. № 1 (3). С. 6-11) апублікаваны ліст беларускіх пісьменьнікаў, дзеячоў навукі і культуры да генэральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова, вядомы як “Ліст 28-мі”. Прапануем увазе чытачоў фрагмэнт дзённіка аднаго з арганізатараў гэтай акцыі. Запісы зробленыя ў канцы 1986 – пачатку 1987 году, калі пісаліся розныя лісты ў розныя інстанцыі. Пачынаючы зь 5 лістапада 1986 году размова ідзе пра асноўны ліст да М. Гарбачова. Даты ставіліся на момант запісу і таму не заўсёды дакладна супадаюць з храналогіяй падзеяў.*

*Занатаваныя аўтарам зьвесткі пра кантакты зь людзьмі пад час зьбіраньня подпісаў, пра гутаркі з маскоўскімі “рэвізорамі” добра перадаюць напружана-драматычную атмасфэру таго часу.*

***25 кастрычніка 1986 г.***

Насіў да П. ліст пра мову. Трэба праверыць яго стаўленьне, хоць для мяне ягоная пазыцыя зразумелая. Але трэба гэты ход зрабіць. Было б нетактоўна патрабаваць ад яго подпісу пад лістом. А ўцягнуць яго ў гэтую працу – іншая справа. Але думаю, што гэтага ня будзе.

У яго пакойчыку, як заўсёды, усюды раскладзеныя паперкі: там стосік, там стосік – на падлозе, стале, канапцы… Пакет выклаў адразу, трохі па-змоўніцку: «Вось я да Вас, як Гарбачоў, з “пакетам”». Каб ён неяк арыентаваўся, сказаў, што адзін з подпісаў пад лістом мой. Прасіў акрэсьліць сваё стаўленьне: нас цікавяць яго думкі, меркаваньні. Дастаў з пакета ліст і паказаў назоў, каб зьняць покрыва сакрэтнасьці, зарыентаваць.

Потым быццам забыліся пра “пакет”. Пачалася доўгая літаратурная гаворка, дакладней маналог, дзе я цярпліва слухаў. Падарыў мне свае кніжкі. Размова была працяглай, але нарэшце П. пайшоў праводзіць мяне, апрануўся. Толькі на вуліцы, калі гаворка перайшла на нейкія “агульначалавечыя” тэмы, я паспрабаваў вярнуць яго да тэмы сягоньняшняга моманту, ацэнкі сітуацыі. Перад самым разьвітаньнем усёж ён выказаўся, і я пачуў усё тое, што чуў ужо раней, і чаго ад яго можна было чакаць.

Зразумела, што ён ня можа быць у ролі “адкрытага змагара”. У кожным разе кантакт зь ім карысны. Яшчэ адно прафэсійнае меркаваньне, пашырэньне інфармацыі, думкі.

***2 лістапада 1986 г.***

Ліст з прапановамі наконт мовы, што я перадаў П., падобна, выклікаў у яго цяжкі стан душы. Ён надоўга прыціх, не тэлефануе. Чалавек ня можа знайсьці шляхоў, як выблытацца з гэтага становішча. Мне няёмка, што паставіў старога ў такія абставіны. Наперад было зразумела, якую рэакцыю выкліча ў яго гэтая прапанова. Шкада, што мне выпала гэтая непрыемная роля.

Нечакана П. зрабіў візіт да Гаранскай у Заслаўе, доўга гасьцяваў, быццам заехаўшы па дарозе. Думаю, што асноўная мэта ў яго была – выпусьціць інфарма-

цыю, каб вакольнымі шляхамі дайшла да нас, бо сам ён ня здольны адкрыта выказацца – такі ўжо чалавек. Размова ўсё ж рана ці позна адбудзецца, але яму трэба да гэтага падрыхтавацца, зьняць балючыя для сябе моманты. Вось таму ўспомніў пра Гаранскую, адчуваючы, што канал павінны спрацаваць. Ён апавядаў зь нейкімі намёкамі пра тое, што Садоўскі, маўляў, хацеў уцягнуць яго ў нейкую ненадзейную авантурную справу, нешта казаў наконт мяккага знака і г. д. Адным словам, пайшла "няпраўда". Ня варта было ўцягваць яго ў гэтую кампанію. Ён вельмі адчувальна, балюча рэагуе на такія рэчы, хваравіта пераносіць і вакольнымі шляхамі дае зразумець, што падпісаць ня можа. Шкада мне яго.

А Пётра Садоўскі напісаў выдатны артыкул у ЛіМ. Пасьля гэтага недарэчна яго ў нечым вінаваціць, асабліва дзіўна чуць гэта ад П.

***5 лістапада 1986 г.***

Калі ліст быў ужо падпісаны, Назарчук узяўся паказаць яго Шчамялёву, Басалыгу, Сьвентахоўскаму. Тыя не падпісалі, ды яшчэ прынцыпова раскрытыкавалі ідэю. Маўляў, несур'ёзна: "школьнікі", "хлапчукі" і г. д. Маўляў, трэба больш праблемны, шырокі ліст, каб усе творчыя саюзы былі задзейнічаныя і г. д. Назарчук пасьля гэтага свой подпіс зьняў і лічыў, што ўсе павінны зьняць. Справа непрыемная. Аляксей зь Міколам застаюцца без падтрымкі.

Зь Яўгенам паехалі ў ЛіМ наконт агульнага ліста пра мову. Гаварылі з Тарасавым. Яны падтрымліваюць, але надрукаваць Вярцінскі асьцерагаецца, бо можна "пагарэць". Таму дамовіліся, што прынясем ім ліст зь некалькімі подпісамі, каб гэта было афіцыйна. А варыянт з шырокай колькасьцю подпісаў накіруем у Маскву.

***11 лістапада 1986 г.***

Ліст пра стан мовы, падпісаны Содалем, Мірачыцкім, Кулікам і мной, перадалі Купаву, каб той дапоўніў подпісамі. Мікола сабраў усіх разам: Лецку, Каханоўскага, Рашчынскага. Быў і Марачкін. Раздаў усім лісты. Тыя пачалі чытаць і крэмзаць. Каханоўскі нават на першым асобніку ручкай зрабіў свае заўвагі. Ніхто ліста не падпісаў. Напісалі кучу меркаваньняў – і ўсё. Тут жа Марачкін пагадзіўся, што ўсё трэба перарабляць.

Вечарам не паехаў на размову, ведаючы наперад, якая яна будзе. Нашая паперына не прынесла той карысьці, на якую разьлічвалі. Калі гэтакая розная рэакцыя ў тых, на каго разьлічвалі, то чаго чакаць ад людзей больш далёкіх?

***27 лістапада 1986 г.***

Асобнікі ліста аб мове передрукаваныя нанова. Павезьлі на подпіс Рашчынскаму. Ён доўга чытаў, вагаўся, але адмовіцца ня змог. Падпісаў. Далей трэба шукаць падтрымкі ў важкіх, значных асобаў. Бо на ўзроўні Дзімітрава 3 гэта не гучыць.

***6 сьнежня 1986 г.***

Абедалі ў мяне зь Яўгенам. Потым накіраваліся да Сіпакова ў "Маладосць". Калі папярэдне тэлефанаваў яму, ён ўзрадаваўся: відаць, думаў, што нясу матэрыял. Але якое было яго засмучэньне, калі прапанавалі падпісацца. Подпісаў было ўжо даволі шмат, усе з званьнямі, кандыдаты, адзін доктар (Арочка). Але большасьць навукоўцаў. Таму хацелася дадаць пісьменьнікаў. Была зручная паўза, каб Сіпакоў мог спакойна азнаёміцца зь лістом, бо якраз абвясьцілі нейкі сході ўсе супрацоўнікі выйшлі з кабінэту. Ён адразу адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што форма "прыказная" яго не задавальняе і што ён не такая важная фігура і што на ім вісяць "старыя грахі". Гаворку хутка замялі, бо ціснуць на чалавека не было сэнсу і ўзьнікала нейкая напружаная атмасфэра. Сіпакова яўна паставілі ў непрыемнае становішча.

***8 сьнежня 1986 г.***

Ехалі да Конана ў Серабранку. Ён падпісаў адразу. Потым падвезьлі яго да вуліцы Горкага па нейкіх ягоных справах.

Дамовіліся з Барадуліным на сустрэчу. Знайшлі Разанава, і тут жа Барадулін. Алесь не хацеў браць удзелу ў кантактах па подпісах, але нейкую прысутнасьць ствараў. Барадулін прачытаў – сказаў, што гэта ўтопія, але што ўсё роўна падпіша. І падпісаў.

Пасьля Барадуліна шукалі выхаду на Панчанку, аднак той хворы, да яго не дапускаюць сямейнікі і таму выхаду не знайшлі.

Быкаў маўчыць – ніхто не бярэ трубкі. Атрымалася паўза.

***10 сьнежня 1986 г.***

Зь Яўгенам едзем на вул. Макаёнка 3, дзе ў будынку Станцыі юных натуралістаў разьмяшчаецца мэтадычны кабінэт, у якім працуе Ірына Марачкіна. Чакаем. Нарэшце яна дамаўляецца зь зяцем П.Панчанкі. Едзем да яго на працу, гэта побач. На перамовы накіраваліся Яўген з Ірынай. Вярнуліся незадаволеныя, той быццам бы адмовіў у прыёме.

Адтуль проста да П. Калі па настойлівай просьбе Яўгена дамаўляўся на гэтую паўторную сустрэчу, дык П. сказаў, што ўчора два разы званіў мне, хацеў бачыць, але, вядома, мяне аднаго, і ня ў гэтай справе. Склалася не найлепшая сытуацыя. Я адчуваў, разумеў, што ён хоча выгаварыцца са мною, але пытаньне зь лістом трэ' было тэрмінова зачыняць, і Яўген патрабаваў канкрэтнасьці. Тут я не зусім згодны зь сябрамі, з такімі мэтадамі. Бо наперад відаць, хто ёсьць П. і як ён паставіцца да тае ці іншае справы. Навошта зь яго сіламоцьцем выцягваць канкрэтнае "так ці не". Навошта выпрабоўваць, правяраць…

Зразумела, што ён, убачыўшы мяне не аднаго, а зь Яўгенам, адразу ж спахмурнеў.

Пачалася цяжкая і непрыемная размова. П. адразу пачаў нешта казаць пра тое, што ён ужо штосьці такое

некалі напісаў, яшчэ больш страшнае… Усё ж уціснулі яму ў рукі ліст, змусілі прагледзець подпісы (спадзеючыся, што гэта падзейнічае). І ўсё адно: "Усе падпісанты маладыя, а гэта вынікае, што я, як старэйшы, усё арганізаваў" і г. д., і да т. п.

Усё было зразумела і хацелася як мага хутчэй справу скончыць. Забраў гэты "страшны" ліст з рук П. і схаваў у Яўгенавыя торбы. Адразу ж, як да паратунку, П. перайшоў да літаратурных тэмаў. Пажвавеў, на нейкі момант забыўся на тыя непрыемнасьці, што мы прычынілі сваім зьяўленьнем. Гаварыў, і быццам пераносіўся ў той час і ў тыя падзеі, пра якія апавядаў. Гэта й цікава, і добра, але на тое трэба мець адпаведны настрой і час. Як заўсёды, зь ім было цяжка разьвітацца.

Выйшаў за намі да ліфта. Занепакоены: "Толькі ж маўчыце!" Ад усяго гэтага засталося пачуцьцё прыкрасьці. Але разам з тым нейкая новая рыса. Падумалася, што гэта было неабходна.

Ад П. – да Міколы К. Праз хвілін пяць пасьля нашага прыходу зьявіўся Хадыка. Ягоная адмоўная рэакцыя на ліст была нечаканая: "Галоўнае – гэта інстанцыі. Гэта ўнутранае пытаньне, таму трэба ісьці з паклонам да Антановіча". Хадыка адразу ж пайшоў, і падалося, што сустрэчу ўспрыняў як правакацыю. Невясёлае ўражаньне засталося ад гэтай размовы.

Тут жа патэлефанавала Ірына Марачкіна і паведаміла, што Панчанка можа прыняць. Пачалі званіць, але чамусьці зноў адмоўны вынік. Гэта канчаткова зьнясіліла Яўгена. Дзённая праграма была вычарпаная. Павёз яго на К. Лібкнехта дадому. Чакаў, пакуль ён паволі, зь цяжкасьцю вылазіць з машыны. Вяртаўся з адным цяжкім пачуцьцем – зноў атрымліваецца, што ўвесь цяжар кладзецца на Яўгена. А ён быццам і сам успрымае сваю пакутніцкую ношу – ні на момант ня хоча выпусьціць з рук свае кайстры.

***11 сьнежня 1986 г.***

Яўген зьявіўся зранку. Разумее сам, што безвыніковасьць намаганьняў прыгнятае нас, і таму з парогу пачаў апраўдвацца: "Адно толькі зьяўленьне маё выклікае нуду". Але я яго супакоіў. Бо толькі што тэлефанаваў Мікола К. і паведаміў, што з Панчанкам дамоўленасьць была, але да тэлефона падыходзіла кабета, якае нічога пра гэта ня ведала, і таму ўчора, калі спрабавалі спаткацца, зноў адбылося фіяска. Яўген тут жа кінуўся тэлефанаваць Панчанку. Той паўтарыў, што хварэе, але ў пільнай патрэбе можа прыняць.

Падаліся на Пуліхава 29. Яўген хваляваўся, усё настройваўся, абдумваў будучую размову. Доўга гартаў нататнік, каб запомніць імёны, не пераблытаць іх і г. д.

Панчанка ўспрыняў ліст вельмі добра. Пачуваўся ён блага. Як сам казаў, "аніяк ня мог выкараскацца з хваробы". Але нягледзячы на свой стан, вельмі цёпла размаўляў, падарыў Яўгену сваю кніжачку. Яўген яму – вымпялок "Першая граматыка", што выпадкова і вельмі дарэчы агледзеў у сваёй торбе. Яшчэ Панчанка падарыў свой уласны ліст, які зьдзівіў падабенствам да нашага, дзе шматякія пункты вельмі выразна перагукаліся. Таму і ўспрымаў добра, бо сам толькі што думаў і рабіў гэтаксама. Але на ягоны крык – поўная цішыня. Натуральна, ён быў узрушаны, што ёсьць людзі, якія і думаюць, і дзейнічаюць. Таму зь ягонага боку ва ўсім адчувалася ўдзячнасьць за ўвагу да яго, за давер і г. д.

Настрой пасьля гэтага адразу зьмяніўся. Увечары спадзяваліся на спатканьне з Быкавым. Сядзелі ў майстэрні Яўгена і спрабавалі датэлефанавацца. Нарэшце жанчына адказала, што ён у Менску і будзе дома гадзіне а 20-й. Надвячоркам прыйшоў Аляксей. Тут Яўген дазваніўся да Быкава. Той, ня вельмі разумеючы сэнсу сустрэчы, трохі вагаўся. Мабыць таму, што трэба кагосьці прымаць, рыхтавацца, але калі ўлавіў, што трэба падняцца на некалькі паверхаў у сваім жа пад'езьдзе, адразу ж пагадзіўся: "Вось дагледжу праграму "Час" і падымуся".

Дамовіліся, што размаўляць будуць удвух – Яўген і Аляксей. Астатнія накіраваліся да мяне на Дзімітрова 3 чакаць вынікаў. Ведаючы настроі Быкава, у мяне не было аніякай надзеі на тое, што ён падпіша. Наватнейкі страх – як ён паставіцца і куды паверне. Усе папярэднія гутаркі з П., з Хадыкам уносілі поўны разлад і адпаведныя настроі. Нэрвы пачыналі здаваць і зьяўляліся агіднае адчуваньне тупіку. Таму ўбачыць подпіс Быкава на лісьце было нечаканым. Ён выказаў сваю няверу ў посьпех, але падпісаў і дадаў прапанову, каб пашырыць сьпіс зь вядучых асобаў. Натуральна, яму гэта патрэбна, каб "абкласьці" сябе.

Пасьля гэтага кроку настрой рэзка зьмяніўся. Ком, які да гэтага каціў ўгору, нарэшце апынуўся на вяршыні. Уяўлялася, што цяпер справа пойдзе лёгка.

Яўген сам імкнуўся ехаць да Зьмітра. Не зьвяртаў увагі на тое, што ўжо амаль 12 гадзін начы. Я настояў, каб ён адпачываў, а паперы перадаў мне. Зьмітра засьпеў ужо разьдзетым. Навіна яго ўзрушыла, узрадавала. Дадрукавалі тытульны аркуш, заклалі наступны аркуш (№ 6) для подпісаў.

Дадому вярнуўся а першай гадзіне. Спалася дрэнна. Увесь час у галаве круцілася ўсё, што адбывалася вакол ліста.

***12 сьнежня 1986 г.***

У палове дзявятай тэлефаную Разанаву. За другім разам трапляю на яго. А праз колькі хвілін ужо быў у ягоным выдавецкім пакойчыку. Ён яўна быў узрушаны ад навін – Панчанка, Быкаў… Ажывіўся. На маю прапанову ўзяць удзел у справе подпісаў – бо нельга, каб на ўсіх выходзілі адны і тыя ж людзі, – адмовіўся. Спаслаўся на нявыкрутку ў сямейных і творчых справах. Забраў у яго даведнік Саюзу пісьменьнікаў з тэлефоннымі нумарамі. Яўгена папярэдзіў, каб той чакаў, і да 10-й быў у яго дома.

Пачалі тэлефанаваць. Натрапілі на Дударава. На іншых выхаду не было. Ад Дударава даведаліся, што ён і шмат хто яшчэ будуць ў Доме творчасьці "Іслач". Трэба падавацца туды. Для перамоваў, для стварэньня адпаведнага настрою пры сустрэчах з рознымі асобамі патрэбны быў Аляксей. Алеён дзесьці прапаў… Выявілася, што ў яго выстаўком. Доўгазь Яўгенам шукалі па майстэрнях у доме на Сурганава гэты выстаўком. Але безвынікова.

Чакаць болей не было як. Пачалася нэрвознасьць. Вырашылі ехаць удвух зь Яўгенам.

Ды з тае прычыны, што на ніводнай бліжэйшай запраўцы не было бэнзіну, давялося на нейкі час затрымацца. Затэлефанавалі яшчэ. На гэты раз Аляксея знайшлі ў яго майстэрні ля вакзала.

У "Іслачы" праходзіў нейкі сэмінар. Чакалі прыезду Антановіча. Добра атрымалася, што наш прыезд не супаў па часе зь ягоным. Мы прыехалі раней на хвілін 5-10. Давялося асесьці ў нумары Сьвістуновіча, які быў сярод удзельнікаў сэмінару. Папрасілі Лецку прывесьці ў гэты нумар Дударава. Побач быў невялікі пакой адпачынку – хол, там і адбылася гаворка. Усе гэтым часам былі на спатканьні з Антановічам. Размова з Дударавым атрымалася нармальнай. Чалавек рашучы, моцны, – невядома, што зь яго вырасьце, але час цяпер такі, што працуе на яго. Пасьля падпісаньня даволі доўга гаварыў на агульнакультурныя тэмы. Потым пайшоў, а за імі я. Вырашылі, што мяне Антановіч ня так добра ведае, як Аляксея і Яўгена, і яны засталіся чакаць у нумары.

Доўга блукаў па пустых і змрочных пераходах гэтай вар'яцкай архітэктуры Дома творчасьці, пакуль нарэшце ня выйшаў да залы. Рашуча прайшоў і сеў на вольнае месца побач з Дударавым. Народу было няшмат. Зала невялічкая. Душна. Антановіч гаварыў па-беларуску, старанна падкрэсьліваючы правільнасьць вымаўленьня. Няма аніякага жаданьня пераказваць ці аналізаваць тое, што казаў ён. Уражаньне засталося непрыемнае… Гілевіч, які старшыняваў, сядзеў моўчкі, толькі павольна паводзіў вачыма з-пад густых пасівелых броваў. Спрэчка вялася бурная. У канцы гэтай сустрэчы Сяргей Грахоўскі паставіў кропку. Працытаваў Леніна аб нацыянальным пытаньні.

Пасьля ўсяго запрасіў Грахоўскага ў нумар. Гэтая ідэя была ня вельмі ўдалая, бо ён ня ведаў мяне і нават сумеўся, калі я запрашаў яго. Але, убачыўшы Яўгена, пажвавеў. Пераказаў сваё выступленьне ў зале. Паказалі яму ліст. Глянуў, нават чытаць ня стаў: "Усё разумею, магу падпісаць, але гэта вам можа нашкодзіць". Калі пачаў чытаць подпісы, то паступова выраз твару мяняўся. Подпісы ідуць па нарастальнай. Але і гэта не падзейнічала. "Ціснуць" на яго ня сталі, але такія павароты не паляпшаюць настрою, бо адчуваеш сябе ў ролі нейкага правакатара.

Ехалі з Ракава ўжо цёмначы. Бачнасьць дрэнная, імжыста. Але ў Менску – пагода, цёпла і суха. Праграма дня нібыта вычарпаная. Была незадаволенасьць праз тое, што зьявіўся толькі адзін подпіс. Яўген бурчэў, што гэта ўсё праз Аляксееў выстаўком…

Затэлефанавалі Вячаславу Адамчыку. Той сказаў, што прыме. Прыйшлося доўга чакаць. Цягам двух дзён амаль ня елі. Мала спалі. Таму чаканьне давалася даволі цяжка.

Адамчык сустрэў вельмі цёпла. Быў удзячны за добрую справу. Частаваў вячэрай, размовай і г. д. Пасьля гэтай сустрэчы я прапанаваў Яўгену завесьці яго дадому, але ён катэгарычна адмовіўся – толькі да Зьмітра!..

Потым, заехаўшы дадому, пад'еў трохі. Адчуў сябе лепей. Быццам і адпачываць пара, бо амаль палова ночы, але ўявіў сябе Яўгена сярод гэтай ночы, ледзь жывога, з торбай, у якой ляжыць каштоўны груз. Завёў машыну і зноў – да Зьмітра. Давялося вытрываць сутычку зь Яўгенам і ягоныя пратэсты супраць таго, што павязу яго дахаты. Мой жорсткі гумар ён, бадай, ацаніў – "Лічы, што не цябе вязу, а паперы".

Сапраўды, гэтыя падзеі апошніх дзён – цудоўнае выпрабаваньне характару. Пакуль ёсьць сумневы, блытаніна, то і настроі, паводзіны і ўсё астатняе набываюць ненармальны, хваравіты выгляд. А прайшоўшы праз такія кантакты і абставіны, бачыш усё інакш. Уражваюць пасьлядоўнасьць і характар Яўгена… Тут, у гэтыя дні выявілася, што асабістыя інтарэсы і эмоцыі адышлі на другі план. Справа набывае гістарычнае значэньне. Адбываецца нібы праверка, праяўляюцца розныя пакаленьні, асобы, іх стаўленьне, разуменьне. Гэта накшталт сацыяльнага дасьледваньня, анкетаваньня. Справа вартая таго, каб свае асабістыя справы трохі пачакалі.

***13 сьнежня 1986 г.***

На вечар дамовіліся спаткацца з Лужаніным. А ў першай палове было спатканьне з Васілём Віткам. Ён прыняў нас вельмі добра. Прыемная, даверлівая размова і нейкая ўдзячнасьць за давер яму. З задавальненьнем падпісаў ліст. Жыве ў адным пад'езьдзе з Адамчыкам. Быццам тамсама жывуць і Гілевіч, і Навуменка. Пасьля Віткі да нас далучыўся Аляксей. Ён дазваніўся Барткевічу і дамовіўся на сустрэчу а 15-й гадзіне. А пакуль яшчэ быў час, накіраваліся ў Беларускі тэатар. Знайшлі Стэфанію Станюту. Яна была якраз там і мела вольны час. Гутарка з гэтай жанчынай была вельмі прыемная. Сядзелі ў грымёрнай. Аніяк не хацелася верыць, што чалавеку ўжо за 80 гадоў. Колькі жаноцкасьці і сымпатыі ў ёй!.. Выявілася, што яе бабуля, Хілько, жыла ў Докшыцах, працавала ў папоўскім доме і малую Стэпку некалькі разоў вазілі туды. Яна сама гэтую тэму закранула. Чытала наш ліст і ўвесь час вярталася да гэтых успамінаў, шмат расказвала, згадвала даўнейшыя падзеі. Набліжалася 15-я гадзіна. Аляксей прыкметна нэрваваўся, бо Барткевіч чакаў. А Станюта была схільная да размовы і ўспамінаў. Давялося прасіць

прабачэньня. Яна праводзіла нас да службовага ўваходу, дзе мы, цёпла разьвітаўшыся, пасьпяшаліся на спатканьне з “тэнарам”.

Высадзілі Аляксея раней, каб ён пасьпеў да вызначанага месца спатканьня, а зь Яўгенам заехалі ў двор і сталі паводдаль. Неўзабаве бачым, што ідзе Барткевіч і яшчэ нехта. Тут жа і Аляксей падышоў. Яўген адразу ж спахмурнеў. Яму не падабалася, што ёсьць “трэці”. Тут жа пастанавілі, што Барткевіч не падыходзіць да нашага сьпісу – чалавек ненадзейны… Калі Аляксей дамаўляўся зь ім на сустрэчу, то папярэджваў, каб той прыходзіў адзін, бо справа сур'ёзная. Давялося мне падысьці да іх і перадаць Аляксею, што размова адмяняецца.

Доўга шукалі тэлефон Т.Бондар. Потым спрабавалі дазваніцца Асіпенку. Усё дарма. Так і даседзелі да спатканьня з Максімам Лужаніным. Роўна а 18-й былі ў яго. Адчыніла пажылая жанчына. Гаспадар спаў, але жанчына сказала, што ён нас чакае. Падняла. Вялізны, грузны, у простай хатняй кашулі ў клетку. Сустрэў добра, цёпла. Чытаў ліст уважліва, сапучы. Тут жа рабіў нейкія выпісы. Спачатку ягоная рэакцыя была незразумелай. Але ўрэшце высьветлілася, што яна станоўчая. Ён бы яшчэ нешта дадаў. Напрыклад, пра міжнародную ролю мовы і ўплыў мовы на міжнародныя стасункі. Падпісаў ліст і, цёпла разьвітваючыя, усё падкрэсьліваў: “Каб хоць ня трапіў да мясцовых уладаў!”

Пасьля Лужаніна хацелася дадаць у сьпіс кагосьці не зь пісьменьнікаў. Раздумаўшы, сышліся на тым, што найбольш падыходзіць Эдуард Агуновіч. Гэта пазбаўляе яго ад удзелу ў справе Траецкага прадмесьця. А сам ён найбольш адпавядае і можа пастаяць за сваёімя. Але чамусьці ён не адчыніў. А раніцой я да яго зноў ня змог трапіць.

***14 сьнежня 1986 г.***

Была дамоўленасьць з Д. з Акадэміі навук, што выйдзем зь ім на вядомага вучонага А. Так і зрабілі. Зьезьдзілі па Д., потым на вуліцу Кульман. Нас прынялі вельмі цёпла. Мікола чытаў ліст уголас. Гаспадар уважліва слухаў, не хаваючы свайго захапленьня. Усё хацеў, каб жонка таксама слухала: “ Ідзі паслухай, якую паперу чытаюць!”

Неўзабаве прыйшоў сын. Міколу давялося чытаць яшчэ раз. Размова была доўгай. Найбольш турбаваўся Д. Асноўнай прычынай ягонага непакою было тое, што мы дзейнічаем у абыход мясцовых уладаў. Гэта выклікала нейкі ўнутраны недавер да нашага праваднікa. Але ж і Зьміцер і Мікола добра аб ім адгукаліся.

Гаспадар кватэры таксама выказаўся: “Выходзіць, што гэта данос на гетмана зладзея цару-бацюшку ад Качубея!”. Мы нібыта лёгка пагадзіліся, што, магчыма, паралельна і Сьлюнькову можна будзе паслаць. Пры такой умове А. падпісаў. Тады Мікола зьвярнуўся і да Д., той таксама падпісаў. Калі вёз яго да хаты, то адчувалася нейкая напруга, нацягнутасьць.

Яўген пры гэтым падпісаньні не прысутнічаў і, калі дачуўся пра ўсе нюансы, вельмі быў незадаволены. Падаліся да Міколы. Пачалася непрыемная гаворка. Я адышоў. Празь нейкі час ня вытрываў і скіраваўся да Зьмітра. Як і меркаваў, усе ўжо былі там. Пасьля перамоваў – адразу ж да А. Адчыніў ён сам. Зноў той жа стол. Цёплая размова. Старыя хваляваліся. Успаміналі цяжкія гады, прысуды і г. д. Мы доўга гаварылі, даказвалі немэтазгоднасьць пасылаць у мясцовыя органы. Для А. гэта было цяжка вырашыць. Але націскаць на яго не спрабавалі – проста і адкрыта сказалі: “Самі вырашайце!”. Бачылі, што ён ня можа наважыцца. Стала зразумела, што подпіс здымаецца. Д. здымаецца аўтаматычна. Апошнюю старонку давялося перарабляць. Дзень выпаў цяжкі і недарэчны.

***15 сьнежня 1986 г.***

Трэба ўзнавіць шмат подпісаў. Уранку тэлефаную Дудараву. Той просіць ператэлефанаваць праз гадзіну. За гэтую гадзіну заехаў да Аляксея, каб зь ім разам аб'ехаць Вітку і Адамчыка. Апошняга дома не было. Да Віткі паехаў адзін. Ён прыняў мяне добра. Адразу ж падпісаў. Выказаў клопат аб надзейнай дастаўцы ліста.

З дому яшчэ раз патэлефанаваў Дудараву. Ён паабяцаў зайсьці да мяне (жыве ў суседнім доме). Давялося трохі пачакаць. Высьветлілася, што ён затрымаўся з тае прычыны, што сустракаўся з Сысам, які зьбірае подпісы пад лістом па Траецкім прадмесьці. Тым часам стала вядома, што Мікола бярэ білет да Масквы на сераду. Натуральна, што наш ліст даў для Дударава падставу не падпісваць ліст Сыса. Таму ён зноў з задавальненьнем паўтарыў подпіс (быць у кампаніі мэтраў пад нашым пасланьнем яго яўна задавальняла). Папытаўся ў яго наконт Шамякіна. Пра таго ён выказаўся ня надта станоўча. А сябе ацэньвае высока: “Сам Быкаў паставіў подпіс, дый Я таксама, – што можа быць болей?”.

Чакалі, калі Адамчык зьявіцца на працы ў “Бярозцы”. Гадзіне а 14-й ён прыйшоў. Накіраваліся з Аляксеем у ягоны кабінэт. Размова была кароткай, яснай. Я растлумачыў, што адбылася тэхнічная памылка пры друку. Подпіс тут жа быў узноўлены. Ён чалавек рашучы, жывы, крэпкі – тыповы “заходнік”. Кажа: “Дужа цягнеце, хлопцы! Глядзіце, каб не прыйшлі і не сказалі – ”Аддайце!“” Я заўважыў: “Навошта – аддайце!? Проста прыйдуць і вырвуць з рук”. Непасрэдны Аляксей тут жа пачаў гаварыць, што ўжо й білеты купленыя. Я з дакорам сыкнуў на яго. Тады і Адамчык тэатральна замахаў рукамі: “Нічога ня ведаю, ня трэба мне ведаць!” – Перавялі на жарт.

Потым доўга чакаў Яўгена, якому ў гэты дзень трэ' было да зубнога лекара. Нарэшце ён зьявіўся. Адразу тэлефаную Агуновічу. Пашчасьціла натрапіць на яго самога. Адразу адчуваецца, што яму ня вельмі хочацца гаварыць, бо думае, што ўсё тое ж пытаньне. Кажу, што справа аніяк не датычыць таго, аб чым раней гутарылі,

але пабачыцца трэба. Дамовіліся, што сустрэнемся а палове 18-й ля Дому кіно. Выявілася, што там зьбіраўся сход дачнікаў і давялося дамаўляцца, каб Агуновіч пасьля зайшоў да Яўгена ў майстэрню. Гадзіны празь дзьвеён прыйшоў і ўспрыняў свой удзел у гэтым лісьце за гонар. З радасьцю падпісаў і нават дзякаваў.

Ягоны подпіс якраз патрабаваўся, каб перакрыць прагал ад зьнятага подпісу А. і гэта даволі добра ўдалося. Такім чынам захаваўся апошні аркуш. Было ўжо даволі позна. Пасьля таго як адвёз Яўгена, падаўся да Зьмітра, каб дадрукаваць тытулы Агуновіча. А калі вярнуўся дамоў, здарыўся нечаканы канфуз. Пажартавалі: "Ну што, дабегаўся? Заўтра ў ЦК выклікаюць!" Усе гэтыя дні толькі і было размоў пра асьцярожнасьць, і раптам такое! Але выявілася, што ў сувязі з падрыхтоўкай да зьезду мастакоў бюро секцый выклікаюць на "апрацоўку". Стала і весела, і прыкра. Нашы мастакі-чыноўнікі адразу ж праявілі сабачую псіхалогію: "Приходите и паспорта с собой возьмите!"

***16 сьнежня 1986 г.***

Яўген затэлефанаваў рана, а палове 9-й, ужо гатовы да працы. Але была дамоўленасьць з Купавам, што ўранку пойдзем зь ім да Валянціны Пархоменкі. Спаткаліся зь Міколам ля крамы "Рыга" і накіраваліся на сустрэчу ў дом па суседстве з маім, дзе жыве Пархоменка. Размова адбылася добрая. Прыемная жанчына. Чытала, згаджалася і ўсё ёй хацелася што-небудзь дадаць. Непакоілася, каб ня трапіла гэта да нашых чыноўнікаў, каб "прама ў рукі".

Пасьля Пархоменкі – адразу ж да Яўгена. Патэлефанавалі Кудраўцу на працу ў "Нёман". Пад'ехалі. Ён сядзеў адзін у кабінеце… Чытаў уважліва, доўга, а калі пачаў глядзець подпісы, адразу зьмяніўся, рухі сталі хуткімі, актыўнымі. З задавальненьнем падпісаў і падзякаваў за давер. Адразу ж затэлефанавалі Брылю. Ён быў дома і сказаў, што чакае. Пасьля першай гутаркі і адмовы была нейкая няёмкасьць зноў пачынаць зь ім гаворку. Але ўбачыў подпісы і нават засумняваўся: "Ці той гэта ліст?" Прагледзеў зноў і рашуча, бязь лішніх слоў, падпісаў: "Вы ж толькі Танка ня крыўдзіце, пакажыце яму!"

Адразу ж да Зьмітра. Ён якраз быў дома ў перапынку на абед. Хутка ўдрукавалі тытулы. Адвёз Зьмітра на працу, Яўгена да рэдакцыі ЛіМу (трэба было дамовіцца, каб ліст у ЛіМ часова закансервавалі), а сам – у ЦК па пытаньнях Саюзу мастакоў. Там ужо ўсе былі ў зале. Вёў размову адзін Антановіч. Сяджу і думаю: чаму б яму самому не прыйсьці да калектыву мастакоў, замест таго каб усіх запрашаць праз міліцэйскія пасты ў гэты змрочны будынак? Пры канцы гаворкі Антановіч пераключыўся на пытаньне Траецкага прадмесьця. Падобна, што ліст Аляксея і Міколы спрацаваў. Магчыма, гэтая сустрэча і тое, як яе праводзіць, былі вынікам іхнага ліста. Антановіч прызнаў факт арганізаванай правакацыі і даволі праўдзіва абмаляваў падзеі. Што было нечакана шмат для каго з прысутных. Але ён выказаў і тое, што некаму гэта выгадна. Што, магчыма, гэта справакавана зь іншага боку. Пачалася даволі бурная дыскусія аб узроўні правядзеньня сьвятаў і мерапрыемстваў. Пры гэтым Антановіч дэманстраваў поўную сваю варожасьць.

Потым – у Дом літаратара. Там вечар, прысьвечаны 95-годзьдзю Багдановіча. Народу сабралася шмат. Месцаў не ставала, людзі стаялі. Запрашальныя білеты распаўсюджваў гаркам. Зноў усё той жа чалавек, які на Траецкім кіраваў разгонам, тут кіраваў сваімі малайцамі, якія наперад пазаймалі месцы па ўсёй зале. Улады баяліся, што сьвята можа набыць шырокае гучаньне. Баяліся, каб імя Багдановіча не спрыяла абуджэньню сьвядомасьці. І сум агортвае, і злосьць бярэ, калі бачыш усе гэтыя патугі.

Старшыняваў Максім Танк. Было некалькі выступленьняў – кароткіх і малавыразных. Урачыстая частка неўзабаве скончылася. На канцэрт не засталіся. Скіраваліся да Зьмітра. Там пераглядзелі ўсе паперы. Дадрукавалі зваротны адрас на імя Мірачыцкага. Абмеркавалі ўсе драбніцы. Справа завершаная. Засталося выдрукаваць паасобнікі-копіі і раздаць асноўным з тых, хто падпісаўся, каб людзі былі падрыхтаваныя. У першую чаргу Быкаву, Содалю, Дудараву. І з усімі правесьці асобныя размовы.

***12 студзеня 1987 г.***

Зь Яўгенам, расклалі ўсе лісты па канвэртах і падпісалі, каму які.

Раніцай дамовіўся з Дударавым. Сустрэліся ля магазіна "Кветкі", каля яго дома. Мароз, завея. Доўга размаўляць не было як. Перадаў яму пакет. У яго была размова з Антановічам. Той пытаўся наўпрост: "Падпісваў ліст, які вазіў Купава?" Дудараў пацьвердзіў. Падобна, што тут спрацоўвала тое, што былі прыкрыцьці – іншыя лісты, шырока абнародаваныя: і пра мову, і пра Траецкае. Але гэта знак, што копіі трэба як мага хутчэй раздаць, каб усе былі падрыхтаваныя, каб мелі пад рукой матэрыял.

Панёс да Барадуліна. Сустрэў яго на калідоры выдавецтва. Размаўлялі на лесьвіцы. Ён жартаваў: "Пакуль у ссылку, то пацяплее, будзе лета". Потым паведаміў, што з званка Быкава ведае, што ў таго ўжо была размова ў ЦК па гэтым пытаньні. Прыехаў Сяўрук з Масквы разьбірацца, а Антановіч у паніцы… Пасьмяяўся, маючы на ўвазе Лужаніна: "Вось ня думаў, што гэты стары стукач падпіша! – А Васіль малайчына, падпісаў!" Потым запытаўся: "На каго можна спасылацца?" Давялося пакінуць свае тэлефоны і пацьвердзіць права на пісаньне ліста першымі асобамі па сьпісе.

Пасьля гэтага спатканьня – да Яўгена. Расклалі астатнія копіі ліста. Трэба тэрмінова ўсім раздаць. Быкава не было дома. Адвезьлі да Віткі і Адамчыка. Кудравец у адпачынку і зьявіцца толькі праз тыдзень.

*13 студзеня 1987 г.*

Яўген прыйшоў раней, чым звычайна. Учора ўвечары ён трапіў да Быкава. Сапраўды, Быкаў быў у ЦК. Выклікалі. Але пра ліст канкрэтна нічога ня ведаюць. Наўпрост пытаньняў Антановіч яму не задаваў. Але інфармацыю ён мае, што камісія з Масквы (тры асобы) прыступіла ўчора да вывучэньня пытаньня інтэрнацыянальнага выхаваньня ў рэспубліцы. Антановіч яўна занепакоены. Верагодней за ўсё, пра зьмест ліста ён нічога ня ведае. Мае зьвесткі, што Купава вазіў нейкі ліст, ён перакананы, што гэта зьвязана з Траецкім прадмесьцем, і ёсьць чуткі пра нейкі ліст, што падпісалі вядучыя дзеячы. Вось ён і спрабуе выведаць, хто якія лісты падпісваў. Каб ведаў дакладна, то іначай размаўляў бы і з Дударавым, і з Быкавым. Гэтая інфармацыя трохі супакоіла і прымусіла хутчэй раздаваць рэшту копіяў ліста, бо ў кожны момант да людзей маглі ўзьнікнуць пытаньні. Усе павінны мець на руках сам прадмет для роздуму і размоў. Яўген скіраваўся да Панчанкі. Лужаніна пастанавілі наведаць у апошні момант, папярэдне сустрэўшыся з усімі іншымі. Шматад каго чуючы, што ён "стары кагэбіст" і г. д., даводзіцца неяк асабліва да яго ставіцца. Хоць, здаецца, на сёньня гэта ўжо неактуальна. Ён пакінуў прыемнае ўражаньне. Застаецца чакаць.

*14 студзеня 1987 г.*

Уранку затэлефанаваў Дудараву, яшчэ раз папярэдзіў, што Купава аніякага дачыненьня да ліста з мовай ня мае і што ня трэба сьпяшацца паказваць Антановічу зьмест. Быццам ён усё зразумеў і пацьвердзіў. Склалася ўяўленьне пра размову Дударава з Антановічам, які ўзяў яго зьнянацку, нечакана: "Ты падпісаваў ліст, які вазіў у Маскву Купава?" Той адказаў, што ня ведае, хто вазіў, але падпісваў. Натуральна, што такая размова падзейнічала на Антановіча адпаведным чынам, але гэта сьведчыць, што ён ня ведае зьместу, а робіць высновы, што гэта зьвязана з праблемамі Купавы. Уяўляю, што ўдар будзе яшчэ мацнейшы, калі стане вядома, што гэта зусім новая справа, новыя людзі, ад якіх ён не чакае такога ходу і аніяк не прадбачыць ўзьнікненьня яшчэ адной праблемы – комплекснай. Дудараў быў удзячны за званок.

Адвозіў лісты да Пархоменкі і Брыля. Пашчасьціла засьпець іх дома. Валянціна яшчэ раз пацьвердзіла, што яна чалавек сьвядомы і моцны, і калі выпадзе змаганьне, то зможа за сябе пастаяць. Ад яе – да Брыля. Размова атрымалася спакойнай. У яго ўжо была гутарка з Барадуліным. Расказаў, як калісьці ў ЦК дзесяць гадзін была гаворка і што здавалася, што ўсё будзе добра. Гэтым кіраўнікі купілі многіх: "Станавіцеся ля руля і будзеце ствараць культуру". Але аказалася, што далей за гэта справа не пайшла. Спусьцілі пару і толькі. Прыпомніў ліст Якуба Коласа. Як Колас вазіў свой ліст у Маскву, але яго там ніхто не прыняў. Ён патупаў там, прыехаў дамоў і памёр. Выказаў Брыль нязгоду зь некаторымі тэрмінамі і выразамі ў нашым лісьце, як "каланізатары", "русіфікатары ўсіх масьцей", "вялікадзяржаўная палітыка".

Але гэтую тэму ня сталі разьвіваць. Як і Барадулін, спытаўся: "На каго спасылацца?" Адказ быў пэўны: "На першых па сьпісе". Потым падлічыў пісьменьнікаў – набралася 14. Пажартаваў: "Добра, што не трынаццаць!" Брыль зьбіраецца ў санаторый "Булдуры" і таму, падобна, з "гульні" ён выпадае. Яшчэ паведаміў, што запрашалі на размовы Вярцінскага, але той у санаторыі.

Трэба тэрмінова сабрацца першым падпісантам, каб выпрацаваць агульную пазыцыю і г. д.

*15 студзеня 1987 г.*

А 18-й гадзіне сабраліся ў майстэрні на Дзімітрова 3: Мірачыцкі, Содаль, Лецка, Кулік. Абмяняліся настроямі, думкамі. Спадзяваўся на больш сур'ёзную размову, але ў прысутных быццам і праблем асаблівых няма. Найбольш гэта датычыць Содаля. Нейкія "шапказакідацельскія" настроі. Але тым ня менш карысьць была, бо склалася агульнае ўражаньне і агульны настрой. Камісія з Масквы працуе сур'ёзна. Шмат з кім былі размовы, але з тымі, хто падпісаў наш ліст, яшчэ не было. Агульны настрой нармальны. Усяму гэтаму спрыяе ЛіМ. Нечакана выступіла Люба Тарасюк – вельмі рашуча, канкрэтна, востра. А Пімен Панчанка з сваімі вершамі – проста цуд!..

Забег Аляксей Марачкін. Расказаў, як склікалі работнікаў міністэрства асьветы. Маскоўская камісія запатрабавала ад іх лічбы школ, падручнікаў. І, мяркуючы па зьвестках, справа закручваецца сур'ёзна і не на карысьць "мясцовай шэрасьці".

*18 студзеня 1987 г.*

У творчых саюзах адбыліся сходы з актывамі, дзе прадстаўнікі маскоўскай камісіі правялі размовы па нацыянальным пытаньні. Але ўсюды склад удзельнікаў сустрэч камплектаваў Антановіч праз сваіх давераных у саюзах (у мастакоў – Гардзіенка). На гэтыя сустрэчы нідзе ня трапілі людзі, якія хоць трохі валодалі б пытаньнем. Таму аўдыторыя была яўна не падрыхтаваная да такой гаворкі. І калі пачаліся выступленьні запрошаных, то гэтыя людзі анічога не маглі акрэсьліць, акрамя сваіх вузкамеркантыльных праблемак.

Увечары тэлефанаваў Шчамялёў і зьдзіўляўся, што на такую сур'ёзную размову выклікалі людзей выпадковых, якія ня ведаюць пытаньня. Выснова такая, што ў масквічоў была фармальная патрэба правесьці гутаркі ў саюзах.

*20 студзеня 1987 г.*

Першым затэлефанаваў Лецка: выклікаюць заўтра. Потым Пархоменка – на $14^{00}$. Нарэшце з Саюзу мастакоў абазваўся Ягур (афіцыйны кагэбіст) – мяне запрашаюць на $9^{00}$ праз галоўны ўваход ЦК у пакой 414. Ад-

разу тэлефаную Содалю, пытаюся, ці выклікалі? Ён жартуе: "Не выклікалі, а запрашалі. На $9^{00}$". Не пасьпеў пакласьці трубку, як зноў званок Ягура: "Прабачце, памылка – запрашаюць на $10^{00}$".

Было падобна, што запрашаюць па сьпісе: Содаль – першы, на $9^{00}$, я – трэці, на $10^{00}$, Лецка – за мною, на $10^{30}$. Але гэта было першым уражаньнем, якое развалілася ў далейшым.

Адчуваньне было няпэўным. Цяжка ўявіць, як будуць разгортвацца падзеі. Зноў тэлефануе Пархоменка. Жанчына яўна ўзрушаная, хвалюецца. Хваляваньне агульнае, бо калі пазванілі ў іх камітэт (радыё- і тэлевяшчаньня), каб тэрмінова знайшлі таго і таго ды забясьпечылі іх яўку ў ЦК, то там пачаліся розныя размовы і стварыўся адпаведны настрой, які перадаўся і самым "віноўцам". Што я мог адказаць усхваляванай артыстцы? Толькі аптымістычным жартам: "Пытаецеся, што рабіць? – Прыняць халодны душ, навастрыць зубкі, каб сьмяяўся раток ды кусаўся зубок!" Але ўсё ж дамовіліся спаткацца ўвечары а сёмай гадзіне ў Доме мастацтваў, на вечарыне Далідовіч. Адразу ж узьнік непакой за Станюту.

Накіраваўся да Яўгена. Той сядзеў, нічым не заклапочаны, у сваёй майстэрні. Калі паведаміў яму пра падзеі, то ён зьмяніўся ў твары, яўна захваляваўся: "Ці выклікалі? Ці змаглі знайсьці? Як быць зь лістамі, што яшчэ не перададзеныя – Лужаніну, Станюце, Кудраўцу? Але Кудравец і Лужанін у санаторыях. Дамовіліся з Разанавым, што заеду да яго.

На пачатку вечарыны ўдала пагаварыў з Пархоменкай. Супакоіў. Прасіў перадаць ліст Станюце, калі зможа даведацца, дзе тая і г. д. Наколькі было магчыма на той момант, абмеркавалі адказы на пытаньні (потым выявілася, што гэта было карысна).

Алесь Р. нічога ня ведаў. Яго на гэты дзень не запрашалі. Гэта трохі зьдзіўляла, бо ў сьпісе ён стаяў сярод першых. Гэты дзень, 20 студзеня, закончыўся з пытаньнямі: як усё можа быць і ў якім кірунку? Трэ' было адпачыць. Выпіў некалькі кропляў супакаяльнага і неўзабаве заснуў.

***21 студзеня 1987 г.***

Прачнуўся пад радыё а 6-й гадзіне і зьдзівіўся, што так добра выспаўся. А палове 8-й пазваніў Яўген і дамовіліся на $8^{30}$ спаткацца ў майстэрні. З Содалем у нас дамоўленасьць сустрэцца ля ЦК а $9^{00}$. Сьпяшаліся. Яўген нэрваваўся. Спазьніліся – Содаля ўжо не было. Але Яўген упарта працягваў блукаць ля будынку ЦК паміж двума помнікамі (Ленін-Маркс). Чакаючы яго, я бадзяўся па скверы. Але бачу, што Яўген аніяк ня можа адарвацца ад гэтых помнікаў. А дамаўляліся, што ён пойдзе і высьветліць наконт свайго выкліку. Давялося нагадаць яму, а ён, быццам упершыню пачуўшы, перапытаў: "А хіба так можна?" І падаўся да дзьвярэй. Потым я не заўважыў, як ён перабег да іншага пад'езду і там затрымаўся. У мяне заставалася яшчэ шмат часу, а празь Яўгенава хваляваньне давялося даволі доўга туляцца па холадзе. Нечакана ўбачыў Рашчынскага. Узрадаваўся. Прывіталіся. Выявілася, што нам на адзін і той жа час і ў адзін і той жа кабінэт. А перад тым хваляваліся, што зь імі няма ніякіх зносін. Стала трохі весялей. Унутраная ўпэўненасьць і спакой былі. Але была і няпэўнасьць: у які бок і як будуць паварочвацца падзеі?

Як ні марудзілі, але зайшлі раней на хвілін 15. Было недарэчна, што амаль гадзіну перад тым давялося стыць на вуліцы. Не сьпяшаліся распранацца. Доўга прычэсваліся і павольна падымаліся па чырвоных дыванах на чацьверты паверх. Заставалася яшчэ хвілін 10. Знайшлі кабінэт 414, але падалося, што там яшчэ нікога няма. Некалькі хвілін затрымаліся ля вакна, каб прабавіць час. Стараўся разьмяць, сагрэць халодныя, застылыя рукі. Выразна ўяўляўся пачатак размовы і вельмі не хацелася, каб рука пры гэтым была ледзяная. Рашчынскі ўспрыняў гэтае расьціраньне рук за маё хваляваньне і стараўся падбадзёрыць мяне. А я пазіраў на яго – хацеў улавіць ягоны стан, які, падобна, быў узрушаны. На жаль, аблічча яго было вельмі панурае (такі ўжо тыпаж у чалавека), і, ведаючы свой ня лепшы, хваравіты выгляд ды яшчэ "замарожаны", нават пашкадаваў, што лёс зьвёў нас разам у гэты момант. І гэта, мабыць, так і выглядала, бо калі нас сустрэў малады чалавек з трафарэтным выглядам выканаўцы ды ахоўніка і паведаміў, што яму даручана нас сустрэць і праводзіць, то весела заўважыў, што ў нас занадта змрочны выгляд.

Тыя, хто павінны быў весьці з намі размову, толькі што ўвайшлі ў кабінэт, яшчэ не былі на месцах. Пачалі знаёміцца. Вясёлы тон. Вонкавая ветлівасьць. Зноў тая самая заўвага наконт нашага пахмурнага выгляду.

Першым назваўся чалавек гадоў 50-ці ў акулярах, стрыжаны "пад вожыка". Далей высокі, больш хударлявы. Потым гаспадар кабінэту – Русецкі. Той, што ў акулярах, пацікавіўся: "Ну, а с этим товарищем вы знакомы?" На што Русецкі пасьля некаторай замінкі адказаў, што не, і пасьля гэтага паціснулі рукі.

– Ну, а вы друг друга наверное знаете? – зьвярнуўся да нас, быццам між іншага, у акулярах.

На што адказалі: "Ну зразумела! А як жа?!"

– Как будем садиться? Вот это будет наш круглый стол.

Давялося жартаваць: "Які ж круглы, калі ён такі доўгі?"

Пачалася нейкая валтузьня пры рассаджваньні.

– Давайте глаза в глаза! – гаварыў у акулярах, а сам усеўся за стол пад вакно. Мільганула думка-жарт: "Вочы ў вочы, каб адлюстроўвацца і бачыць сябе ў вашых акулярах?"

Я адчуў, што ён наўмысна сеў гэтак, каб сьвятло з вокнаў траплялa проста ў нашыя твары. У гэтым было нешта непрыемнае.

Рашчынскі ўсеўся насупраць яго. А я, карыстаючыся тым, што была дадзеная воля ў выбары месца, падаў-

ся далей і сеў ня побач зь ім, а праз адно крэсла, якраз насупраць невялікага міжваконьня і насупраць больш сталага высокага, які вонкава нагадаў мне мастака Булатава (наезны мастак, які спрабаваў прыжыцца ў нас, а потым зноў зьехаў у Сібір). Яшчэ далей разьмясьціўся гаспадар кабінэту – чарнявы, даволі малады чалавек.

Пачалася афіцыйная размова. Зноў прадстаўленьне ўсіх удзельнікаў. Першы – Муратаў (калі не памыляюся, Юрый Іванавіч, з Масквы). Прадставіўся, як чалавек, які займаецца ў ЦК пытаньнямі мовы і ўзаемадачыненьнямі моваў і г. д. Далей, насупраць мяне, Дзямчук – наш, тутэйшы, былы прарэктар унівэрсытэта, займаецца пытаньнямі навукі. Прамільгнула фраза, што “мы вот с ним и за границей много где работали”. Але як Муратаў прадстаўляў Дземчука, то дапусьціў недакладнасьць, і таму давялося яго папраўляць. Гэты момант засьведчыў, што іх знаёмства не такое й блізкае. Далей – гаспадар кабінэту Русецкі. Перад кожным зь іх ляжала паперка, такая, як і ў міліцыянта пры ўваходзе ў будынак ЦК.

Размову ўвесь час вёў Муратаў. Пачаў з аналізу падзеі. Сказаў, што наш ліст трапіў туды, куды трэба, і доказ таго – іх камісія і такая пільная яе праца. Гаварыў пра тое, што і як яны робяць, правяраюць. Потым зьвярнуўся да нашага ліста. Даў кароткі аналіз яго зьместу. Падзяліў праблему на тры часткі. 1 – “засилие русского”, 2 – увядзеньне беларусізацыі, 3 – гэты пункт быў сфармуляваны кепска, і таму застаўся неакрэсьленым.

Хаця размова пачалася быццам адкрыта, адчувалася нейкая напруга і зь іх боку. Праца па знаёмстве з падпісантамі толькі пачыналася. Маё прозьвішча стаяла бліжэй да пачатку, таму: “Ну, Виктор Петрович, начинайте”.

Пакуль Муратаў гаварыў, я, хоць і хваляваўся, патроху наладзіўся на першыя крокі ў гаворцы. Мусіў пачынаць, і ў той жа час невядома, у які бок павернецца размова. Таму выкарыстаў ягонае выступленьне і пачаў з пытаньня: “Вось вы гаварылі, што адбыліся сустрэчы ў творчых саюзах. А хто з вас быў на сустрэчы ў Саюзе мастакоў?” Усе адказалі, што ніхто зь іх не прысутнічаў.

Працягваю:“Як можна выявіць аб'ектыўны стан справаў, калі сустрэча была тэндэнцыйна арганізаваная? Фармальна быццам правільна, прадстаўлены ўсе секцыі, але адначасна на гэтай сустрэчы нават старшыні некаторых секцый не прысутнічалі, некаторыя сакратары”. Тут устаўляе Муратаў:“Ну как же! Горденко был”. Адказваю: “Затое не было іншых сакратароў. Напрыклад, сакратара па прапагандзе Анікейчыка, праформга і г. д. Падобна, што спэцыяльна сабралі людзей, якія не валодаюць пытаньнем, і таму аб'ектыўнага ўражаньня скласьціся там не магло.”

Такі шлях у размове з самага пачатку, відаць, быў ня надта зручны для Муратава. Напэўна, ён сапраўды не валодаў гэтым пытаньнем і таму ня стаў у яго паглыбляцца. Сказаў, што гэта не яго кампэтэнцыя і што гэтым займаецца Дзьяканаў, а яго цікавіць толькі моўнае пытаньне. Але тым ня менш усе нешта пазначылі на сваіх лісткох. Я ж у дадатак выказаў зьдзіўленьне тым, што пытаньне вывучаецца вузка і з гэтай прычыны тым больш нельга выявіць аб'ектыўны стан.

За сталом узьнікла напятая паўза. Размову неяк трэ’ было весьці далей і бліжэй да прадмета. Таму давялося чапляцца за іншы момант, што ўдалося вылучыць ва ўступным слове Муратава, калі той рабіў высновы з нашага ліста. Патрэбна было больш адчуць, у які бок будзе схіляцца размова, каб зарыентавацца. Зьвяртаюся да Муратава: “Вось вы ў аналізе нашага ліста адзначылі паняцьце “давление, засилие русского”. Хацелася б, каб вы больш дакладна растлумачылі, што маеце на ўвазе, гаворачы гэта адносна нашага ліста”.

Я адчуў, што ў гэтым месцы найперш трэба трымаць абарону і ёсьць магчымасьць абараняцца, бо ліст складзены так, што няма ў ім моманту, які б нейкім чынам прадэманстраваў пагарду да расейскага.

Такі ход падобна не спадабаўся Муратаву. Магчыма, ён сам зразумеў, што правакацыйны шлях у гутарцы ня дасьць выніку, таму давялося неяк канкрэтызаваць, задаваць пытаньні больш канкрэтна.

– Вот некоторые говорят, что подписали письмо в определенном эмоциональном состоянии, поэтому, анализируя потом, со многими пунктами программы не соглашались, а с некоторыми соглашались, – гаворка наша набывала хоць нейкі канкрэтны выгляд.

Разумеючы, што афіцыйныя сустрэчы з падпісантамі толькі пачынаюцца, я зьдзівіўся:“А вы што, ужо мелі такія размовы?” Зноў нейкая няёмкасьць, бо сапраўды, усе ведаюць, што размовы толькі пачынаюцца. Давялося Муратаву адказваць: “Нам звонят, вот вчера уже вечером в 11 звонили. Двое сами прибежали. Вот Адамчик уже был.“ Потым я зразумеў, што перад тым, як пачаць працу з намі а $10^{00}$, ён пасьпеў на спатканьне з Адамчыкам і Кудраўцом, якія былі а $9^{00}$ у іншым пад’езьдзе. Муратаў схіляў да аналізу нашага ліста па пунктах, да ацэнкі прапановаў, але атрымаў лякамічны адказ: “Подпіс мой стаіць, і гэта азначае, што з кожным пунктам гэтага ліста я цалкам згодны”. Адчулася нейкая зьбянтэжанасьць. “Пытаньні ёсьць?” – папытаўся Муратаў. “Пытаньняў няма!”

– Ну что ж, вам слово, Александр Владимирович! – зьвярнуўся ён да Рашчынскага.

Я зрэдку пазіраў на Алеся і бачыў, што ён напружаны, але цяжка было зразумець ягоны стан. Цяпер усе ўтаропіліся ў яго.

– Я пачну зь Леніна, – прыводзіць цытату пра мову і адразу ж пераходзіць на пытаньні музыкі. “Прыцягваньне” Леніна здалося нейкім наіўным і простым ходам, але нашы апаненты ня выявілі на тварах аніякіх эмоцый. Калі Рашчынскі сеў на свайго музычнага “канька”, адчулася палёгка. Напэўна, таму, што на сёньняшні дзень гэтая тэма найбольш актуальная, яго ня

сталі перапыняць. Ён гаварыў пра ўсім знаёмыя рэчы. А калі заявіў, што беларуская народная музыка дрэнна прапагандуецца, Русецкі ня вытрымаў: "Примеры, пожалуйста!" Рашчынскі пажвавеў. Прадэманстраваў валоданьне прадметам, бо назваў, колькі кружэлак беларускай народнай музыкі выйшла за апошні час (усяго тры), тым часам як амэрыканскай ды іншай – шырокая плынь. Крыць не было чым. Але з гэтага моманту размова набыла больш-менш спакойны характар. Напружаньне спала. Пачаліся развагі, думкі ўголас, і больш выказваліся прадстаўнікі камісіі. Гаворка зноў паступова вярнулася да мовы, і ў ёй ужо ўдзельнічалі ўсе.

Стала зразумела, што найбольш іх турбуе "Приложение" да ліста. Гэта – праграма. Зноў і зноў Муратаў схіляў да размовы вакол гэтага дадатку. Аніяк не ўкладалася ў іх разуменьні, як жа так адразу ды ўсё па-беларуску. Сам жа ён вывеў азначэньне – "максымалізм праграмы". На што я заўважыў: "А дзе вы бачыце ў нашым лісьце тэрмін выкананьня? Усё гэта не азначае, што ўзялі і адразу аб'явілі поўны пераварот. Гэта прапановы, і ў кожным разе разглядаць іх трэба адпаведна з магчымасьцямі ў часе. Потым, чаму "максымалізм"? Усе гэтыя прапановы ў той ці іншай форме абнародаваныя і ўзятыя намі з друку".

Далей уключыўся Дзямчук. Нешта гаварыў пра спэцыфіку нашай рэспублікі. Маўляў складана, бо блізкасьць з расейцамі і г. д.

Адказваю, што разумею спэцыфіку Беларусі інакш, бо ў Беларусі заўсёды ўжываліся розныя нацыянальнасьці: палякі, расейцы, габрэі, татары і г. д. Вось дзеці гуляюць з маленства разам, сябруюць, і ні ў кога не ўзьнікае пытаньне мовы, бо адначасна з маленства чуюць вакол сябе некалькі моваў і разумеюць іх. Не паўстае моўнага пытаньня! Зноў зварот да тых, што сядзяць насупраць: "Вось мне незразумела, адкуль пайшло паняцьце, што адна мова можа перашкаджаць у вывучэньні другой? Вазьміце малыя краіны Эўропы з шчыльным і шматлікім насельніцтвам, дзе ведаць адразу некалькі моваў – жыцьцёвая неабходнасьць. А ў нас? Лічу, што южны культурны чалавек здольны хаця б пасіўна валодаць некалькімі мовамі бліжэйшых суседніх народаў."

Муратаў потым апавядаў пра свае высновы аб якасьці мовы і пра іншае ўжываньне нацыянальнага: "Вот думал, почему так ругают академию, но не за бездеятельность. Работа проводится большая. И то, что делается и сделано, может быть примером для многих. Вопрос в качестве". Тут давялося падхапіць ягоную думку і ўставіць пра тое, што сапраўды беларускія тэлевізійныя перадачы невысокай якасьці. Нізкім узроўнем веданьня мовы, нізкім узроўнем разуменьня этнаграфіі яны кампраметуюць і мову, і культуру.

Пасыпаліся прыклады з абодвух бакоў.

Зноў зьвярнуўся да якасьці аналізу: "Як можна атрымаць праўдзівую, аб'ектыўную думку народу, калі пакаленьні выхоўваліся ў скрыўленым сьвятле? Вось вы казалі пра гутарку зь вяскоўцам пра мову і г. д. Але тую вёску, дзе ён жыве, неяк называюць і назоў гэты выпрацоўваўся вякамі. І раптам, у нейкі момант гэтае найменьне механічна пераклалі на расейскую мову і атрымалася нешта незразумелае і не адпаведнае звыкламу ўяўленьню. Вось павесілі гэтую непісьменную шыльду – што, хіба гэта не ўплывае на сьвядомасьць вяскоўца, на яго культуру?"

Муратаў пачаў разважаць пра дзьве хвалі супраць беларускага. Першая – пасьля вайны. Другая зьвязана з усесаюзнымі новабудоўлямі. Ня змог стрымацца, каб не завастрыць пытаньне: "У другім выпадку ўсё гэта стымулявалася дзяржаўнай палітыкай і лозунгамі аб стварэньні новай нацыі – "савецкага народу". Былі нават прапановы адмовіцца ад графы нацыянальнасьці ў пашпарце". Але гэта палітычная тэма не знайшла працягу з другога боку стала.

Дзямчук спрабаваў правесьці думку, што рускія самі бедныя, што яны ня здольныя нас заціснуць. За ўсю размову склалася ўражаньне, што Дзямчук толькі тым і займаўся, што спрабаваў угаварыць нас, што расейцы самыя няшчасныя і бедныя. Але ніхто яму не пярэчыў, толькі ветліва пагаджаліся, ківаючы галовамі. Муратаў два разы паўтараў назоў часопісу "Здравохранение Белоруссии", і гаварылі, ці мэтазгодна пераводзіць яго на беларускую мову: "Вот вопросы литературы – это другое дело! Здесь нужно поднимать проблему". Аніякай рэакцыі з нашага боку не было. Відаць, ён правяраў нашу кампэтэнтнасьць. Можа, і варта было ўступіць у дыскусію. Сказаць, што, магчыма, сёньня і рана пераводзіць, але як культура ўздымецца даволі моцна, то чаму трэба пазбаўляць людзей мець свае часопісы на роднай мове? Але напруга ў размове была даволі моцная і таму падобныя спробы ўцягнуць у больш тонкія пытаньні былі б аднабокімі. Асноўная тэма была вычарпаная і нейкі час вялася агульная гаворка.

Муратаў падаўся чалавекам прывабным, жвавым. Адчувалася ягоная зацікаўленасьць паглыбіцца ў праблему. Некалькі разоў ён паўтараў, што спэцыфіка праблемы яго вельмі захапіла, бо нідзе яна гэтак тонка не стаіць, што яе ўскладняе моўная блізкасьць і г. д. А папросту кажучы, ёю ніколі не займаліся, – вось і вырасла праблема. Часта канстатавалася, што ёсьць пытаньне. Вось толькі як да яго падабрацца, як разьвязаць?

Нашы беларусы ў камісіі не прадэманстравалі пранікненьня ў тэму. Адчувалася, што гэтыя людзі далёкія ад разуменьня ўзьнятых пытаньняў. Хаця Дзямчук успрымаўся прыемна. Чалавек яўна культурны, неагрэсіўны.

Што да гаспадара кабінэту Русецкага, то гэта чалавек нязначны, як і ўся мясцовая партыйная мафія. Дзеля сваёй некампэтэнтнасьці актыўна ў размове ня ўдзельнічаў, а толькі ў зручных момантах імкнуўся пра-

дэманстраваць сваю прыналежнасьць да беларускага. Стараўся гаварыць па-беларуску. Былі зь ягонага боку і спробы падкрэсьліць, што ў некаторых выпадках яны ўжо многа зрабілі і г. д. Але ў дыскусіі ён ня меў значнага ўплыву.

Нарэшце Муратаў пачаў падводзіць вынікі: размова была цікавай і карыснай, усё, што напісана ў лісьце, мае места. У нейкай форме прагучала падзяка за ініцыятыву. Камісія аніякіх высноваў рабіць ня можа. Таму пэўных адказаў ня дасьць. Але запэўніў, што ўсе матэрыялы будуць перададзеныя Гарбачову.

Усе ўсталі. Выйшлі з-за стала, разьвіталіся. Расчулены Рашчынскі сказаў: “Трэба, таварышы, больш нам давяраць!”Чым выклікаў поўнае захапленьне ў прысутных.

Пры разьвітаньні Русецкі нешта ўспамінаў пра Віцебшчыну, дэманструючы мне тым самым, што “дасье” добра ведае. Калі выходзілі, заўважылі, што той чалавек, які нас сустракаў, выглядае зь дзьвярэй насупраць і з кімсьці там размаўляе. Мільганулі твары Каханоўскага і Арочкі. Яны там ужо доўга чакалі свае чаргі, бо нашая гутарка надта зацягнулася.

На вуліцы чакаў Содаль. Рашчынскі пабег па сваіх справах, а мы скіраваліся да маёй майстэрні. Прыйшоў Яўген. Пачалася ўсхваляваная размова. Выявілася, што камісія працуе па групах. Адзін з Масквы, адзін зь мясцовага ЦК, і яшчэ трэці для ”поўнага парадку“. Прыём адбываецца ў кабінэтах з рознымі пад'ездамі ў будынку ЦК.

Увечары зноў сабраліся ў маёй майстэрні. Пасьля нядоўгай размовы высьветлілася, што Сьвістуновіч, Лецка і Содаль гутарылі з той групай камісіі, дзе быў Паўлаў. У іх ад размовы засталося нармальнае ўражаньне. А ў Яўгена, які быў разам з Дударавым, – дыямэтральна супрацьлеглае. Там прысутнічалі Пячэньнікаў, Антановіч, Дзьяканаў з Масквы і яшчэ нехта. Гаворку вялі зь яўным ціскам на Яўгена. Пастаянна спрабавалі справакаваць яго на грубы тон і пабочныя размовы. Наш сябар быў яўна незадаволены гэтай сустрэчай і меў дрэнны выгляд.

Спрабаваў дазваніцца да Шчамялёва, але ягоны тэлефон не адказваў.

Было вядома, што на $9^{00}$ былі ў Антановіча Адамчык і Кудравец. Пазьней, калі заходзілі Яўген і Дудараў, адтуль выйшаў Панчанка.

Таго ж дня ў Паўлава быў Агуновіч. Дамовіліся зь ім, што сустрэнемся а 10-й гадзіне ў ягонай майстэрні. Але ў прызначаны час сьвятла чамусьці не было. (Як потым высьветлілася, ён мяне ўсё ж чакаў.)

***22 студзеня 1987 г.***

Гэтым разам ня спалася. Зьявілася думка, што Яўгену неабходна дамагацца спатканьня зь іншымі членамі камісіі. Дачакаўся “прыстойнага” часу, недзе пад 9 гадзін раніцы, і затэлефанаваў да Разанава. Алесь адказаў, што яго выклікаюць на $11^{00}$. Дамовіліся, што адразу еду да яго. Папярэдзіў Яўгена, каб той чакаў у майстэрні, а па дарозе да Разанава разважаў пра тое, што рабіць з Лужаніным, бо прызначаная для яго копія ліста ўсё яшчэ знаходзілася ў мяне. Не было часу раіцца. Мусіў прымаць самастойнае рашэньне. Адразу ж дазваніваюся да яго. Гавару: “Мяне запрашалі. А Вас?” Адказвае: “Я хварэю!” Гэта азначае, што ён пакуль будзе дома. Прасіў перадаць яму дакумент у першай палове дня.

Старога было цяжка пазнаць. Цяпер ужо гэта быў ня той мажны сівы “генэрал”, я ўбачыў яго нейкім ссохлым, худым, малым і разгубленым. Запытаўся пра здароўе. Ён адказаў, што чакае доктара. Лужаніна выклікалі з Дому творчасьці. Прыехаў, але ісьці ў ЦК баіцца. Можа, і сапраўды занядужаў, калі даведаўся пра падзеі. Як мог, супакоіў яго. Коратка расказаў пра тое, што ва ўсіх, хто хадзіў на сустрэчу, засталося добрае ўражаньне. Аднак ліст трэба дакладна ведаць, каб ніхто ня мог прыплесьці лішняга, таго, чаго няма. Падобна, што ён трохі адыжыў.

Алесь Р. быў яўна ўсхваляваны. Гэта было бачна па твары і па ўсім ягоным выглядзе. Сьцісла выклаў яму інфармацыю пра тыя пытаньні і зьмест папярэдніх размоваў. Гэта было дарэчы і своечасова і трохі яго падрыхтавала.

Зь нейкім сумневам паказаў ён мне тыя лісты, што падпісвалі ў 1968 годзе студэнты ўнівэрсытэту і якія выклікалі шмат хваляваньня ды паўплывалі на падзеі і сьвядомасьць гэтулькіх гадоў. Ён меў намер узяць на ўсялякі выпадак гэтыя паперы з сабою. Падтрымаў Алеся, сказаў, каб не сумняваўся, браў. Зьдзівіў зьмест гэтых лістоў – толькі адзін радок: “Студэнты ...-га курса просяць выкладаць прадметы на роднай мове“ – і ўсё. І подпісы. А колькі гаворкі і падзеяў вакол гэтага радка! Яшчэ ўразіла тое, што па меры ўзрастаньня курсаў подпісаў станавілася ўсё меней і меней. Ліст першага курсу быў падпісаны, бадай, усімі – подпісаў вельмі шмат. На другім – трохі меней, а ўжо на апошнім – толькі невялікі гурток.

Дамовіліся, што будзем зь Яўгенам чакаць Алеся ў маёй майстэрні.

Пазванілі да Пархоменкі. Яна была ў Паўлава. Калі там у яе папыталіся пра тых, хто даваў ёй на подпіс, то пацьвердзіла, што поўнасьцю падзяляе думкі ліста, а тое, як гэта рабілася, ня мае значэньня. Так што папярэднія спатканьні былі карысныя.

Станюта дзесьці на здымках, таму зь ёю гутаркі ня будзе.

Агуновіч ад сваёй размовы застаўся задаволены. Ён быў у Паўлава і змог выказаць усё, што хацеў.

Разанаў прыйшоў узрушаны. Быў у Паўлава, там прысутнічаў Антановіч, але паводзіў сябе параўнаўча спакойна. Разам з Алесем былі яшчэ трое, сярод іх – Каржанеўская (напэўна, з падпісантаў іншых лістоў.) Усім далі выказацца, аніякага ціску не было.

Імкнуліся пераканаць Яўгена не шукаць новага спатканьня з цэкоўскай камісіяй. Яму ўсё здавалася, што ён павінен больш поўна выказацца, – быў вельмі незадаволены размовай.

*23 студзеня 1987 г.*

Раніцай стэлефанаваўся з Дударавым. Нейкі час хадзілі па дварох, гутарылі. Ад сустрэчы ў ЦК у яго засталося вельмі кепскае ўражаньне. Ён зразумеў, што Антановіч вёў непрыстойную псіхалягічную гульню. Пацьвердзіў словы Яўгена пра націск і пра тое, што яго пакінулі на некалькі хвілін пасьля Яўгена (тыповы прыём!), хоць там ніякай сур'ёзнай гаворкі не было – простая балбатня. Магчыма, што Дудараў усё ў дэталях і не сказаў.

Пасьля гэтай размовы трохі супакоіў Яўгена – нічога кепскага не было, а Дудараў усё правільна разумее.

Зноў увечары сустрэча ў майстэрні. Кулік, Лецка, яшчэ хлопцы… Яўген увесь час вяртаўся да таго, што яму трэба яшчэ спаткацца з камісіяй, каб выказацца.

У Міравыцкага ад размовы засталося добрае ўражаньне. Былі яны там учатырох – усе навукоўцы.

Пазваніў Шчамялёву. Дамовіліся, што прыеду да яго. У яго быў добры, баявы настрой, і ўсе лічылі, што гутарка зь ім адбылася. Але выявілася, што ён не пайшоў на сустрэчу, – сказаў, што хворы. Тое, што забаяўся, – бясспрэчна. Пытаньне для яго далёкае, таму й зьбег. Праз Агуновіча спрабавалі ўгаварыць Шчамялёва на спатканьне з камісіяй пры ўмове, што ня будзе прысутнічаць Антановіч. Стала вядома, што Антановіч вельмі пакрыўдзіўся на Шчамялёва за тое, што не зьявіўся на гутарку.

Магчыма, што гэта ня горшы варыянт разьвіцьця падзеяў, бо Антановіч разьлічваў на тое, што змажа выціснуць з Шчамялёва патрэбную для сябе інфармацыю. Але адмова таго ад сустрэчы яшчэ больш распаліла ягоны гнеў. Склалася пэўнае ўражаньне, што Антановіч вядзе сваю гульню. Гэта праявілася ў падборы і разьмеркаваньні па групах людзей для перамоваў. Зразумела, што ён ня мог выпусьціць Яўгена з-пад свае ўвагі.

Бясспрэчна, што адбыўся самы вялікі пралік Антановіча. Ён быў упэўнены, што Купава абавязкова будзе зьвязаны з гэтым лістом. Добра ведаў, і ўсе ягоныя інфарматары даносілі, што рыхтуецца ліст па Траецкім прадмесьці, што, магчыма, гэтая тэма абрасьце нейкімі пабочнымі фактамі. Але гэта яго не палохала, бо ён добра ведаў стыль Купавы і быў перакананы, што абавязкова знойдзе нешта ў лістох, за што можна зачапіцца. Наперад рыхтаваў кампрамат, ствараў грамадзкую думку. Ён чакаў ліста, чакаў падрыхтаваны, каб адразу ж запэцкаць усю справу. Яго перакананасьць яшчэ больш узмацнілася ў размове з Дударавым. Калі папаўзьлі чуткі пра нейкі ліст, што падпісвалі дзеячы, то ён гэта правяраў. У тэатры, пры нейкім зручным моманце, ён наляцеў на Дударава з простым "прафэсійным" пытаньнем "Ты падпісваў ліст, які вазіў Купава?" Той сказаў, што падпісваў, бо там шмат подпісаў "вялікіх". Адным словам, пацьвердзіў. А Антановічу гэта толькі й трэ' было. Ён быў перакананы, што Купава там ёсьць. Але атрымалася неспадзяванка. Выявілася, што праблема значна шырэйшая і зусім зь іншага боку, адкуль ён мала чакаў. Вось і цяпер разгубленасьць, калі рэвізоры з Масквы зь нечаканымі праблемамі і без Купавы ў сьпісах. Заставалася толькі хапацца за Яўгена Куліка, якога Антановіч раней ня вельмі сур'ёзна ўспрымаў. Таму і кампрамат давялося наладжваць па ходу справы. Для гэтага яму спатрэбіліся людзі, якія маглі б пацьвердзіць, што Яўген прыносіў ім лісты на подпіс, і якія маглі б усумніцца хоць у нейкіх пунктах ліста. Маўляў, "пад адным падпісаўся, хаця з многім ня згодны".

Патрэбны быў і Шчамялёў, бо зь яго Антановіч меўся выціснуць нейкія канкрэтныя доказы супраць Яўгена. Спадзявацца на тых, хто быў набліжаны да Яўгена, не даводзілася, бо "закладаць" яго ні ў якай форме ня стануць. Таму і стараўся галоўных "завадатараў" прапускаць праз тую групу, дзе знаходзіўся сам. Астатнія ўяўляліся яму менш сур'ёзнымі супернікамі.

А 17-й гадзіне ў Доме літаратара пачалася вечарына з Васілём Быкавым. Народу даволі шмат, але апошнія рады вольныя. Расказваў пра падарожжа ў Францыю. Сам зьмест выступу малацікавы. Але былі й пытаньні. Тут ён прадэманстраваў поўную падтрымку ліста. Адно, што выклікала незадавальненьне: ён разы два паўтарыў, што, магчыма, ня ўсе інстытуты трэба пераводзіць на беларускую мову. Адразу ж захацелася ўступіць у спрэчку. Навошта людзям уводзіць у вушы, што ня трэба матэматыкам родная мова. Але сустрэча неяк афіцыйна завяршылася, і таму спрэчак не адбылося. Да таго ж было пачуцьцё, што ня трэба публічна дэманстраваць нутраной супярэчнасьці.

Пасьля вечарыны ў Доме літаратара Лецка паведаміў нам, што ў камісіі была сустрэча зь Сьлюньковым і той падпісаў рашэньне гэтай камісіі, дзе асноўны вывад: "Подписавшие письмо правы!" Гэтая вестка выходзіла наўпрост з ЦК праз сяброў Лецкі і ўзьняло ўсім нам настрой.

*24 студзеня 1987 г.*

Раніцай наведаў Зьмітра. Ён яшчэ нічога ня ведаў і таму быў узрушаны інфармацыяй. Дамовіліся паўплываць на Міколу, каб той суцішыўся з сваім лістом наконт справы зь сьцяжкамі. Гэта яўная правакацыя, і Антановіч толькі й чакае ад Міколы нейкіх крокаў.

Увесь дзень прайшоў спакойна ў размовах зь Яўгенам.

*25 студзеня 1987 г.*

Уранку патэлефанаваў П. Сказаў, што чакае. Сустрэча зь ім была неабходная, каб неяк зьняць непрыемны настрой. Адчувалася напружаньне ў пераходзе да на-

шае тэмы. Нарэшце я ўзьбіўся на яе і не даваў гаспадару магчымасьці пераключыцца на літаратурныя праблемы.

Нечакана зьявіўся Уладзімір Крукоўскі. Ён яшчэ ня быў знаёмы зь лістом, і таму гаворка адразу ж набыла неканкрэтны характар. Ад такой размовы П. ня вельмі ачуняў, а магчыма, стаў яшчэ больш прыгнечаны і ўсё нібы стараўся апраўдаць сваё стаўленьне да гэтай справы: "Аніякай надзеі на лепшае няма. Невядома, ці да лепшага ўсе гэтыя захады. Цішэй едзеш – далей будзеш!" Ня мог я з такімі думкамі пагадзіцца. Але трэ' было неяк улагодзіць дачыненьні, і таму падтрымліваў усялякія размовы. Адышлі разам з Крукоўскім, пакінуўшы П. у нейкім незразумелым стане. Неўзабаве пры якой нагодзе варта было б зноў наведаць яго.

Намерыліся зрабіць некалькі адбіткаў ліста, каб раздаць тым людзям, якія маюць права быць далучанымі і якія адчуваюць сябе нібыта абыдзенымі. Пасьля ўсяго, што адбылося, ліст ужо не таямніца і выходзіць з-пад кантролю. Таму трэба, каб пра яго і ягоныя ідэі ведалі як мага шырэй. Цяпер ён будзе жыць сваім уласным жыцьцём.

*Падрыхтаваўда друкуЗьміцер Санько*



## Герой антыкамуністычнага супраціву

**Чарняўскі М.** Як пошуг маланкі: Расціслаў Лапіцкі. Мн.: Тэхналогія, 2006. – 71 с., іл.

**"Ня бойцеся ахвяраў і пакут!"**: Дакумэнты і матэрыялы пра дзейнасьць мядзельска-смаргонскага антыкамуністычнага падзем'я (1948–1950 гг.) / Уклад. М. Чарняўскі. – Вільня: Наша Будучыня, 2006. – 153 с., іл.

Кожны дасьледнік, які хацеў бы заняцца вывучэньнем пасьляваеннага антыкамуністычнага руху ў Беларусі, сутыкаецца шмат зь якімі перашкодамі. Галоўная сярод іх – недаступнасьць судовых справаў удзельнікаў супраціву. Яны, як і раней, ляжаць у спэцсховішчах Камітэту дзяржаўнай бясьпекі. Але іх адсутнасьць, як паказвае практыка, не зьяўляецца нагэтулькі драматычнай, каб апускаць рукі. Бо, на шчасьце, акрамя замкнёных дзяржаўных архіваў ёсьць яшчэ адна крыніца інфармацыі – людзкая памяць.

Бадай, самая прыкметная падзея ў беларускім кнігавыданьні сёлета – зьяўленьне дзьвюх кніг пра малавядомую старонку нашай гісторыі ў эпоху панаваньня камуністаў – дзейнасьць мядзельска-смаргонскага падзем'я. Першая зь іх выйшла ў вядомай сэрыі "Нашы славутыя землякі" і прысьвечаная Расьціславу Лапіцкаму, арганізатару і кіраўніку гэтага падзем'я. Другая зьмяшчае занатаваныя аўтарам успаміны паплечнікаў Лапіцкага і сьведкаў тых падзеяў, а таксама выпісы з судовых справаў Маладзечанскага абласнога суду. Абедзьве напісаў гісторык, добра вядомы сваімі манаграфічнымі працамі пра эпоху неаліту і шматлікімі навукова-папулярнымі кнігамі па старажытнай, сярэднявечнай і найноўшай гісторыі Беларусі, якія маюць свайго зацікаўленага і ўдзячнага чытача.

Цягам гадоў, сустракаючыся і лістуючыся з удзельнікамі і сьведкамі той трагічнай барацьбы, дасьледнік па каліўцу аднаўляў тое, што, здавалася, ужо сышло ў нябыт. І хоць у рэканструяванай хадзе даўнейшых падзеяў засталіся прыкныя лякуны, прагалы, у цэлым вынік гэтай карпатлівай і мэтанакіраванай працы трэба прызнаць выдатным. Дзякуючы Міхасю Чарняўскаму перад намі паўстала жывая карціна змаганьня нашай самаахвярнай моладзі з таталітарнай сыстэмай.

Надоечы адзін мой калега, паказаўшы кнігу "Як пошуг маланкі", узрушана сказаў: "Прачытаў яе – і ня мог заснуць. Які чалавек! Такія нараджаюцца раз на сто гадоў!"... Сапраўды, з гэтага выданьня перад намі паўстае незвычайная асоба, надзеленая многімі талентамі: ён выдатна маляваў – і партрэты, і краявіды, хораша сьпяваў і граў на розных музычных інструмэнтах, пісаў музыку, экспромтам складаў вершы, нават школьныя сачыненьні пісаў у вершаванай форме. Меў здольнасьці да майстраваньня і вынаходніцтва – рабіў радыёпрыймальнікі, змайстраваў адмысловую электрычную прыладу ("электрамашыну"), каб лячыць хворых, зрабіў драўляны ровар, мог зладзіць выбуховую прыстасову, займаўся фотасправай. Меў таварыскі, грамадзейскі характар, вылучаўся абаяльнасьцю і дасьціпнасьцю. Быў не па гадах разумны і разважлівы. Карыстаўся вялікай павагай, нават сталыя людзі прыслухоўваліся да яго, прыходзілі раіцца. А дзеці, калі ён праходзіў непаводдаль, сьціхалі, быццам ішоў настаўнік. У яго была шчырая і добрая душа, адкрытая на чужы боль і чужы клопат. Ахвотна адгукаўся на кожную просьбу – і старога, і малога. Але, чулы і спагадлівы да сяброў, ён быў бескампрамісны да ворагаў Бацькаўшчыны, якія несьлі гэтулькі няшчасьцяў нашаму шматпакутнаму народу.

Расьціслаў Лапіцкі паходзіў зь вядомага шляхоцкага роду. Нарадзіўся 1 верасьня 1928 году ў вёсцы Касуты*

*Родам з Касуты, дарэчы, яшчэ адзін славуты беларус, Піліп Орлік (1672–1742), якога вельмі шануюць ва Украіне: ён быў гетманам пасьля Івана Мазепы і стваральнікам першай украінскай канстытуцыі.

на Вялейшчыне, у сям'і праваслаўнага сьвятара Аляксандра Лапіцкага. Усе дзеці – старэйшыя Вадзім, Алег, Вольга і малодшы Расьціслаў – вырасьлі шчырымі вернікамі і адданымі беларускімі патрыётамі.

Яшчэ ў 1944 годзе, калі нямецкую акупацыю зьмяніла савецкая, праз старэйшага брата Алега – навучэнца Віленскай духоўнай сэмінарыі – Расьціслаў далучыўся да нелегальнай патрыятычнай арганізацыі беларускай моладзі Віленшчыны і Вільні. Пасьля выкрыцьця арганізацыі і арышту яе ўдзельнікаў 16-гадовы Расьціслаў таксама трапіў за краты – на тры гады, як непаўналетні. Адзін з асуджаных, Віктар Казлоўскі, пазьней успамінаў, як зь іхнага доўгага шэрагу, пастаўленага на турэмным калідоры перад этапам, выйшаў малады хлопец і, павярнуўшыся да зьняволеных, крыкнуў: "Браты, нас нішчылі цары і каралі, зьдзекаваліся палякі, нас душылі немцы, зьнішчалі маскалі, але мы жылі, жывем і будзем жыць на нашай зямлі. І таму вышэй галаву, сябры, ня падайце духам, мы пераможам! Жыве Беларусь!" Гэта быў Расьціслаў Лапіцкі. Сьледчы, разумеючы, зь якой неардынарнай асобай ён мае справу, казаў яму тады: "Ты, хлопча, або станеш вялікім чалавекам, або цябе заб'юць".

У пасьляваеннае дзесяцігодзьдзе, як адзначае Міхась Чарняўскі, абласныя суды (а ў БССР на той час было 12 абласьцей) штогод разглядалі па некалькі дзясяткаў палітычных справаў. Няспынна працавалі і ваенныя трыбуналы. Абвінавачаньні былі аднолькавыя: антысавецкая агітацыя і прапаганда, захоўваньне антысавецкай літаратуры або зброі, удзел у антысавецкай партызанцы або дапамога ёй, удзел у арганізацыях, якія ставілі за мэту "ліквідацыю савецкай улады, адрыў Беларусі ад СССР і ператварэньне яе ў буржуазную дзяржаву".

Найбуйнейшыя антыкамуністычныя арганізацыі былі зьліквідаваныя карнымі органамі ў першыя паваенныя гады. Аднак і пазьней зноў і зноў знаходзіліся людзі, асабліва сярод моладзі, якія гуртаваліся дзеля змаганьня за свабоду і дэмакратыю. У гэтым шэрагу выдатнае месца займае мядзельска-смаргонскае падзем'е вучнёўскай моладзі, арганізатарам і кіраўніком якога быў Расьціслаў Лапіцкі…

15 чэрвеня 1950 году ў Маладзечне адбыўся суд над патрыётамі – пераважна вучнямі 7–10-х клясаў Смаргонскай і Мядзельскай школ, некаторымі навучэнцамі зь Менску. Іх абвінавачвалі ня толькі ў "вражеской пропаганде", але і ў зьдзяйсьненьні тэрарыстычных актаў. Сьведчаньні Расьціслава Лапіцкага на судзе былі прамовамі-абвінавачаньнямі рэжыму. Ён гаварыў, як бальшавікі выгналі яго сям'ю з хаты на мароз, як яны зьняважаюць за веру ў Бога, зачыняюць цэрквы і касьцёлы, як прыніжаюць беларускую мову, як душаць людзей празьмернымі падаткамі, даводзячы да самагубства.

Бальшыню падземнікаў ваенны трыбунал засудзіў на 25 гадоў. Карай кіраўніку арганізацыі вызначылі расстрэл. Насуперак спадзяваньням катаў Расьціслаў Лапіцкі адмовіўся прасіць памілаваньня. Ён з абурэньнем заявіў: "Рабеце сваю чорную справу, мне вашае ласкі ня трэба – можаце мяне забіваць. А я, колькі жыць буду, гэтулькі буду вас усіх ненавідзець і буду вам шкодзіць праз увесь час".

Справа мядзельска-смаргонскага падзем'я была вядомая тады на ўвесь Савецкі Саюз, – зразумела, у асяродзьдзі камуністычнай намэнклятуры. Рэспубліканская камсамольская арганізацыя фігуравала ў сувязі зь ёю як прыклад грубых пралікаў у выхаваньні школьнай моладзі. Камуністычная прапагандысцкая машына імкнулася выкарыстаць гэтую справу для ўзмацненьня свайго ўплыву на маладое пакаленьне. П. Машэрава, які ўзначальваў "камсамолію" ў БССР, ужо зьбіраліся здымаць з пасады. Утрымаўся ён дзякуючы заступніцтву прысланага з Масквы М. Патолічава, новага 1-га сакратара ЦК КПБ.

Кожны, хто хоць збольшага азнаёміцца з гэтымі кнігамі, зразумее, што спрэчка пра тое, было ці не было ў Беларусі дысыдэнцтва, ня мае сэнсу. У Беларусі быў шырокі антыкамуністычны супраціў, у якім стыхійна або арганізавана ўдзельнічалі людзі рознага веку і з розных пластоў грамадзтва. "Але наша краіна знаходзілася тады пад вельмі шчыльным "каўпаком", – справядліва адзначае аўтар, – і таму зьвесткі пра змаганьне і рэпрэсіі не траплялі на старонкі эўрапейскіх газэт, у перадачы радыёстанцый вольнага сьвету. Беларускія змагары за дэмакратыю і нацыянальныя правы не маглі спадзявацца на нейкі розгалас, маральную падтрымку, на памяць у будучым. Лёс іх трагічны, яны сыходзілі ў невядомасьць".

Міхась Чарняўскі на сёньняшні дзень – бадай, адзіны ў Беларусі прафэсійны гісторык, які займаецца вывучэньнем паваеннага антысавецкага супраціву. І вельмі ўсьцешна, што плён ягоных намаганьняў гэтакі важкі. Ён падае сучасным маладым дасьледнікам прыклад, як працаваць і, галоўнае, якіх бліскучых вынікаў можна дасягнуць ва ўмовах "архіўнай блякады".

*Аксеня Гаўрук*

Падпісана да друку 15.12.06. Фармат 60 х 84 1/8. Ум. друк.арк 4,19.
Наклад 200 паасобнікаў Замова № 237.
Друк "ADL".Taikos, 115.2654 Vilnius